# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

**BYELORUSSIAN THOUGHT**

**ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСАПІС**

Год выд. 15 - 16 | 1973 - 1974 | № 16 - 17

## Пагроза Савецкай Расеі расьпе

Шмат каленіяльных народаў Афрыкі і Азіі пасьля Другой Сусьветнай Вайны было вызвалена з няволі. Гэтыя народы сягоньня жывуць у сваіх сувэрэнных дзяржавах, якія зьяўляюцца поўнапраўнымі сябрамі сусьветнай міжнароднай Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў.

Аднак, народы Эўропы і Азіі, заваяваныя Савецкай Расеяй, афіцыйна званай Саюзам Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, да сягоньня гібеюць у каленіяльнай няволі. Маскоўскі ўрад СССР трымае пад сваім панаваньнем больш за 75 дзяржаў, народаў і нацыянальнасьцяў. Каля паловы насельніцтва СССР становяць нерасейскія народы. Гэтыя народы сягоньня знаходзяцца ў розных стадыях саветызацыі і русыфікацыі. Аднак, усе яны мадзеюць у абставінах эканамічнай эксплёатацыі Расеяй і ў палітычнай няволі Расеі. Адначасна, паняволеныя народы скарыстоўваюцца Расеяй як прамысловае і гарматнае мяса для разбудовы і ўтрыманьня агрэсыўнай магутнасьці Расейскай імпэрыі.

Да ўспомненай групы каленіяльных народаў належыць і беларускі народ. Урад Савецкай Расеі збройна разграміў беларускую канстытуанту — Першы Усебеларускі Кангрэс — дня 17 сьнежня 1917 г. Савецкая Расея заваявала Беларускую Народную Рэспубліку і на малой частцы беларускай тэрыторыі стварыла ў 1919 годзе сваю сатэлітную Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку. Каля паловы беларускай тэрыторыі было далучана да Расейскай СФСР. Беларускі народ быў пазбаўлены ўсіх дэмакратычных свабодаў, улучаючы свабоду рэлігіі, свабоду палітычнага, эканамічнага і нацыянальна-культурнага жыцьця. БССР была поўнасьцю падпарадкаваная цэнтральнаму ўраду ў Маскве і пастаянна кіравалася і кіруецца Маскоўскім урадам згодна з патрэбамі расейскай палітыкі.

Беларуская нацыянальная інтэлігэнцыя і мноства сялян было вынішчана масавым тэрорам рукамі расейскіх камуністых. На працягу 56 год акупацыі Беларусі агулам вынішчана Расеяй звыш 6 мільёнаў беларускага насельніцтва. На кіруючыя становішчы ў Беларусі прызначаюцца расейскія камуністыя. Беларускія гарады масава засяляюцца прысыланымі расейцамі. Ад сялян адабраная зямля, а сяляне змушаныя працаваць у калгасах як нявольнікі-прыгоньнікі. Дзяржава-собсьнік прадпрыемстваў, ператвораная ў найгоршага эксплёататара працоўных людзей, перавыўшае старажытнае рабаўласьніцтва найбольш дзікіх дэспотыяў.

На Беларусі ў адміністрацыю, школы, друк, кіно, тэлебачаньне і г. п. ўведзена замест беларускай расейская мова, зводзячы беларускую мову да становішча пагарджанай і выцісканай з карыстаньня.

Беларускі народ пазбаўлены свайго волевыяўленьня і абмежаваны да функцыяў сьляпога выконваньня загадаў расейскага ўраду з Масквы.

Місія БССР пры Аб'еднаных Нацыях абсаджана расейцамі, якія і рэпрэзэнтуюць беларускі народ. Звычайна да гэтай місіі дадаецца некалькі беларусоў, на выпадак патрэбы маскіроўкі навонкі расейцаў беларусамі.

Такі расейскі камунізм утрымліваецца на Беларусі шляхам пастаяннага жорсткага тэрору.

У 1973 годзе ўрад Савецкай Расеі ўвёў новы эканамічна-адміністрацыйны падзел усяе тэрыторыі СССР на 7 гаспадарчых абшараў. Гэты падзел поўнасьцю ігнаруе этнічнымі межамі народаў і саюзных дзяржаў СССР, як і іхнымі нацыянальным патрэбамі. За аснову прыняты толькі патрэбы росту магутнасьці расейскай імпэрыі. Межы паасобных дзяржаў маюць быць зьмененыя, парушаючы нацыянальна-этнаграфічны прынцып, на карысьць цэнтралістычна-палітычнага.

Беларуская ССР, Літоўская ССР Лацьвійс-

кая ССР і Эстонская ССР далучаны непасрэдна да паўночна-цэнтральнага расейскага абшару. Гэтае далучэньне будзе скарыстанае для больш афэктыўнай эксплёатацыі Беларусі і Прыбалтыкі расейцамі і для больш хуткай русыфікацыі іх.

Як гэта відаць, сучасная нацыянальная палітыка Савецкай Расеі сваімі мэтадамі варочаецца да мэтадаў былой царскай Расеі, дзе існаваньне заваяваных нерасейскіх народаў поўнасьцю ігнаравалася ўрадам. У сучаснасьці пакуль што яшчэ фігуруюць назовы саюзных рэспублік СССР, але яны існуюць толькі на афіцыйных паперах, хіба як анахранізм, бяз ніякага рэальнага значэньня для паняволеных народаў.

У палове жніўня 1973 г. Савецкая Расея пасьпяхова выпрабавала баллістычную зброю са шмат-галовымі атомнымі бомбамі з аднаго стрэлу. Паводле часапісу "У.С. Ньюс энд Ворлд Рэпорт" з дня 3 верасьня 1973 г., бал. 59, згодна з фармальнай дамоўленасьцяй паміж ЗША і Расеяй, падпісанай летась, былі ўстаноўленыя наступныя абмежаваньні баллістычных арсэналаў да сярэдзіны 1977 г.:

баллістычная зброя сухаземная:
ЗШПА — 1,000; СССР — 1,350
баллістычная зброя падводных чоўнаў:
ЗШПА — 710; СССР — 950
Разам: ЗШПА — 1,710; СССР — 2,300

Расейская перавага ў лічбе гэтай зброі была тэарытычна перавышана амэрыканскім валоданьнем шмат-галовых атомных бомбаў з аднаго баллістычнага стрэлу. Ня было зроблена абмежаваньняў што да колькасьці шмат-галовых бомбаў з аднаго стрэлу. У такіх абставінах зараз Савецкая Расея ў блізкім часе магутнасьцяй сваей атомнай зброі перавысіць кожную іншую краіну на зямлі.

У палове ліпеня 1973 г. Савецкая Расея запусьціла ў стратасфэру 580-га сатэліта навакол зямлі. Агулам за мінулы год СССР запусьціла звыш 80-ці сатэлітаў, або больш чым 3 у кожныя 2 тыдні. Гэта сьведчыць аб надзвычайна інтэнсыўнай падрыхтоўцы Расеі да гэгэмоніі над усім сьветам шляхам вялікай супрэмацыі свайго атомнага арсэналу.

Др. Шлесінгэр, Сакратар Абароны ЗШПА, дня 17 жніўня 1973г. асьведчыў, што СССР стварыць сур'ёзныя праблемы для ЗШПА з часам, калі Саветы дадуць шмат-галовыя атомныя бомбы на ўсю іх балістычную зброю. Бо тады Саветы будуць перавышаць як колькасьцяй баллістычнай зброі, так і іх разбуральнай сілай.

Андрэй Сахараў, сябра Акадэміі Навук СССР, які зрабіў асноўны ўклад у вынахад вадароднай бомбы Расеяй, у жніўні 1973 г. асьведчыў аб вялікай небясьпецы для краін вольнага сьвету, пагражаючай ім з боку СССР. Ён казаў, што сучасная эканамічная і тэхналёгічная дапамога сьвету для СССР дасьць яму магчымасьць яшчэ больш павялічыць збройныя сілы. Вольны сьвет будзе бездапаможны супроць узброенага да зубоў СССР, папераджаў Сахараў.

Некаторыя колы кіруючых краін сьвету пацяшаюць сябе тым, што Расея слабая, бо ня можа сябе пракарміць нават хлебам, бо купляе яго досыць часта ў краінах вольнага сьвету, а перадусім у Амэрыцы. Аднак, тут трэба прыняць пад увагу адмысловую палітыку ўраду Савецкай Расеі аб пяршынстве разбудовы прамысловасьці, а перадусім — вайсковай прамысловасьці, якая вырашае аб магутнасьці і экспансыўным патэнцыяле ў сучаснасьці. Купляючы хлеб па таннай цане ад заходніх краін у такіх абставінах, расейскі ўрад карыстае з ранейшых указаньняў Леніна аб тым, што заходні сьвет прадасьць сваім ворагам нават тую вяроўку, на якой гэты захад павесяць.

Сучасная палітыка вонкавага суіснаваньня і супрацоўніцтва Расеі з заходнім сьветам крые ў сабе вельмі небясьпечны сукрыты намер Расеі аб асягненьні канчатковай і беспаваротнай мілітарнай перавагі яе над заходнім сьветам. Гэты траянскі намер павінен быць рашуча зьнейтралізаваны. Заходні сьвет павінен абмежаваць Расею да расейскай этнаграфічнай тэрыторыі і дамагчыся вызваленьня ўсіх не расейскіх народаў, над якімі яна зараз пануе. Такая Расея ня будзе ні патэнцыянальным, ані актуальным агрэсыўным дзейнікам у міжнародным асягу. Вызваленьне беларускага народу, як і іншых падсавецкіх народаў з расейскага каленіялізму і адбудовы іх незалежных дзяржаваў, адхіліць вялікую пагрозу атомнай вайны і няволі, якія Савецкая Расея зараз пасьпешна рыхтуе, для яшчэ вольных народаў. З другога боку, ідэі свабоды, справядлівасьці і роўнасьці, застасаваныя нядаўна ў дачыненьні да каленіяльных народаў Афрыкі і Азіі, павінны знайсьці такое самае застасаваньне і да каленіяльных народаў, уцісканых і эксплёатаваных Савецкай Расеяй ува ўсходняй і цэнтральнай Эўропе і паўночна-заходняй Азіі.



*Б. Шгорс.*

# Вялікая дачка Беларусі

*(На 800-ыя ўгодкі сьмерці сьв. Еўфрасіньні Полацкай.)*



Сёлета (23 траўня ст. ст.) споўнілася 800 гадоў ад сьмерці найвялікшай рэлігійнай і грамадзка-палітычнай дзеячкі беларускага народу ў пачатках яго станаўленьня — сьв. Еўфрасіньні, у сьвецкім жыцьці Прадславы, унучкі славутага князя Усяслава Чарадзея Полацкага.

Жыцьцё і дзейнасьць нашае прасьветніцы і наагул гісторыю Полацкага княства можна прасачыць на падставе дайшоўшых да нас летапісных запісаў-хронікаў і "Житие и хождение святые Евфросиньи".

Полацкая зямля, узгадаваўшая сьв. Еўфрасіньню, займала ў тыя часы асобае палажэньне сярод другіх княстваў. Яна была цесна зьвязана воднымі шляхамі ("Шлях з Варагаў у Грэкі", рэкі Заходняя Дзьвіна, Палата і інш.) з другімі дзяржавамі.

Дзякуючы свайму палажэньню, Полацкае княства ўжо ў X і XI ст. ст. было эканамічна разьвітае і багатае. У многіх гарадох, як у Полацку, Віцебску, Менску, Друцку і інш. разьвіваўся гандаль, рамесьніцтва, мастацтва. Археалагічныя дадзеныя сьведчаць і аб шырокім распаўсюджаньню пісьменнасьці (берасьцяныя граматы), якой карысталіся ня толькі ў рэлігійным жыцьці, але і ў сьвецкім, штодзённым.

Заслугоўваюць на ўвагу шырока распаўсюджаныя па ўсім Полацкім княстве гэтак званыя Барысавы каменьні з напісамі-зваротамі полацкіх князёў як "Господи помози рабу своему Борису" і інш.

Высокі ўзровень разьвіцьця Полацкага княства, а таксама яго геаграфічнае палажэньне спрычыніліся да раньняга самастойнага палітычнага развою. Тут у Полацку гаспадарыла свая княжацкая дынастыя Рагвалодавічаў і Усяславічаў, якая мела падтрымку ад усенароднага веча.

Кульмінацыйнага развою Полацкае княства асягнула падчас уладаньня Усяслава Вялікага, празванага "Чарадзеем". Пасьля ягонае сьмерці, аднак, княства аслабляецца ў сувязі з падзелам яго на ўдзельныя княствы. З гэтага карыстаюць суседзі, асабліва, Кіеўская Русь, якая ўвесь час імкнулася падпарадкаваць сваёй уладзе Полацкае і іншыя княствы.

У XII стагодзьдзі Полацкае княства падпадае пад уладу кіеўскіх князёў. У гэты, няспрыяльны для Полацка, час і радзілася князёўна Прадслава. (Дакладны год яе нараджэньня яшчэ і да гэтага часу не ўстаноўлены дасьледчыкамі і вагаецца паміж 1104-1110 г.г.) Бацька яе Юры-Сьвятаслаў — сын слаўнага Усяслава Чарадзея, надзелу свайго ня меў, жыў у Полацку пры двары брата свайго Барыса.

Маладая Прадслава адзначалася надзвычайнай прыгажосьцю і розумам, таму з маладых гадоў мела шмат паклоньнікаў сярод князёў, якія прапанавалі ёй выйсьці замуж. Аднак, сьвецкае жыцьцё ёй не імпанавала. Яна дала сабе абет пасьвяціцца Богу. Яна ўцякае ў манастыр, дзе ігуменьняй была яе цётка — удава князя Рамана Усяславіча. Пры яе дапамозе Прадслава пастрыгаецца ў манашкі з імем Еўфрасіньня.

Некалькі гадоў яна прабывае ў манастыры свае цёткі, пасьля перабіраецца ў Полацк і жыве ў кельлі Сафійскага сабору, пабудаванага яе дзедам Усяславам у 1044-1066 г. г. Тут яна карыстаецца з вялікай бібліятэкі, якая была пры саборы, займаецца перапіскаю кніг, робіць пераклады з грэцкае і лацінскае моваў на родную і (ёсьць дадзеныя і дапушчэньні) піша свае ўласныя працы (творы), як "Летапіс Полацкага княства", якія, праўда, да нас не дайшлі. Як бачым, яна была вельмі адукаванай асобай на той час. Грэцкую мову яна ведала ад маткі, якая паходзіла з роду бізантыйскіх імператараў Комнэнаў.

Тагачасны Полацкі епіскап Ільля, бачачы яе працу, здольнасьці і ахвярнасьць служыць Бо-

гу і народу і — паводле “Житіе...” — атрымаўшы ад ангела Божага, што “пачывае Дух Сьвяты на ёй” і наказ перадаць Еўфрасіньні царкву Спаса ў Сяльцы, каля Полацка, урачыста перадае ёй царкву і япіскапскія землі.

У Сяльцы Еўфрасіньня разгортвае шырокую дзейнасьць: закладае новы жаночы манастыр і становіцца яго ігуменьняй. Пры манастыры закладае жаночую школу, што ў той час было вялікім дасягненьнем і вымоўна сьведчыць аб разьвіцьці навукі ў Полацкім княстве.

Манастыр сьв. Еўфрасіньні рос, разьвіваўся і пашыраўся. Сюды ахвотна аддаюць у навуку сваіх дочак князі і знатныя мужы Полацкай зямлі. Тут прыняла пострыг у манашкі і сястра Еўфрасіньні Градзіслава, названая Еўдакіяй і стрыечная сястра (дачка князя Друцкага) Зьвеніслава, якая атрымала імя Еўпраксія.

Манастыр сьв. Еўфрасіньні прасіяў як “сьвяцільнік” на ўсю Полацкую зямлю і быў ведамы далёка па-за яе межамі.

Сьв. Еўфрасіньня пашырала і ўзмацняла хрысьціянскую веру і навуку сярод насельніцтва, тым болей, што яшчэ і ў тыя часы, з-за блізкасьці паганскае Літвы, уплывы паганства былі даволі значнымі.

Па яе плянах была пабудаваная новая мураваная Спаса-Прэабражэнская царква, якая, паводле гісторыкаў архітэктуры, зьяўляецца найбольшым здабыткам стара-беларускага будаўніцтва. Пабудаваў яе беларус — полацкі майстар-дойлід Іван — у працягу 30 тыдняў. Урачыстае высьвячэньне яе адбылося незадоўга перад сьмерцю полацкага князя Барыса, у 1128 годзе.

Акрамя гэтага, стараньнямі сьв. Еўфрасіньні была пабудаваная царква Прэсьвятое Багародзіцы, пры якой быў арганізаваны мужчынскі манастыр.

Па просьбе сьв. Еўфрасіньні, Канстантынопальскі Патрыярх Лука Хрызовер прыслаў манастыру ікону Божае Маці — царгародзкую і дрэва ад крыжа Гасподняга.

У 1161 г. сьв. Еўфрасіньня падаравала ў царкву Спаса настольны крыж, зроблены слаўным полацкім майстрам Лазарам Богшай. Крыж зроблены з срэбра і золата, упрыгожаны дарагімі каменьнямі і мае шасьціканцовую форму, такую, якую ўжывалі Патрыярхі ў Бізантыі. На бакох крыжа быў напіс-заклінацце, каб ніхто ня вынес яго з царквы. У канцы ручкі мастак зьмясьціў наступны напіс: “Господи, помози рабу своему Лазарю нареченому Богъши, сдѣлавшему крестъ сей црькви Спаса и Офросиніи”.

Еўфрасіньнеўскі крыж, якім яна карысталася, сьведчыць аб тым, што яна мела вельмі вялікі ўплыў ня толькі ў рэлігійным жыцьці, але і ў грамадзка-палітычным.

У гэты час Полацкае княства падпала пад уладу Кіева, князі былі высланыя ў Грэцыю і ёсьць дадзеныя, што Еўфрасіньня і яе маці з-за муроў манастыра, дзе яны былі недасягальныя, кіравалі княствам. Яна карысталаася і адмысловаю пячаткаю і вяла шырокую перапіску з суседзямі, асабліва з Бізантыяю.

Манастыр сьв. Спаса адыгрываў вядучую ролю ў жыцьці княства, а пра яго заснавальніцу летапісец кажа: “Якою мовою, браты, належыцца нам усхваляць сьветазорную памяць прэпадобнае нявесты Хрыста — Еўфрасіньні?.. Яна была памочніцай пакрыўджаных, сумуючым пацеха, згалелых адзявальніца, проста кажучы, усім усё была... Еўфрасіньня арол паднебны, які пралятаў ад захаду да ўсходу і як сонечны прамень асьвятляў усю Полацкую зямлю.”

У 1173 годзе сьв. Еўфрасіньня з пляменьнікам Давідам і стрыечнаю сястрою Еўпраксіяй прадпрымае падарожжа ў Сьвятую Зямлю, у Ерусалім. Па дарозе яна спатыкаецца з бізантыйскім імпэратарам і наведвае Канстантынопаль.

У Ерусаліме, пасьля пакланеньня Сьвятым Месцам, захварэла і памерла 23 траўня 1173 г.

У 1187 г. яе мошчы былі перавезеныя ў Кіеў, і толькі ў 1910 г. перанесеныя ў родны Полацк, дзе іх спатыкалі, будуючы адмысловыя брамы-аркі з напісам: “Гряди радосте наша — преподобная Евфросинія”.

Хутка пасьля сьмерці яна была прызнаная сьвятою на бацькаўшчыне і ў Ерусаліме. У Маскве прызналі яе сьвятою толькі ў XVI стагодзьдзі.

Пры бальшавікох мошчы яе знаходзіліся ў антырэлігійным музэі ў Віцебску.

Падчас нямецкае акупацыі Беларусі ў II Сусьветную вайну, беларусы перанесьлі іх спачатку ў Сьвята-Пакроўскую царкву ў Віцебску, а пасьля — у сабор сьв. Сафіі ў Полацку і з Сафійскага сабору у царкву Спаса. Аб гэтым апошнім пераносе чэсных мошчаў сьв. Еўфрасіньні вельмі цікавы і зьмястоўны артыкул напісаў ведамы беларускі пісьменьнік і журналісты Юрка Віцьбіч — жывы сьветка і ўдзельнік гэтае падзеі ў верасьні 1943 г., (гл. часапіс “Царкоўны Сьветач №1(22) 1973 г. ст. 6-11, “Вачыма жывога сьветкі”).

Дзе знаходзяцца мошчы сьв. Еўфрасіньні сёньня — невядома. Таксама невядома, дзе знаходзіцца крыж сьв. Еўфрасіньні. Бальшавікі цьвердзяць, што яго ўкралі немцы ў 1941 г. з Магілёўскага гістарычнага музэю. Але ці гэта так?



Памяць нашае прасьветніцы сьв. Еўфрасіньні — несьмяротная. 800-годзьдзе яе ўпакаеньня беларусы адзначаюць ўва ўсім сьвеце, куды іх закінуў лёс. Толькі ў БССР юбілей гэты не адзначаўся, калі ня лічыць артыкулаў і артыкульчыкаў, што зьмяшчаліся сёлета ў падсавецкай беларускай прэсе.

Яры камуністы, гора-гісторык Дзяржаўнага Беларускага Унівэрсытэту ў Менску Л. Абэцэдарскі, у газэце “Советская Белоруссия” (заўважце: нават афіцыйны орган Ураду “беларускае нацыянальнае рэспублікі — БССР” — выдаецца на расейскай мове! — Рэд.) у нумары за 17 траўня 1973 г. імкнецца дыскрымінаваць памяць сьв. Еўфрасіньні, а яе дзейнасьць уважае за шкодную і рэакцыйную. Аднак, знайшліся ў БССР і сапраўдныя навукоўцы, аб'ектыўныя гісторыкі як: ведамы беларускі гісторык Г. Штыхаў, які зьмясьціў у часапісе “Маладосьць” (травень 1973 г.) аб'ектыўны артыкул аб жыцьці і дзейнасьці сьв. Еўфрасіньні пад загалоўкам “Асьветніца з Полацка”, а таксама Мікола Ермаловіч, які надрукаваў артыкул “Яко луна солнечная...” ў часапісе “Полымя” (№8 за жнівень 1973 г., бб. 224-228).

Хоць кароткія зацемкі пра сьв. Еўфрасіньню, але з больш-менш праўдзівым насьвятленьнем яе жыцьцяпісу і дзейнасьці (бязумоўна, у рамках савецкае цэнзуры), надрукаваны ў часопісе “Беларусь” №5, за травень 1973 г. арт. М. Прашковіча “Беларуская асьветніца. Да 800-годздзя з часу сьмерці Ефрасіньні Полацкай.” (б. 28).

Памяць сьв. Еўфрасіньні адзначылі таксама некаторыя паэты і пісьменьнікі ў сваіх творах. Нават архіяпіскап Менскі і Беларускі Антоні маскоўскі стаўленік, расеяц і супрацоўнік КГБ (у міру Анатолі Сяргеевіч Мельнікаў, народжаны ў 1924 г. ў Маскве) зьмясьціў аб сьв. Еўфрасіньні аб'ектыўны артыкул у часапісе “Богословские труды” №9 (выданьне Маскоўскай Патрыярхіі, Масква, 1972 г.).

Мы амаль упэўнены, што некаторыя беларускія сьвятары на бацькаўшчыне патаемна маліліся нашай Апякунцы і прасілі яе заступіцца за наш народ перад Усявышнім.

Беларусы на эміграцыі прысьвячаюць яе імяні свае новазбудаваныя цэрквы, як імпазантная царква ў Саўт Рывэры (ЗША), у Торонто (Канада) і інш.

---

**А. Калубовіч**

# Архіяпіскап Варлаам (Шышацкі) (1749--1823 гг.)

*(На 150-ыя ўгодкі сьмерці)*

3-га ліпеня 1813 г. у перадсьвітальных прыцемках із Магілёва таропка выязджала закрытая карэта. Горад яшчэ спаў, калі із архірэйскага замку жандар і сьвятар вывелі трэцяга й зараз-жа фурману загадалі ад'язджаць. Калі карэта ўехала на Быхаўскі тракт, узяўшы кірунак на поўдзень, той трэці ў вапошні раз агляну́ўся назад і, наколькі гэтаму дазваляла маленькая шыба, глянуў на горад, на цёмныя сілуэты царкоўных галоў, тануўшых у пашарэлым небе, і перахрысьціўся.

Хто-ж гэта трэці? Куды вяла ягоная дарога? Ім быў архіяпіскап Магілёўскі й Віцебскі, Варлаам (Шышацкі); а дарога ягоная вяла ў ссылку. Пра яго, незаслужана намі забытага, гэты артыкул.

⁂

...Пачыналася напалеонаўская вайна.

Агромністая армія эўрапэйскай кааліцыі ў раёне Коўні перайшла мяжу Расейскай імпэрыі — Нёман. Палову гэтай Вялікай арміі (як яна мянуецца ў гісторыі) складалі французы; другую палову (болей за 200.000 жаўнераў) — фармацыі Прусіі, Аўстрыі, Італіі, Саксоніі, Баварыі, Вэстфальскага каралеўства, Вялікага гэрцагства Варшаўскага й іншых краёў. Гэта была армія, што гаварыла на 16 мовах.

Па простай лініі яна йшла на Вільню, “нідзе не спатыкаючы ніякіх азнакаў супраціву”[1].

На чале арміі стаяў францускі імпэратар Напалеон Банапарт, які добра ведаў, што нутраная адсталасьць і дэспатызм Расеі зусім ня спынялі яе ад захопу ўсё новых і новых тэрыторыяў. 15. VIII. 1811 г. у Цюільрыйскім палацы ў Парыжы на ўрачыстым прыёме дыпляматаў расейскаму паслу Куракіну ён публічна сказаў: “...Я не хачу вайны... але вы самі хочаце далучыць да Расеі гэрцарства Варшаўскае й Данцыг... Пакуль тайныя намеры вашага двара ня стануцца адкрытымі, я буду павяліч-

1) Е.В. Тарле. 1812 год, АН СССР, Москва, 1959 г., б. 255.

ваць армію, каторая стаіць у Нямеччыне!..[2] Вы разьлічваеце на саюзьнікаў, але дзе яны? Ці ня Аўстрыя, у якой вы адабралі ў Галіцыі 300 тысяч душ? Ці ня Прусія, якая памятае, як у Тыльзіце ейны добры саюзьнік Аляксандар адабраў у яе Беластоцкую акругу? Ці ня Швэцыя, якая памятае, што вы напалову яе зьнішчылі, адабраўшы ў яе Фінляндыю? Усе гэтыя крыўды ня могуць быць забытыя, усе гэтыя абразы адпомсьцяцца — цэлы кантынэнт будзе супраць вас!"[3] Таму, калі 3. V. 1812 г. ён высылаў у Вільню для перамоваў з Аляксандрам I свайго гэнэрал-ад'ютанта графа Нарбонна (б. міністра Людовіка XVI), ён даручыў яму добра выведаць і пра палітычныя настроі ў гістарычнай Літве[4], толькі 17 год перад тым канчальна зруйнаванай і таксама далучанай да Расеі.

Увайшоўшы ў Вільню на чацьверты дзень і спатканы там зь вялікай пашанаю, Напалеон не марудзіў: 1-га ліпеня 1812 г., на стараньні беларускіх патрыётаў Солтанаў, Сапегаў, Ельскіх, Храбтовічаў і іншых, зь ягонае згоды, было абвешчана аднаўленьне Вялікага княства Літоўскага, незалежнага ад гэрцарства Варшаўскага (паўсталага ў 1807 г.).

Калі 20-га ліпеня корпус маршала Даву набліжаўся да сьценаў Магілёва, тут ужо ведалі пра падзеі ў Вільні. Ведалі, што пад кіраўніцтвам тымчасовага ўраду з графам С. Солтанам на чале, хоць і ўва ўмовах вайны, пачалася хуткая адбудова адроджанай дзяржавы.

Магілёў, які пад расейскай акупацыяй быў даўжэй за Вільню (40 год), яшчэ з большай сілай прагнуў вырвацца із пашчы жорсткага заваёўніка. Гэтым і тлумачыцца, што прыход Вялікай арміі ён спаткаў із сьветлымі надзеямі. Напярэдадні, калі горад яшчэ не пакінуў расейскі губэрнатар Талстой, тут зь інцыятывы Быхаўскага паветавага маршалка П. Крогера паўстала камісія для спатканьня саюзьніцкай арміі. I маршал Даву, пры ўезьдзе ў Шклоўскую браму, быў урачыста вітаны. Галава магістрату Р. Груша й бурмістар І. Пушкарэвіч на белым хлебе паднесьлі жаданаму госьцю залаты й сярэбраны ключы ад гораду. З натоўпу крычалі: "Віват, Напалеон!"[5]

З увагі на тое, што актам I.VII. 1812 г. Вялікае княства Літоўскае абыймала Віленскую, Горадзенскую, Менскую губэрні й Беластоцкую акругу, для Магілёўскай губэрні (як і Віцебскай і Смаленскай) адразу-ж была створана асобная беларуская адміністрацыя — часовае цывільнае кіраўніцтва[6], 18-га жнівеня пэрсанальна абноўленае й зацьверджанае Напалеонам. У кіраўніцтва ўваходзілі: судзьдзя Юры Лускіна — старшыня, губэрнскі маршалак Іван Цеханавецкі, б. войскі Іван Гальінскі, рагачоўскі паветавы маршалак Пузына, граф Струцінскі — сябры й судзьдзя Мількевіч — гэнэральны сакратар[7]. Цывілнае кіраўніцтва зарганізавала ў губэрні лякальныя органы ўлады; з дабраахвотнікаў паклікала Нацыянальную Гвардыю ў Магілёве (400 гвардзейцаў) і ўва ўсіх паветах; распачала фармаваньне Магілёўскага палка рэгулярнай эрміі, у дадатак да 5-ці палкоў кавалерыі й 4-ох пяхоты, якія фармаваў вайсковы міністар Вялікага княства кн. Аляксандар Сапега.

Беларускае нацыянальнае жыцьцё аднаўлялася.

**
*

Архіяп. Варлаам — адна із самых яркіх асабістасьцяў у Магілёве ў тым часе. Паходзіў ён з Чарнігаўшчыны й сваю духоўную кар'еру пачынаў на Ўкраіне. Ад 1787 г. ён — ігумен Віленскага Сьвятадухаўскага манастыра й старэйшы над 8 іншымі, прыпіснымі да яго, манастырамі. У 1794-95 гг. — архімандрыт Спасаўскага манастыра ў Дзятлаве каля Навагрудка. 12(23)-га красавіка 1795 г. быў хіратанізаваны на япіскапа Жытомірскага вікарыяту Менскай эпархіі, скуль у 1805 г. пераведзены на япіскапскую катэдру ў Магілёў, дзе ў 1808 г. узьведзены на архіяпіскапа[8]. Біёграфы ягоныя адзначаюць у ім высокую багаслоўскую й філязофскую эрудыцыю, "бліскучыя адміністрацыйныя й пэдагагічныя здольнасьці"[9]

Архіяп. Варлаам адразу й поўнасьцю перайшоў на бок адроджанага Вялікага княства Літоўскага й Напалеона, на вернасьць каму прысягнуў сам і загадаў прывесьці да прысягі ўсё падначаленае яму духавенства. Ён актыўна супрацоўнічаў із часовым цывільным кіраўніцтвам, падпісаўся пад дэкляацыяй аб прылучэньні Магілёва да рэшты Вялікага княства[10].

Самае-ж галоўнае: уладыка марыў пра адраджэньне аўтакефаліі беларуска-ўкраінскай праваслаўнай царквы. У Магілёве, які ў XVII — XVIII ст.ст. быў сталіцаю праваслаўнае царквы на ўсю Беларусь, а ад 1712 г. (па скасаваньні Луцка-Астроўскай эпархіі) і адзінай япіскапскай катэдрай у цэлай Рэчы Паспалітай, — у 1812 г. зьявілася гэтая ідэя, і архіяп. Варлаам захапіўся ёю. Паводля сьведчаньняў сучасьнікаў і аднадумцаў, а ў тым і магілёўскага летапісца ігумена Арэста, тады сябры Магілёўскай кансісторыі, які "быў ня толькі простым сьведкам магілёўскіх падзеяў, а... і саўдзельнікам... і фактычным супольнікам і памочнікам Варлаама ў цэлым шэрагу справаў"[14] (а пазьней падзяліў і лёс ягоны), — архіяп. Варлаам, яшчэ будучы ігуменам Віленскага Сьвятадухаўскага манастыра, ведаў, што сойм Рэчы Паспалітай схіляўся да ўнезалежненьня царквы ад расейскага сыноду, некананічна ў 1686 г. яму падпарадкаванай. Ведаў таксама, што 26. III. 1790 г. сойм прыняў пра гэта пастанову й што тады-ж дыскутаваўся праект асобнай патрыярхіі[12]. Мінула ўсяго 21 год ад часу, калі з благаславенства Канстантынопальскага патрыярха 15. VI.-2. VII. 1791 г. у Пінску адбыўся царкоўны сабор, які вырашыў выйсьці з-пад улады кіеўскага мітрапаліта, расейскага сыноду й аднавіў аўтакефалію свае царквы... але, на ультыматум расейскага пасла Булгакава, у наступным годзе, па акупацыі войскам расейскім усёй Беларусі, правабярэжнай Украіны й усходняй Польшчы, царква прымусова была зноў вернутая пад расейскую юрысдыкцыю. Ігумен Арэст і іншыя сучасьнікі сьведчаць, што ў 1812 г. Варлаам няраз прыгадваў тыя падзеі й выказваў цьвёрдую веру ў стварэньне па вайне беларуска-ўкраінскай патрыярхіі, на галаву якой сам быў мажлівым кандыдатам[13].

**
*

Усё, задавалася, варажыла на ўдачу. Аднак 19-га кастрычніка кола гісторыі павярнулася назад: на загад Напалеона, саюзьніцкая армія пакінула Маскву й вырушыла на захад.

Навіна гэтая ашаламіла і Беларусь, і ўсю Эўропу.

17-га лістапада армія мінула Смаленск, а ўжо 24-га Магілёў быў заняты расейскім войскам. I хоць у загадзе расейскага камандаваньня 26. XI. 1812 г. гаварылася, "чтобы Бѣлорусскимъ жителямъ не чинить притѣсненій и упрековъ"[14], а ў вадозве гэн. А. Ажароўскага, заняўшага Магілёў — "само собою разумѣется, что въ клятвѣ принужденной... нѣтъ ни малѣйшей святости и что оная совершенно уничтожается", а "каждый сынъ отечества съ душевнымъ удовольствіемъ да внидетъ въ предѣлы своихъ законныхъ обязанностей"[15], — на самай справе, як гэта было ўжо ня першы й не апошні раз, супраць усіх г. зв. "измѣнниковъ отечества", а ў тым і супраць архіяп. Варлаама, неадкладна пачаліся "судъ и расправа".

У нашых руках згадваны "Сборникъ", т. 139, на які мы ўжо тут паклікаемся. У ім асобным разьдзелам — судовая справа архіяп. Варлаама (94 дакуманты)[16].

На ўступе да іх Расейскае гістарычнае таварыства даволі блізка да праўды раскрывае акалічнасьці справы. Яно сьцьвярджае, што "Перад прыходам Вялікай арміі ў межы Беларусі й Літвы, тут усё было падрыхтавана да спатканьня ворага расейскага народу з пакланеньнем і адданасьцю... Насельніцтва не магло, вядома, выявіць таго патрыятычнага ўздыму, які так зырка ўспыхнуў у чыста-расейскіх губэрнях" і не рабіла "партызанскіх нападаў на французаў... Тут пануючы стан і ўсё тое, што цягнулася да яго з матар'яльных меркаваньняў, было на баку ворага Расеі — Напалеона... Ці ня гэтая асаблівасьць беларускага краю й стварыла глебу для зьяўленьня такой асобы, як Варлаам Шышацкі, абвінавачаны ў дзяржаўнай зрадзе"[17].

Пачатак справы — загад цара Аляксандра I з 5(17). XII. 1812 г., у якім ён "находя нужнымъ удалить отъ управленія Епархіею Витебскаго и Могилевскаго Архіепископа Варлаама, повелѣваетъ" Сыноду "произвесть на мѣстѣ... изслѣдованіе о поступкахъ Варлаама во время нашествія врага и, съ мнѣніемъ Святѣйшаго Синода, представить" яму[18]. "Святѣйшій Правительствующій Синодъ... для должнаго и непремѣннаго по сему Имянному Высочайшему Указу исполненія" 9(21) XII. 1812 г. "приказали... Синодальному Члену, Преосвященному Феофилакту, Архіепископу Рязанскому... по прибытіи его... въ Могилевъ и по объявленіи о семъ Высочайшемъ повелѣніи Архіепископу Варлааму", каб (у дадатак да царскага загаду) "не оставлено было разсмотрѣть и о томъ, что, ежели, и кромѣ его, Архіепископа Варлаама, изъ принадлежащихъ къ Епархіи Могилевской духовнаго званія людей окажутся въ подобныхъ поступкахъ виноваты, то бы

2) Там-жа, б. 245.
3) Там-жа, бб. 430-431.
4) Там-жа, б. 440.
5) Сборникъ Императорскаго русскаго историческаго общества, т. 139, СПБ, 1912 г., бб. 5-7.
6) Там-жа, б. 10.
7) Там-жа, б. 142.
8) Там-жа, б. 245.
9) Там-жа, б. XLIII.
10) Там-жа, б. XXXII.
11) Там-жа, б. XXXIII.
12) Там-жа, бб. XXXIII - XXXIII.
13) Там-жа, б. XXXIII.
14) Там-жа, б. 153.
15) Там-жа.
16) Документы изъ архива Св. Синода. Дѣло архіепископа Варлаама (Архивъ Св. Синода. Дѣло 1812 г., №972), Вступленіе I бб. 161-263.
17) Тамжа, б. XVI.
18) Там-жа, б. 209.

и о таковыхъ, по удаленіи ихъ отъ должностей и по опредѣленію на мѣста ихъ другихъ, произведено было подобное изслѣдованіе...”[19]

Магілёўскі архіяпіскап бярэцца “подъ стражу”[20], а разанскі распачынае сьледзтва.

11(23). VIII. 1813 г. “Всеподданнѣйшій Рапортъ Синода” ўжо паведамляе цару, што “по Имянному Вашего Императорскаго Величества Высочайшему Указу, состоявшемуся минувщего Мая 1(13)-го дня, на подносимомъ отъ Синода докладѣ”, — “Консисторскій Секретарь, приказаные служители и прочіе свѣтскаго званія, находящіеся въ вѣдомствѣ Могилевской Епархіи, отосланы въ тамошнее Губернское Правленіе для разсмотрѣнія и сужденія вмѣстѣ съ подобными имъ по гражданскому вѣдомству”, а архіяп. Варлаам “отправленъ... въ Черниговъ”, дзе ён публічна дэгрэдаваны на простага манаха й сасланы ў пажыцьцёвае “заточеніе” ў Ноўгарад-Северскі Спаскі манастыр. Ігумену манастыра загадана “имѣть за нимъ наблюденіе, чтобы онъ, Варлаамъ... ни съ кемъ изъ стороны не имѣлъ никакого сношенія и переписки”[21].

У дакумантах ёсьць апісаньне й таго зьдзеклівага абраду дэгрэдацыі [22], але паўней і больш жыва абрад гэты, поўны хвалюючага драматызму, узноўлены ўва ўспамінах сьведкі, былога Чарнігаўскага сэмінарыстага І. Кулжынскага.

11-га ліпеня ў катэдральны сабор, запоўнены “монастырскими настоятелями”, “градскимъ духовенствомъ”, цывільнымі ўрадоўцамі, сэмінарыстымі, у асысьце Чарнігаўскага архіяпіскапа Міхала быў уведзены архіяп. Варлаам. Ён быў у поўным архірэйскім адзеньні, і спатканы “со славою”. Пры “гробовой тишинѣ” сакратар Чарнігаўскай кансысторыі “посредѣ церкви” прачытаў “Высочайше конфирмованное опредѣленіе Синода”, пасьля чаго пратадыякан Юстын зьняў з архіяпіскапа мітру, панагію, амафор, сакас і іншыя адзеньні. Яму падалі расу й клобук. Варлаам хутка зышоў з амбону, праз бакавыя дзьверы ўвайшоў у алтар і папрасіў вады. Чарнігаўскі ўладыка “плакаў горкімі сьлязамі; і пазьней, па сасланьні Варлаама, у часе літургіі заўсёды плакаў”[23].

***

У афіцыйных расейскіх публікацыях (і прыжыцьцёвых, і пазьнейшых) Варлаам малюецца як “отъявленный злодѣй, крамольникъ и гордый честолюбецъ, погибшій изъ за желанія быть патріархомъ...”[24]

“Але ня тое мы чуем зь іншае крыніцы, на якую ніхто яшчэ не зьвярнуў ніякае ўвагі. Крыніца гэтая — публічная апінія, — пісаў у вабарону Варлаама прат. А. Хайнацкі з Валыні. — Наўсуперак усім друкаваным “толкамъ и пересудамъ”, грамадзкая апінія ня толькі не асуджае Варлаама, але ўважае яго за міжвольную ахвяру, паўшую не дзеля “крамолы и честолюбія”, а ў няроўным змаганьні з акалічнасьцямі...”[25] Прывабную атэстацыю мужнай і трагічнай асобе нашай гісторыі даў ведамы беларускі лексікограф і фальклярысты І. Насовіч, аўтар слоўніка Магілёўшчыны й іншых працаў (які ў 1808-1812 гг. быў студэнтам Магілёўскай духоўнай сэмінарыі, жыў у архірэйскім замку й у 1812 г. сам прымаў жывы ўдзел у падзеях таго часу). У сваіх успамінах[26] ён характарызуе Варлаама як “строгага манаха”, “дзейнага, нястомнага й патрабавальнага да ўсіх тых, хто ўхіляецца ад праўдзівых шляхоў. Ён любіць праўду, ня зносіць хітрасьці й ліслівасьці, асабліва ў духоўных асобах”[27]. Наагул-жа, у асяродзьдзях беларусаў і ўкраінцаў павага, пашана й сымпатыі заўсёды былі на баку Варлаама.

Мо ў сувязі із усім гэтым хадзілі чуткі, што цар Аляксандар нібы хацеў “памілаваць” яго і нават вярнуць яму адабранае архіяпіскапства; ды Варлаам ад міласьці царскай адмовіўся[28], застаўшыся ў ссылцы, у сваёй нязвычайнай кельлі — над манастырскай брамаю пад званіцай[29].

Пакутаваў там 10 год. Згубіў здароўе і зусім асьлеп. Некаторыя настаўнікі Ноўгарад-Северскай гімназіі й духоўнай школы, не зважаючы на строгую забарону Сыноду, вечарамі хадзілі да яго чытаць, і ён гадзінамі слухаў. Яны працягнулі таксама вяроўку паміж уваходам, які вёў у ягоную кельлю, і манастырскай царквой[30]. Брація манастырская бачыла, як, трымаючыся за вяроўку, нядужы й сьляпы манах-

(Працяг на бач. 27-ай).

19) Там-жа, бб. 209-210.
20) Там-жа, б. XXXII.
21) Там-жа, бб. 262-263.
22) Там-жа, бб. 262, 251-252. I I
23) Там-жа, бб. XXXVIII - XXXIX.

24) Там-жа, б. XLII.
25) Там-жа.
26) Успаміны І. Насовіча ня былі апублікаваныя. Зь іхнага рукапісу пазьней расейскі гісторык Дубровін у працы “Русская жизнь въ началѣ XIX вѣка” (Русская Старина”, 1902 г., №12) прыводзіць выпіскі.
27) Цытуецца паводля Сборника, б. XLV.
28) Сборникъ, б. XLIII.
29) С.Г. Рункевичъ. Исторія Минской Архіепископіи, СПБ, 1893 г., б. 211.
30) Сборникъ, б. XXXVIII.



*Юрка Віцьбіг*

# КАБ Я ТРАПІУ У КАПЫЛЬ

*“Хоць крылы насустраг раскрыль —*
*Палі, азярцо ў нізіне,*
*Ад першай хаты Капыль*
*У белым, як сьнег, язьміне”*
Ул. Паўлаў — “Капыль”.

На поўначы прывольнае й вольналюбнае Случчыны, дзе працягнулася ўпрыгожаная хваёвымі лясамі ды бярозавымі гаямі Капыльская града, што падзяляе вадазборы Нёману й Прыпяці, здавен-даўна прытуліўся ўтульны Капыль. Ад ягонага цэнтру, разьмешчанага на плоскім узвышшы, ва ўсе бакі ідуць стромкія вуліцы, якія звычайна рабілі шмат прыкрасьцяў возьнікам, калі яны забываліся падвязаць кола. Аднак акурат з прычыны гэтых кручаў, каля якіх плыве праз стаў з млыном маляўнічая рэчка Каменка, і паўстаў старадаўны Капыль, бо яны абаранялі яго ад спрадвечных ворагаў краіны.

Упяршыню Капыль прыгадваецца ў гісторыі пад 1274 г., а значыцца на лета прыпадае ягонае 700-годьдзе, але больш вядомым ён стаўся ў пачатку 15-га стагодзьдзя, як сталіца Капыльскага княства. Гэта тут ад унука Альгерда князя Александры, або Алелькі, распачаўся славуты беларускі княжацкі род Алелькавічаў, які значна адбіўся ў гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Сам князь Алелька выславіўся ў сталай абароне Літвы ад татарскіх наездаў, потым яе працягвала ягоная ўдава княгіня Наста з сынамі, прычым асабліва вялікая бітва мелася ў 1506 г. пад самым Капылём.

Годны добрага прыпаміну й пашаны Тодар Еўлашэўскі ў сваім каштоўным “Дзёньніку” прыгадвае, як у 1595 г. тагочасны ўкраінскі наезьнік і хаўрусьнік Масквы Севярын Налівайка, каб захапіць Капыль, адмыслова паслаў із захопленага ім Слуцку 500 казакаў на чале з палкоўнікам Мартынком. Ужо ў самым Капылю, каля ягонага млыну на Каменцы, адбыўся люты бой казакоў з драбамі Алелькавічаў, у часе якога быў забіты Мартынок. Бой быў нагэтулькі зацятым, што параненыя казакі ў жаху кідаліся ў полымя імі-ж падпаленых хатаў, а ўвогуле, як піша аўтар: “вельмі мала іх да Слуцку зьвярнулася”. Гэтая бліскучая перамога ў Капылю мела тое значэньне, што ўзрушаны ёю Налівайка праз два дні спакінуў Слуцак, падаўшыся да Палесься.

За часы першых Алелькавічаў да Капыля належыў і няпрыкметны тады яшчэ Слуцак, у які яны пазьней перанесьлі сваю рэзыдэнцыю. На надгробку апошняе з Алелькавічаў, зьнішчаным за савецкія часы, меўся, паводля вядомае працы Бацюшкава “Беларусь і Літва” (СПБ. 1890 г.) надпіс на тагочаснай царкоўна-славянскай мове:

*“1612 г., марта 19, представися благоверная София, княжна Слуцкая Олельковна, Юревичева, Ольгерда племя, положена бысть в Слуцку, в монастыру святое живонагальное Троицы”*

Па мужчынскай лініі род Алелькавічаў вымер яшчэ ў канцы 16-га стагодзьдзя, а Капыль, як пасаг за Соф'яй, перайшоў да князёў Радзівілаў. І ў 1695 г. за яго меліся баі паміж аддзеламі Сапегі й Радзівіла. Хоць гэтае ўнутранае змаганьне ня йшло на карысьць Літвы, але разам з тым яно сьветчыць аб значаньні тагочаснага Капыля.

Нягледзячы на сталыя вайсковыя злыбяды Капыль усё-ж не заняпаў. Гэтаму, перадусім, садзейнічала ягонае выгоднае месцазнаходжаньне — у ім крыжаваліся сухаземны гандлёвы шлях з вадзяным праз вадападзел Балтыцкага й Чорнага мораў, па недалёкай ад яго рацэ Морач. Таму й прыгадваецца ён яшчэ ў вядомым “Сьпісе гарадоў Вялікага Княства Літоўскага”, што датуецца 1387 г. Яго можна заўважыць таксама на знанай Радзівілаўскай карце, выдадзенай у 1613 г. Капыль атрымаў ад караля Яна-Казімера Магдэбурскае права й гэрб — паляўнічы рог на залатым полі. Адначасна ў ім былі ўстаноўленыя штотыднёвыя таргі па чацьвяргох і два кірмашы, якія прыпадалі на Ўшэсьце й на дзень сьвятога Роха ды асабліва славіліся продажам коняў.

Паводля каралеўскіх прывілеяў, зь якіх апошні датуецца пачаткам 18-га стагодзьдзя, тутэйшыя рамесьніцкія цэхі былі зраўняныя ў сваіх правох з цэхамі іншых гарадоў Літвы, што абумовіла іхні поступ. Прычым асабліва гэтае датычыла ткацтва, як найбольш пашыранага ў горадзе. Адна за аднэй узьнікалі тут таксама гарбарні, шырака вядомыя на Беларусі сваёй высокаякаснай вытворчасьцю. Характэр-

на таму што Капыль разам зь некаторымі іншымі гарадамі Літвы прыгадваецца ў 1623 г. у адмысловым фондзе магілёўскіх купцоў. Ня менш паказальна таксама дараваная грамата 1646 г. караля Ўладыслава 4-га графу Палубінскаму, дзе яму дазваляецца мецьь кірмаш у мястэчку Глуску, абы толькі ён нічым рашуча не зашкодзіў кірмашу ў горадзе Капылю. Увогуле ўсё рашуча спрыяла далейшаму росквіту Капыля, але разам з усёй краінай займеў ён вялікага ліха.

Пасьля пагібелі Вялікага Княства Літоўскага, як і Рэчы Паспалітае ўвогуле, Капыль адабралі ад Радзівілаў і пазьней даравалі графам Вітгэнштайнам за іхнія заслугі перад Расейскай імпэрыяй. Капыль — у даўніну сталіца княства, а потым багаты горад — паступова заняпаў і ператварыўся ў малое мястэчка Слуцкага павету Менскае губэрні. Гэтак у пачатку нашага стагодзьдзя, як сьветчыць вядомы 9-ты том "России" з двохгаловым імпэрскім арлом на вокладцы (СПБ. 1905 г.) у ім налічвалася ўсяго 340 жыхароў. І што дзіўнага калі бяз увагі на сваю нялічнасьць тутэйшыя гарбары й ткачы прынялі самы чынны ўдзел у рэвалюцыі 1905 г., якая ўскалыхнула ўсю царскую Расею.

Не аднойчы ў тутэйшым Казённым лесе, што мяжуе з Капылём знаходзячыся на другім баку Каменкі, ягоныя прыгнечаныя насельнікі наладжвалі мітынгі. Яны праходзілі пад лёзунгам "Далоў самадзяржаўе!", а 17-га кастрычніка 1905 г. скончыліся абвешчаньнем палітычнае забастоўкі. Ня раз па ягоных Замкавай і Татарскай, Садовай і Дубініцкай вуліцам праходзілі дэманстрацыі, а зь іх найбольшая з прычыны гадавіны "Крывавае нядзелі". Тут выдаваліся таксама рукапісныя часапісы й лістоўкі. І ня дарма, як сьцьвярджае 3-ці том працы "Дакуманты й матар'ялы па гісторыі Беларусі" (Менск. 1953 г.) Менскі губэрнатар у жніўні 1905 г. накіраваў у Капыль роту 240 пяхотнага Красьнінскага палку, ці па салдату на кожныя два жыхары, улучаючы кабет і дзяцей.

Аднак затое хлусіць У. Скарабагатаў у 5-м томе Бел. Сав. Энцыкляпедыі, спрабуючы давесьці што ўсім змаганьнем капылянаў кіравала тады Капыльская арганізацыя "РСДРП", што "трымалася бальшавіцкага кірунку". Першае мейсца ў гэтай зацятай барацьбе з царскай Расеяй належала ў Капылі партыі сацыялістых-рэвалюцыянераў, або эс-эрам, і яўрэйскаму "Бунду". Гэта менавіта эс-эры ў 1906 г. утварылі пасьпяховы напад на аружэйны арсенал 40-ое артылерыйскае брыгады ў Нясьвіжы. Што датычыць капыльскіх сяброў "РСДРП" дык пэўна-ж яны былі не бальшавікамі, а нацыянал-камуністамі, бо пазьней іх усіх бяз вылучэньня замардавала ў сваіх катавальнях бальшавіцкая Расея.

У сьнежні 1920 г. праз Капыльшчыну праходзіў гэраічны Слуцкі Фронт Беларускае Народнае Рэспублікі, найбольшыя баі якога разгарнуліся ля Капыля, Вызны, Цімкавічаў і Лютавічаў. Тут насьпех зфармаваная й кепска ўзброеная Першая Беларуская Слуцкая дывізія, сьцякаючы крывёю ў няроўным змаганьні на працягу месяцу стрымлівала ціск усяе 16-ае савецкае арміі. Тут выконваючы загад свайго ўраду і сваіх матак:

*"Трымайцеся, хлопцы!"*

— стаялі й паміралі случчакі. І гэта менавіта тут быў створаны тады Макарам Краўцовым беларускі нацыянальны гімн, як і ўпяршыню прагучэў ягоны палкі заклік:

*"Браты, да шчасьця мы падходзім,*
*Хай гром грыміць яшчэ мацней.*
*Ў крывавых муках мы народзім*
*Жыцьцё рэспублікі сваей."*

Цяпер Капыль зьяўляецца цэнтрам Капыльскага раёну Менскае вобласьці БССР і налічвае бяз малага 5 тысяч жыхароў. Замест Магдэбурскага права з гэрбам, яму нададзены статус так званага гарадзкога пасёлку, а значыцца ня ў прыклад гарапашнікам з калгасаў Капыльскага раёну накшталт "Іскры Леніна" у Смалічах ды "Бальшавік" у Жыліхаве сучасныя капыляне маюць пашпарты, што дазваляе ім перасяліцца без пагрозы арышту ў іншыя месцы СССР, падобна перасяленьню ў турме з аднае камары ў іншую. Паводля БелСЭ у Капылю ёсьць "маслазавод, раённае адзяленьне Сельгастэхнікі, прамкамбінат, камбінат бытавога абслугоўваньня" ды розныя йншыя камбінаты, якія характэрны для кожнага раённага цэнтру, а таксама стандартны казённы помнік на магіле справакаваных маскоўскімі парашутыстамі на пагібель 36 партызанаў Другое сусьветнае вайны, аднак затое забыла яна прыгадаць пра больш істотнае для бальшавіцкага рэжыму і я ахвотна выпраўлю ейную памылку.

Калі ў Капылю будзе ўрачыста абыходзіцца ягонае 700-годзьдзе, дык раю райкомаўскім гідам зьвярнуць увагу турыстых на некалі прыгожы будынак паруганага тутэйшага касьцёлу сьвятога Роха. А можа яго ўжо ўвогуле не існуе? Дык хай і гэтае іх ня стрымлівае ды няхай пакажуць на тое мейсца, дзе ён быў, бо, напрыклад, у сучасных манаграфіях М. Кацара й Чантурыі па гісторыі беларускае архітэктуры пададзеныя дзесяткі архітэктурных помнікаў, як нібы існуючыя дагэтуль, хоць яны за



савецкія часы разбураныя дарэшты. І справа тут, зразумела, ня вылучна ў касьцёле, як гэткім, бо хіба-ж ён найбольш істотны для бальшавіцкага ладу?

У зацемцы БэлСЭ пра Капыль трэба абавязкова дадаць пару радкоў пра турму, пад якою яшчэ ў 30-х гадох тутэйшыя энкавадэшнікі, разам зь Цімкавіцкім пагранічным аддзелам войск "НКВД", прыстасавалі гэты прывабны па свойму выгляду касьцёл, адабраўшы яго гвалтам у беларусаў каталікоў. Тысячы гаротнікаў з Капыльшчыны менавіта праз гэтую турму распачалі свой страшэнны шлях да канцлягероў Сібіру, каб не зьвярнуцца адтуль назад да родных хатаў.

А можа замест касьцёлу, калі ён разбураны, пад турму скарыстаная ня менш цікавая ад яго па сваёй архітэктуры тутэйшая мураваная царква? У тых-жа 30-х гадох яе адабралі ў праваслаўных беларусаў і прыстасавалі пад склад. Калі раней яе высокая званіца, як і гатыцкага стылю касьцёл, стваралі адменны абрыс Капыля, дык пазьней яна стаяла са ськінутымі купаламі й павыбіванымі вокнамі. А можа турма ў Капылю ўвогуле зьліквідаваная? Дык тады будзе не залішнім растлумачыць турыстым ды асабліва замежным, што цяпер гаротных прадстаўнікоў мясцовых, як той маўляў, "працоўных рэсурсаў" савецкі ўрад накіроўвае ў Менскую сталічную турму, або проста ў катавальні Сібіру.

За тое бяз сумлеву гіды прывядуць турыстых да невялічкае хаты з двумя вокнамі на калісьці Сьвяржэнскую, а цяпер Карла Маркса вуліцу ды з гонарам пакажуць на мэмарыяльную дошку на ёй:

*У гэтым доме*
*нарадзіўся вядомы*
*беларускі пісьменьнік*
*Цішка Гартны*
*(З. Ф. Жылуновіч. 1887 — 1937)*

Так, гэта запраўды тут нарадзіўся гонар беларускага народу — Цішка Гартны — вядомы ў Капылю ў сваім дзяцінстве ад імя сваёй маткі, як — Зьміцер Яўгеньчын. Ён стаўся аўтарам шматлікіх вершаў і першага беларускага раману, як і сташрынёю Ўраду БССР. Таму цалкам мае рацыю сучасны беларускі тамтэйшы літаратар Сьцяпан Александровіч калі свой цікавы артыкул, прысьвечаны Цішку Гартнаму й зьмешчаны ў №11 "Полымя" за 1967 г. азагаловіў "Ад гарбара да старшыні Ўраду". Аднак ні Александровіч, а тым балей гіды, ніколі не прыгадаюць чытачам і турыстым пра жудасную сьмерць Цішкі Гартнага.

У красавіку 1937 г., у Магілеве, у псыхіятрычнай больніцы "НКВД" самотнай сьмерцю і ў цяжкіх пакутах скончыўся жыцьцёвы шлях Цішкі Гартнаг — "рыцара працы цяжкай". Нялюдзкія катаваньні ў часе шматгадзінных допытаў адмоўна ўплылі на ягоную псыхіку — ен звар'яцеў. Калі канваір прыводзіў у камору яго акрываўленага й апухлага ад біцьця ён адразу-ж залязаў пад ёйныя нары адкуль крычэў:

*— Гэта я хацеў забіць таварыша*
*Сталіна!*

І ці не атруцілі яго ў больніцы "НКВД"? Пра ўсё гэта варта сказаць ля мэмарыяльнае дошкі на хаце, дзе нарадзіўся Зьміцер Яўгеньчын — выдатны Цішка Гартны. А як-жа ён любіў ня толькі ўсю Беларусь, але й тутэйшае аб чым сьветчаць ягоныя радкі:

*"Капыль, Капыль! Маё мястэчка*
*Вялікай Меншчыны куток!*
*Мне міла ўсё тваё: і рэчка,*
*І хаты, нівы і гаёк!..."*

Мне,магчыма, хто-небудзь з тамтэйшых пачне супярэчыць — Ну навошта турбаваць 30-ыя гады? — Нібы яны меліся паза часам і прасторай ды быццам і цяпер за іх не нясе адказнасьці КПСС. Дык я прыгадаю сумны лёс іншага капыляніна, імя якога адзначана ў Менскім Дому Пісьменьніка на мэмарыяльнай дошцы літаратараў, забітых у часе Другое сусьветнае вайны. Я маю на ўвазе Аляксея Коршака, які толькі што ўваходзіў у літаратуру й ягоны зборнік вершаў "Апалёныя плёсткі" выйшаў з друку па ягонай сьмерці.

Вельмі цьмяна падаў кагадзе прыгаданы Сьцяпан Александровіч у сваім увогуле не благім нарысе "Варушачы памяць", зьмешчаным у №12 "Маладосьці" за 1970 г., прычыны й акалічнасьці сьмерці Аляксея Коршака. Забракла яму мужнасьці адзначыць што той за настаўніцтва ў Вуглоўскай пачатковай школе ў часе нямецкае акупацыі быў адразу "вызвольнікамі" мабілізаваны й накіраваны ў штрафны батальён, дзе ад непазьбежнае сьмерці ня меўся аніякага паратунку. Па сутнасьці "Иван" забіў яго на фронце ва Ўсходніх Прусах ля вёскі Ляслейндорф куляй Фрыца. А як-жа ён, акрамя ўсяе Беларусі, любіў і свой родны горад, калі прыгадваеш радкі зь ягонае нясконччанае паэмы:

*"Капыль, Капыль! Мой любы дружа,*
*Люблю я строгі выгляд твой,*
*Твайго нардому корпус дужы,*
*Сады зь зялёнаю ліствой".*

І прыгадваюцца мне капыляне далей — і стары нашанівец Алесь Гурло, якога толькі заўчасная сьмерць у 1938 г. выратавала ад бальшавіцкае катаргі, і аўтар цудоўнага "Дзіва" Нічыпар Чарнушэвіч, што шмат год прапакутваў у савецкім сасланьні, і брат ягоны Мікола, вядомы пад псэўдонімам Хведаровіч, які гараваў у ка-

пальнях золата на Калыме.

Мне ўспамінаюцца таксама літаратары з капылянаў — і Васіль Сташэўскі, якога энкавэдэшнікі абвінавацілі ў тым, нібы ён у пагранічнай зоне пабудаваў буданы для пераходных польскіх шпіёнаў, і аўтар усхваляванае "Бэнгаліі" палымяны юнак Сяргей Астрэйка, што пад прыгнечанай Бэнгаліяй разумеў Беларусь — абодвух іх каты нашага народу растралялі. І нарэшце ўсплывае ў памяці ахвяра аднаго з драпежных савецкіх канцлягероў, аздоба роднага згуртаваньня "Узвышша" Адама Бабарэка.

Каб мне давялося трапіць у Капыль у часе абыходзінаў ягонага 700-годзьдзя я, адсунуўшы ў бок савецкіх гідаў, накіраваўся-бы на тутэйшае занядбанае гістарычнае Замчышча, што абмежаванае глыбокім ровам знаходзіцца на высокім узгорку. А там укленьчыўшы пяшчотна гладзіў-бы далонямі тую набраклую крывёю зямлю, што выгадавала на карысьць Беларусі і драбаў князя Алелькі, і незабытных Слуцкіх жаўнераў Беларускае Народнае Рэспублікі, і Цішку Гартнага, і Адама Бабарэку, і Сяргея Астрэйку, і Аляксея Коршака і сотні, тысячы невядомых самаадданых змагароў. Вечная ім памяць і слава!

*Юрка Віцьбіг*

---

*Юры Жывіца*

## РЭХА МІНУЛЫХ ГАДОЎ

(Да 25-х угодкаў сьмерці Хведара Ільляшэвіча)

Першы раз пабачыў я Хведара Ільляшэвіча на вуліцы ў Пружанах у 1929 годзе, калі ён прыязджаў на пабыўку да сваіх бацькоў; мой школьны сябра паказаў мне яго, калі той праходзіў міма нас. Я чуў пра яго і раней, бо Ільляшэвіч, прыязджаючы ў Пружаны, не сядзеў і не адпачываў, а адведваў знаёмых, — у першую чаргу — сьведамых беларусаў, ня толькі ў Пружанах, але і па вёсках, перш за ўсё ў Шанях, дзе жыў тады малады паэт Мікола Засім. Там была беларуская школа, было Таварыства Беларускай Школы і бібліятэка. Гэтак было на пачатку, бо пазьней палякі ўсё зачынілі і вёску сілай "успакоілі", але беларускае жыцьцё ў вёсцы і далей бурліла. Студэнты і гімназісты з Шанёў, што вучыліся ў Віленскай Беларускай Гімназіі, давозілі ў вёску беларускую літаратуру. Ад іх я дастаў зборнік вершаў Хведара Ільляшэвіча "Песьні веснаходу". Ён, між іншым, у сваіх вершах пісаў пра свой побыт у турме: "...І чорнага хлеба паўфунт, сапраўды можа зрадзіцца вялізарны бунт...", або; "...імкнуся, каб згінуць, я сам сабе пан..."

Так, ён імкнуўся згінуць, але не таму, каб толькі згінуць, а згінуць за Беларусь. На вялікі жаль, ён згінуў з сябрамі на звычайнай нямецкай дарозе, на скрыжаваньні, недалёка ад Ватэнштэту. Гэта здарылася 25 гадоў таму — 7 лістапада 1948 г.

Шкада, што ён гэтак рана адыйшоў ад нас, бо гэта быў выключна здольны чалавек, які мог-бы шмат узбагаціць беларускую літаратуру, беларускую думку, бо ён-жа быў і малады філёзаф. Здабываючы ступень магістра, ён напісаў і абараніў навуковую дысэртацыю на тэму "Друкарня братоў Мамонічаў". Гэтую працу пахвалілі, як самую выдатную працу маладога навукоўца. Нават некаторыя савецкія вучоныя БССР спасылаліся на яе.

Хведар Ільляшэвіч быў рэвалюцыянерам думак і пачуцьцяў. Ягонымі ідэямі я таксама захапіўся ды жыву імі да сёньняшняга дня.

Мне помніцца: У 1942 годзе ён даведаўся пра мяне ад Сымона Міхальчука, старшыні Шарашоўскага аддзела Беларускага Аб'еднаньня ў Беластоку, атрымаў ад яго мой адрас і прыслаў мне запросіны прыехаць да яго ў Беласток. Ён тады быў старшынёю Беларускага Аб'еднаньня ў Беластоку — замяніў Ул. Тамашчыка, які выехаў на фронт. Я паехаў. На Кіеўскай вуліцы я адшукаў Аб'еднаньне, зайшоў у сакратарыят і паведаміў аб маім выкліку. Чакаць давялося нядоўга — сакратарка запрасіла мяне да Ільляшэвіча. Я зайшоў. Ён устаў на прывітаньне, падыйшоў да мяне, і мы моцна паціснулі адзін другому рукі. Ён запрасіў мяне сесьці. Гэта было першае асабістае знаёмства.

Гутарка між намі завязлася хутка і мы, ведаючы адзін другога, сталіся быццам даўно знаёмымі, пасябравалі.

Пасьля размовы, Хведар Ільляшэвіч паклікаў сакратарку, і яна адвяла мяне на другі паверх, дзе былі вольныя пакоі для прыезджых. Там я затрымаўся на пару дзён. На абед ён запрасіў мяне да сябе, да сям'і, якая прыняла мяне вельмі ветліва.

Але вернемся да нашай гутаркі. Ён гаварыў, што трэба выкарыстаць абставіны, рабіць усё, што карыснае беларускай справе, не выпускаючы з вока галоўную мэту — вызваленьне Беларусі і адбудову свае нацыянальнае незалежнае дзяржавы ў межах нашых земляў. Мы мусім паказаць усяму сьвету, што мы жывём, маем сілу ды змагаемся за сваю Бацькаўшчыну. Калі мы ня будзем мець сваіх ідэалаў, сваёй мэты жыцьця і змаганьня, дык сільныя раздушаць нас, як таго чарвяка на дарозе, раздушыць нас гісторыя сваім колам. Каб гэтага ня сталася, мы мусім даць адпор, паказаць сваю сілу. Тады будзе меней ахвяраў, бо цяпер нас душаць маскалі, немцы, палякі — страляюць па нас з-за вугла. Нам трэба быць арганізаванымі, бо толькі тады мы будзем мець сілу. Немцы глядзяць на нас, як на "унтэрмэншаў". А калі мы пакажам сваю сілу, свае здольнасьці працаваць і змагацца, тады яны іншым вокам глянуць на нас, папусьцяць нам. Мы апынуліся ў такіх абставінах, што змушаны працаваць з немцамі. Прыйшлі-б да нас ангельцы, французы ці амэрыканцы, — мы працавалі-б з імі. Мо' тады лягчэй было-б працаваць, але заўсёды мы мусім трымацца разам, трымацца галоўнае нашае мэты — вызваленьне Беларусі і адбудова свае дзяржавы.



Ягоныя думкі захапілі мяне, я жыву імі і да сёньняшняга дня. І цяпер я думаю: каб ня ён, каб ня "Новая Дарога" і не Беларускае Аб'еднаньне ў Беластоку ў той час, дык цяпер там ня было-б ні "Нівы", ні беларускіх школ ні БГКТ.

Пасьля гутаркі мы разьвіталіся на два дні. Я застаўся там-жа ў Аб'еднаньні, а ён выехаў на два дні па справах у Горадню, даручыўшы мне сесьці ў ягонае крэсла і быць ягоным часовым заступнікам. Я адмаўляўся, бо ня ведаў, што да чаго, што гаварыць з наведвальнікамі. А іх было шмат — перасялнцаў з Белавежскай Пушчы. Кожны прыходзіў з просьбамі, з крыўдамі, а магчымасьці памагчы былі невялікія. Ён мяне давучаў: "Будзь да кожнага ветлівы. Прывітай, запрасі сесьці, папрасі расказаць, у якой справе прыйшоў. Уважна выслухай, скажы, што старшыня выехаў і папрасі, каб прыйшлі за пару дзён, старшыня вернецца і залагодзіць іхнюю справу."

Гэтак я і рабіў, і ўсе былі задаволеныя, хоць наведвальнікаў было шмат: адзін патрабуе дровы, другі — цукар, іншы хоча лепшую кватэру і г. д. У таго арыштавалі сына, ці кагось блізкага. Тады Ільляшэвіч бег у СД і памагаў выручаць, калі толькі была магчымасьць. Вось тут ён і паказваў сваю беларускую філязофію: "Калі вы нам не папусьціце, які будзе тады наш аўтарытэт сярод насельніцтва? — гаварыў ён у СД. (Я сам пры гэтым быў і чуў). І начальнік СД папускаў — звальняў арыштаваных.

Чуткі аб тым, што Ільляшэвіч і сябры Беларускага Аб'еднаньня ў Беластоку былі супрацоўнікамі з немцамі ў тым дусе, што памагалі вывозіць людзей у Нямеччыну, падаючы сьпісы на вываз, — зьяўляюцца брудным наклёпам маскалёў. Наадварот, яны вырвалі з рук гэстапаўцаў тое, што маглі вырваць; нават баранілі камуністаў, бо Хведар Ільляшэвіч гаварыў: "Гэта-ж наш чалавек: ня было-б савятаў, ня быў-бы ён камуністам; або, калі-б мы былі вольнымі, дык ён таксама ня быў-бы камуністам. Ён стаўся камуністам у выніку абставінаў." І ён меў рацыю. Напрыклад: Мікола Засім стаўся камуністам толькі тады, калі абставіны загналі яго ў лес ды немцы расстралялі ягоную маці.

Ільляшэвіч лагодзіў суадносіны паміж немцамі і беларусамі Беласточчыны. Ён дабіўся, таго, што ў Беластоку выходзіла газэта на беларускай мове "Новая Дарога", якую цяпер падмяніла "Ніва", з той толькі розьніцай, што "Новая Дарога" меней пісала пахвал акупанту, як цяпер піша "Ніва". Ён дабіўся, што былі арганізаваныя беларускія школы, быў арганізаваны хор і балет, быў запрошаны на выступы сьпявак Міхась Забэйда-Суміцкі, былі арганізаваны ў Беластоку два батальёны Беларускай Самаахоўы, ды Беларуская Самапомач. Гэта ўсё рабілася дзякуючы Ільляшэвічу, які ўмела мог падыйсьці да немцаў-акупантаў, але падыходзіў ён да іх не на каленях, а лёгічнымі вывадамі: за добрае — плаціць дабром.

Ясна, што ўсё тое, што рабіў Ільляшэвіч, не падабалася палякам і маскалям, хоць памагаў ён і маскалям, якія ўцякалі праз Беласток ад сваіх братоў на Захад. Нягледзячы на гэта, маскалі хацелі яго забіць. Яны падпільнавалі, дзе Ільляшэвіч вячэрае пасьля сканчэньня працы. А вячэраў ён у вартоўні, на другім паверсе, у кухні, дзе былая царская прыдворная прыбірала памешканьне Аб'еднаньня і варыла вячэру для яго і сяброў, якія ня мелі свае сям'і. Маскалі зьвязалі тры гранаты і кінулі ў вакно, але трапілі ня ў шкло, а ў раму, і гранаты ўпалі на зямлю і там разарваліся, не зрабіўшы нікому шкоды. У выніку гэтага замаху, які выклікаў слушнае абурэньне на маскалёў і палякаў, аўтарытэт Ільляшэвіча ўзрос і сярод немцаў і сярод сваіх людзей.

Немцы адступалі. З апошнім цягнікам выехаў і Ільляшэвіч з сваімі сябрамі з Беластоку. Я прыехаў у Нямеччыну не па сваёй волі значна раней яго. Калі я даведаўся, што ён затрымаўся ў Бэрліне, я аднойчы паехаў да яго. Ільляшэвіч вельмі сумаваў па тым, што сталася, асабліва, па сваёй сям'і і бацькаўшчыне.

Тады ён мне гаварыў: "Хоць мы і наш народ пацярпелі, але пра Беларусь цяпер будзе ведаць увесь сьвет. Гэтак сталася."

Перад канцом вайны ён пераехаў з Бэрліна ў Ватэнштэт. Тут ён не сядзеў із зложанымі рукамі: працаваў у гімназіі, выдаваў ратагарныя часапісы "Шляхам Жыцьця" і "Апошнія Весткі". Я стаўся супрацоўнікам гэтых выданьняў. Я асабіста ўдзячны яму за тое, што ён дапамог мне моцным крокам ступіць на літаратурны шлях.

У сваім апошнім да мяне лісьце, Ільляшэвіч заклікаў мяне быць і далей такім стойкім, якім быў раней, не паддавацца розным спакусам. Ён любіў выпіць, шмат курыў, але ніколі ня траціў свайго розуму, ніколі не сказаў благога слова нават тады, калі крыху "перабіраў мерміны сустрэчы з нябошчыкам, мая з ім супраца ў "Новай Дарозе", у Аб'еднаньні. Каб ён, лежачы ў зямлі, мог адчуць тое, што я перажываў, над ягонай магілай, ён устаў-бы, каб прывітацца са мной, пагаварыць, як калісьці мы гаварылі, разважалі, марылі пра вольную Беларусь, ды змагаліся за яе, за яе правы быць вольнай сярод вольных народаў.

У адносінах да людзей Хведар Ільляшэвіч быў просты, ветлівы ды чулы да чужога гора і адначасна быў упартым у змаганьні за Беларусь.



Юры Жывіца над магілай Хведара Ільляшэвіча.

Ад Юркі Віцьбіча 25 год таму я атрымаў сумную вестку, што Хведар Ільляшэвіч трагічна загінуў. Сьлёзы самі паліліся руччом. Мне было шкада яго, як чалавека, як змагара за беларускую справу, як майго настаўніка і сябра ў працы.

Магілу Хведара Ільляшэвіча мне давялося наведаць шмат гадоў пазьней ад імя беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў. Быў пахмурны восеньскі дзень. Я стаяў над магілай з апушчанай галавою, у якой маланкава праляталі ўспаку" ў выпіўцы. Ён ведаў, што гэта нядобра і шкодзіць на здароўе, але ня мог пазбыцца гэтага налогу. "Польскія турмы давялі мяне да гэтага, — гаварыў ён. — Я дзіўлюся, як чалавек можа вытрымаць столькі. Нас білі, саджалі ў катухі, дзе мы мусілі сядзець на кукішках — мучыцца, але мы вытрымоўвалі. Ды і маральны зьдзек быў ня меншы. Падлога ў нашым кутку-закануры была чысьцюткая, але нас усёроўна змушалі чысьціць яе: каб мы, крый Божа, не сядзелі бяз працы і ня мелі ў галаве бунтарных думак, і мараў".



Шкада, што гэты вялікі сын беларускага народу загінуў так рана, загінуў на шляху жыцьця на чужой зямлі. Хай яна будзе яму лёгкай і ціхім, спакойным прытулкам! Мо' дасьць Бог, і ягоныя астанкі вернуцца ў прышласьці на родную зямлю.

*Дапіска:* Побач магілы Ільляшэвіча ёсьць магілы іншых ДПістаў. На іх ёсьць помнікі з каменя з беларускімі напісамі і з напісамі на іншых мовах, бо гэтае месца было прызначанае арганізацыям УННРА і ІРО для пахаваньня ДП. Ці яно і далей застанецца там, ці будзе перанесенае дзесь на іншае месца — няведама. Месца прыгожае, аднак вее сумам, калі глядзіш на магілу блізкага чалавека.

Бонн, Нямеччына, 1973 г.

*Сьвятаслаў Залужны (Хведар Ільляшэвіч)*

# Сон

Час здаецца мёртвым бяздоньнем. Яны і ня ведаюць, каторая цяпер гадзіна. Толькі чым глыбейшая ноч, тым выразьней адчуваюць яны цішыню. У ёй яны гінуць, як у акіяне. І ў гэтай цішыні нейкім шорахам лістоў гучаць іх словы. Здаецца, ня словы, а пакорныя цені іх думак лапочуць з заміраньнем. Два чорныя цені нярухомымі касматымі сабакамі ляглі ля сьценаў. Калі агонь успыхвае ў печы, цені выцягваюцца да столі, быццам сабакі прачнуліся і пацягваюцца спрасонку.

— Аб чым думаеш? — пытае Ягор, і вочы яго, як два вільготныя сьлізы, спаўзаюць паволі ў бок нярухомага суседа, Сьцяпана.

— Так сабе... ні аб чым, — памаўчаўшы крыху, нехаця адказвае Сьцяпан. Ён як-бы цэдзіць словы, і яны расплёскваюцца ў цішыні. Цень ягоны парушаецца на сьцяне, быццам куртаты сабачка ловіць муху.

І яны зноў доўга маўчаць. Жар у печы цямнее і паволі гасьне.

Пахне паленым торфам і сырой гнільлю.

— Сьцяпан! — чуваць ізноў нясьмелы, ціхі голас Ягора. — Ты сьпіш?

— Не, — неахвотна адказвае ён, як быццам адганяе дакучлівую муху. Ён ня хоча гаварыць. Яму прыемна так моўчкі, нярухома сядзець каля агню. Нейкімі цёплымі колерамі калышуцца абразы далёкага і блізкага. Здаецца, ажывае яно ізноў у ціхіх снох.

— Ты скажы, — не адстае Ягор, — як можна пазнаць, што золата ў зямлі ёсьць?

У Сьцяпана ў зрэнках мільгаціць залацістых пылок, быццам маленькія іскрынкі запалі ў іх. Можа золата адбілася ў іх і яго налёт астаўся з тых часоў, калі ён быў у ссылцы на Урале і Калыме. Сьцяпан доўга маўчыць. Ня раз-жа ён ужо гаварыў аб "старацелях", "бутары", "вашгердзе".

— Трэба нюх мець, — пасьля доўгага маўчаньня адказвае ён. — Так, як на зайца. Іншы цэлы дзень ходзіць і вернецца з нічым. А іншы як-бы нюхам чуе...

Пад нарастаючым попелам таюць апошнія вугольчыкі. Але яшчэ крыху абдае цяплом.

Ягор чуецца няёмка. Ён хоча гаварыць, падзяліцца думкамі. Але Сьцяпан маўчыць. Золата для яго як быццам нічога ня значыць. Ён нават ня любіць гаварыць аб ім. А Ягор... думкі аб золаце не даюць яму спакою. У яго даўно зрадзілася жаданьне стацца "старацелем". Ён, як вернецца дахаты, абавязкава будзе шукаць золата. Ён часта сьніць, што вее золата. Замест жытніх зернятаў сыплецца з вянкі залацісты буйны лён.

— А ёсьць такое каменьне, — ня можа стрымацца ён, — як разаб'еш яго — у сярэдзіне галачка цёмная, а на ёй — залатыя жылкі. Гэта — ня золата?

— Не, гэта ня золата, — адказвае Сьцяпан. — Я чуў, неяк называюцца такія каменьні, але забыўся.

Ягор ізноў аддаецца марам. Золата! Золата!.. Ён чуў ад аднаго работніка, што на Лані, пад Лунінцам калісь знайшлі залатаносны пясок. Прыпадкова трапілася яму ў рукі кніжка Джэка Лёндана. Так, на Беларусі павінна быць золата... Але вось Сьцяпан, гэты чалавек, які найбольш мог-бы заспакоіць ягоную зацікаўленасьць, маўчыць...

— А як ты думаеш, — прабуе ізноў пачаць гутарку Ягор, — ці ў балотах можа быць золата?

— Хіба не. А, зрэштай, хто яго ведае. Як якое балота. — Сьцяпан варочае асьцярожна вугольчыкі, і цені ізноў касматымі сабакамі варушацца на сьценах.

"Хто яго ведае... — паўтарае ў думках Ягор. — Як якое балота."

А на Палесьсі было калісь мора... Ён чытаў

аб гэтым. Можа, каб дабрацца да дна, там і золата ёсьць. А яго маглі выкінуць наверх падземныя крыніцы.

Быццам нейкая каляровая казка рысуецца перад ім. На палескіх рэчках і балотах яшчэ шмат няведамага чалавеку. Гэта — беларуская джунгля. Золата!.. Ён знаходзіць залатую жылу, не — цэлыя глыбы. Золата пераліваецца, мітульжыць зьліткамі зор, быццам даўно ўпаўшыя ў палескія балоты зоркі застылі нягаснучым блескам. Залатыя пырскі сыплюцца на "бутары", а пад ёй стаіць Ягор і сьмяецца. Радасны, задаволены.

Сьцяпан бачыць і як-бы чуе казку маладога Ягора. Але ён стары.

— Добра, як было-б у нас золата. Ды яго, пэўне, няма, — кажа холадна ён. — Край наш азалоціцца працай.

Але казка падабаецца яму.

— Ну, ну, ня думай толькі зашмат, каб з глузду ня зьехаў, — дадае ён. — Я ведаю такіх...

Ягор сьціхае. На хвіліну мары яго перарываюцца. І ўсё ў бараку становіцца нейкім звычайным, нудным. Вагонь зусім стух. Постаці іх зьліліся з цемрай. У ёй дзесь схаваліся і касматыя сабакі — іхнія цені. Толькі на шыбах вакна сьвятлее копаць ночы.

...Шырока разьлілася Прыпяць. Адно мора. Залатымі рыбкамі трапечацца ў ім сонца. Ягор плыве і плыве. Моцнымі ўзмахамі вёслаў адгартае глыбокую ваду. Гарыць Палесьсе, запаленае сонцам. Быццам у яго воды ўпалі яго расплаўленыя кавалкі. Ён плыве іскрыстай прозалацьцю, і здаецца яму, што ў тоні водаў, на дне ракі, кальшацца залаты ланцуг.

З прагавітасьцю ўглядаецца Ягор у ваду. "Дастаць-бы гэты ланцуг... Золата хапіла-б ня толькі для яго, але для ўсіх. Тады настрэшнікі зрабілі-б усе залатыя... А нашто тады былі-б настрэшнікі? Замест саломы, хаты крылі-б залатымі гонтамі. Але ня добра было-б. Занадта бліпчэла-б...

У бараку становіцца ўсё больш халадней. Шыбкі вакна бялеюць, быццам іх нехта няпрыкметна пабяліў вапнам.

...Прыязджае ён у сваю вёску. Новы самаход. Усе выбягаюць насустрач. Самаход становіцца каля іхняе хаты. І гэта ўжо ня хата. Гэта — вялікі сьветлы дом. Усе бягуць да яго. "Вы што, — пытае ён, — яшчэ ўсё саломай стрэхі крыеце? Даволі нам жыць у бядзе. Я вам пакажу, як сапраўды жыць." Золата сыплецца, быццам з веянкі залацісты буйны лён. І хаты замяняюцца ў вялікія дамы. "А чаму ў вас вадаправоду няма? Цёплая вада павінна быць у сялянскай хаце. Радыё". І чуе Ягор, як прыгожая, чароўная музыка плыве з адчыненых вокнаў. І так сьветла, так празрыста ўсюды. І бярозкі, і дарожкі, і мосьцікі, — усё неяк інакш выглядае. А вось адзін немец яму расказваў, як у іх вёску калісь прыехаў іх зямляк з Амэрыкі. Отто Білё. Ён прывёз з Амэрыкі самаход і справіў гулянку для ўсяе вёскі. Ягор таксама справіць гулянку. У алешніку за вёскай расчысьцяць пляц. Расставяць сталы. Накрыюць чыстымі белымі абрусамі...

Сьцяпан як быццам бачыць і чуе каляровую казку маладога Ягора. Але ён стары. Ён прайшоў жыцьцё, бачыў залаты дождж.

— Ня золата, братка, — кажа ён Ягору. — Праца, праца! Працай і Палесьсе зробім залатое. Вось, каб тую працу, што мы кладзём на нямецкіх баўэраў, ды на родныя палеткі... Ня трэба і золата.

Але Ягор ня чуе ягоных слоў. Ён сьпіць, прытуліўшыся да халоднае печы.

— Уставай, уставай! — будзіць ён Ягора. — Хутка, мусіць, і ўставаць трэба.

Ня сьпіцца Сьцяпану. Думкі наплываюць у галаву. Ён варочаецца з боку на бок, але заснуць ня можа. Ён устае, накрывае Ягора, папраўляе падушку. Сумна аднаму. Цяпер яму шкада, што ён не пачаў гутаркі з Ягорам. Падыйшоў да вакна. Пастаяў крыху. Ціха, ціха. Толькі ў паліцэйскай будцы чувацъ здалёк прыглушаны рогат. Белая шыбка ўгары наліваецца фіялетам.

— Хутка на работу, — думае Сьцяпан і пазяхае, сілячыся нагнаць сон. Думкі мутнеюць, адплываюць кудысь, робіцца лёгка.

— Золата... — шопатам гаворыць ён да сябе і ўсьміхаецца нейкай жаласьлівай усьмешкай.

1944 г.

*Міхась Кавыль*

### ЛЕТНІ ВЕЧАР

Гамы летняга вечара дзіўныя:
Льлюцца жніўныя песьні ў палёх,
Задумёныя, сумна-надрыўныя,
Быццам лернік на струны налёг.

У сулад з салаўінымі трэлямі —
Зычны кагарак хор ля ракі.
На сінь неба апёршыся крыльлямі,
Пражацъ звонкі гарох жаўрукі.

У цымбалы тнуць пчолы над кветкамі; —
Сны салодкія сьніць ім пара.
Шэры змрок над лугамі, палеткамі
Васільком пракалола зара.



*А. Саковіч*

# Вясельле

Мар'яна даведалася, што ў суботу ў Кліўлэндзе адбудзецца вясельле Надзеі Юрашкевіч зь Пятрыкам Руцкім. Каб не спазьніцца на шлюб маладых у царкве, яна з мужам выехалі із свайго дому ў Нью-Ёрку яшчэ ў пятніцу, на захадзе сонца. Ды, як часта здараецца ў вялікім горадзе ўлетку напярэдадні выхадных дзён, трапілі ў шалёны "трэфік".

Павольна цягнуцца ў бясконцым ланцугу самаходаў, калі стаіць напаленае за дзень сонцам нярухомае паветра — праўдзівая пакута. У самаходзе гарачыня душыла, вопратка ліпла да цела. Мар'яна прысунулася як магла бліжэй да адчыненага вакна. Не дапамагала. Яна бачыла на ілбу мужа кроплі поту, на ягонай сьпіне вільготную кашулю й чулася вінаватай. Павел не хацеў ехаць на вясельле; гэта яна, Мар'яна, настояла.

— Мы зрабілі памылку, што не перачакалі "трэфіка" дома, — сказала яна.

Павел працягваў кіраваць самаходам моўчкі, нібы ня чуў жонкі.

— Ты не задаволены, што мы паехалі?

— Не размаўляй, Мар'янка, мне трэба сачыць дарогу, — папрасіў ён.

"Сачыць дарогу, калі самаход рушыцца з хуткасьцю чарапахі — проста адгаворка", — падумала Мар'яна, але не запярэчыла мужу, адно голасна ўздыхнула.

Павел адчуў незадаволеньне жонкі, міралюбна сказаў:

— Выбярэмся за горад, тады пагаворым.

"Так заўсёды ў нас, — думала яна: — некалі пазьней пагаворым... некалі пазьней". Яны абое працуюць: яна ў бібліятэцы, Павел на фабрыцы. А калі дома, у Паўла абавязкава знойдзецца штосьць неадкладнае. То беларускі часапіс ці газэта чакаюць на ягоны артыкул, то сьпешна трэба падрыхтаваць рэфэрат. Ён заўсёды заняты... Сёньня таксама шукаў прычыны, каб ня ехаць; адгаварваўся, што дастаў Баркулабаўскі летапіс і мае ахвоту папрацаваць над ім. "Летапіс — толькі зачапка, каб застацца дома, — папракнула яна Паўла. — Ужо колькі разоў мы мелі нагоду зьезьдзіць у Кліўлэнд, і ты заўсёды адмаўляешся. Скажы — чаму?" — кінула яна дакор і была зьдзіўленая, калі твар мужа зьмяніўся, набыў нязвыкла заскочаны выраз. Але гэта трывала толькі імгненьне. Калі ён узьняў на яе вочы, у іх сьвяцілася ласкавая ўсьмешка, а голас, як і заўсёды, гучэў спакойна: "Што-ж, раз табе так хочацца пабыць на вясельлі, паедзем. Я пайду агледжу самаход. Дарога далёкая". Тон, якім Павел казаў, супакоіў Мар'яну. Ды ў той момант у яе й ня было часу на роспыты. Яна сьпяшалася сабраць патрэбныя ў дарогу рэчы й вопратку. Але цяпер, прыгадаўшы выраз ягонага твару, ягоную заскочанасьць, яна падумала, што на ейнае пытаньне, чаму ён ніколі ня хоча ехаць у Кліўлэнд, ён нічога не адказаў. "Мо ён і запраўды з чымсь хаваецца ад мяне?" — падумала Мар'яна.

У другую сусьветную вайну Мар'яна з Паўлам былі разлучаныя. У верасьні 1939 году Паўла паклікалі ў польскае войска на вайну супраць немцаў. Трагічнае расстаньне для іх абаіх: яны былі маладымі, шчасьлівымі, мелі шасьцігадовую дачку. З прыходам немцаў у Беларусь Павел вярнуўся з палону дадому, але не застаў там свае сям'і. Яшчэ ўлетку 1940 году Саветы вывезьлі Мар'яну зь дзіцем на ссылку, у тайгу пад Новасібірск. 16 гадоў нічога ня ведалі яны адзін пра аднаго. Спаткаліся, як кажуць людзі, цудам. Спатkаліся пад чужым небам, згубіўшы дзіця, лепшыя гады свайго жыцьця, бацькаўшчыну. Калі зь імі была Алеська, колькі радасьці й цяпла мелі яны ў сваёй сям'і. Цяпер яны самі. Час будаваць сям'ю зь дзецьмі мінуў. І гэта таксама вялікім цяжарам кладзецца на душу Мар'яны. Яна любіць дзеці й ведае, што ня менш ад яе любіць іх Павел.

Ужо добра сьцямнела, калі яны перасеклі тунэль Лінкольна пад Гудзонам і выбраліся на "тарнпайк". Адразу хутка й вольна пайшоў наперад самаход. Праз вокны прыемна павеяла вячэрнім халадком. Стала лёгка дыхаць.

Хуткая язда па шырокіх, прасторных амэрыканскіх дарогах заўсёды прыносіць Мар'яне адчуваньне вялізнага размаху калясальнай моцы краю, абвастрае адчуваньне свабоды. Амэрыка — шчасьлівы атол для ўсіх выгнанцаў, для яе. У савецкай тайзе яна чакала на сьмерць, клікала яе, як збаўленьне... Яна выжыла, шмат у гэтым дапамаглі ёй Юрашкевічы. Як яна ўсьцешылася сёньня, калі даведалася, што й яны ў Амэрыцы!

Юрашкевічы — тыповыя для Беларусі заможныя сяляне: старанныя, інтэлігэнтныя, людзі добрай душы. Пазнаёмілася зь імі Мар'яна ў Радашковічах, дзе яна з Алеськаю чакалі на этап. Зь імі працавала разам у тайзе. Там і памерла Алеська. У тую, самую страшную пару Мар'янінага жыцьця, Юрашкевічы ня спускалі зь яе вока. Гэта галоўна яны нас-

тоялі, пацягнулі Мар'яну за сабою, калі надарылася нагода з войскам Андэрса пакінуць Саветы. І ў Іране, у лягеры пад Тэгэранам, яна заставалася зь імі. Там пасьля злое савецкае няволі ажылі надзеі людзей. Толькі ейнае, Мар'яніна, сэрца, зьледзянелае ў горы, не магло адыйсьці: Алеська-ж ейная засталася навечна ў халоднай варожай зямлі.

Найбольш балюча было бачыць дзяцей, чуць іхны сьмех. Балюча было бачыць і малую Надзейку, якая нарадзілася ў Юрашкевічаў. Ды здарылася так, што Юрашкевічава жонка пасьля родаў моцна захварэла. Малую амаль сем месяцаў давялося даглядаць Мар'яне. Надзейка... ейная першая ўсьмешка, працягнутыя ў радасьці рукі, дзіцячая адданасьць і залежнасьць ад Мар'яны зрабілі тое, чаго не магла зрабіць людзкая спагада. Яны адагрэлі Мар'яніна сэрца, вярнулі яе да жыцьця.

Зь Ірану Юрашкевічы выехалі ў Ангельшчыну, а Мар'яна атрымала візу ў Канаду. Тры гады мела Надзейка, калі Мар'яна бачыла яе апошні раз. Цяпер нявеста, ідзе пад вянец... Як ляціць час!

— Ты сьпіш? — перарваў Мар'яніны думкі Павел.

— Не, думала пра маладую.

— Была яна сяброўкаю нашае Алескі? — спытаўся Павел. Голас ягоны цяпліўся пяшчотаю.

— Надзейка маладзейшая. Яна нарадзілася ў лягеры пад Тэгэранам.

— Колькі-ж ёй цяпер гадоў?

— Пачакай, я палічу. Нарадзілася яна ў ліпені 44 году, а цяпер жнівень 67-га...

— 23 гады, — хутчэй за Мар'яну палічыў Павел.

— Выходзіць, яна зь Петрыкам аднагодкі.

Мар'яна зьдзівілася:

— Адкуль ты ведаеш маладога? Ты мне ніколі пра гэта не казаў.

Павел ня рады быў, што імя Петрыка сарвалася зь ягоных вуснаў. Адразу не знайшоўся, як адказаць. Схлусіць? Не хацеў. Сказаць праўду? Ня мог.

— Адкуль ты ведаеш маладога? — паўтарыла пытаньне Мар'яна.

— Адзінец, — назваў Павел сябру, зь якім разам працаваў на фабрыцы, — таксама едзе на вясельле. Адзінцы й Руцкія ў Нямеччыне разам жылі. Паводля яго, Петрык — нарэдкасьць здольны юнак. Па сканчэньні сярэдняй школы дастаў стыпэндыю вучыцца ў унівэрсытэце. Цяпер працуе над дактаратам. Але галоўнае, ня згубіў жаданьня зрабіць карысьць сваёй бацькаўшчыне: тэму для дактарата ўзяў з гісторыі Беларусі.

— Шчасьлівы хлапец, — сказала Мар'яна.

— Шчасьлівыя Руцкія, што маюць такога сына, — дадаў Павел. Голас ягоны быў поўны пяшчотнай журбы, тэй журбы, зь якой ён заўсёды гаварыў, калі ўспамінаў Алеську.

"Ён шкадуе, што ў нас няма дзяцей", — засмуцілася Мар'яна. Спыталася:

— Ты ведаеш Руцкіх?

— Пад час вайны я спатыкаўся з Ларысаю Руцкай. — Аб тым, што ён бачыўся зь ёю адразу па прыезьдзе ў Амэрыку, ён уважаў за лепшае прамаўчаць.

— Ейны муж, як і я, быў у ссылцы на Сібіры, — сказала Мар'яна.

— Я ведаю.

— І, мне здаецца, — працягвала яна, — нас зь ім на адным ангельскім параплаве везьлі праз Касьпійскае мора із Саветаў у Іран... Я памятую ягонае прозьвішча; памятую, як аднойчы на палубе гутарыла зь ім; памятую пра што гутарыла, але зусім ня памятую, як ён выглядаў. Дзіўна!..

— Пра што-ж вы гутарылі?

— Кожны пра сваю бяду. Пра разьбітыя сем'і... Я плакала па Алесьцы й табе, ён заплакаў па сваёй жонцы... І адразу стаў мне вельмі сымпатычным... Відаць, таму й размова зь ім засталася назаўсёды ў памяці... А дзе ты спаткаўся з Руцкаю?

— Мы працавалі разам у Даўнарах.

— Хіба Руцкая із Даўнароў?

— О не, яе прыслалі туды на працу зь Міра. Мар'яна ведала Даўнары. Адтуль паходзілі ейныя бацькі. Яна й цяпер добра памятае гэтае мястэчка. Шырокія пяшчаныя вуліцы. Каменная царква ў цэнтры, а насупраць царквы — два школьныя будыкі.

Шукаючы вестак пра Мар'яну, у Даўнары прыйшоў пасьля палону Павел. Сваякоў не застаў (іх таксама вывезьлі), але застаўся там працаваць у сямігодцы.

— Гутарылі вы з Руцкай пра свае сем'і? — зацікавілася Мар'яна.

— Часта.

— Сумавалі?

— Вельмі.

— Як дзіўна ў жыцьці здараецца! — сказала Мар'яна.

Размова заціхла. Кожны задумаўся пра штось сваё.

Самаход нёсься наперад. Ягоныя пярэднія агні клаліся далёка на гладкую шашу, вырывалі зь цемені начы прыдарожныя знакі з нумарамі й назвамі дарог, з паказам кірунку.

Павел ня хлусіў жонцы, што ён моцна сумаваў па ёй і дачцы. Мар'яна й Алеська ніколі не пакідалі ягоных думак і сэрца... Але, паза тым, гады, калі ён працаваў з Ларысаю Руцкай у школе, былі гадамі захапленьня Ларысаю.



Шалела вайна. Пасьля заходу сонца забаранялася выходзіць на вуліцу. У страху сядзелі па хатах людзі: уначы часта наведвалі іх з-за Нёману партызаны, ці зь Лядаў, дзе стаяў паліцыйны аддзел, наязджала паліцыя. Калі адны спатыкаліся з другімі, на вуліцы ўзьнімалася страляніна. Людзі малілі Бога, каб бяда мінула іхную хату. Ніхто ня мог быць пэўным, што да раньня застанецца жывым.

Палохаючымі былі ночы. А Ларыса была не з адважных. Яна й Павел жылі пры школе, у розных будынках. Неяк у лютым выдалася надзвычай халодная ноч. З чыстага неба зіхацеў блізкучы, нібы ўмерзлы ў цёмнай сіні, месяц. Павел ня клаўся спаць, наглядаў з вакна, як вуліцаю шасталіся групамі па трох-чатырох партызаны. Дзесь у хаце каля самага Нёману яны ладзілі забаву, зьбіралі па хатах ежу, шукалі дзяўчатаў. І калі Павел пачуў стук у свае дзьверы, быў пэўны, што й да яго завіталі партызаны. Пайшоў адчыніць. На ганку стаяла Ларыса. Месяц сьвяціўся ў ейных вачах, сьлёзы на твары. "Што здарылася?" — устрывожыўся Павел. "Мне страшна самой. Я баюся..."

Мар'яна спыталася:

— Ты ведаеш, што Петрык — ня сын Руцкага?

Якраз у той момант Павел надумаўся выперадзіць трак. Размова стала немажлівай: побач, заглушаючы ўсё, загуў матор трака.

— Service station — one mile — прачытаў Павел з прыдарожнае шыльды, калі гул трака застаўся ззаду. — Мо заедзем адпачыць і ў самаход набраць газаліны?

— Добра, — згадзілася Мар'яна.

Не зважаючы на позьні час, у ярка асьветленай салі станцыі грамадзілася шмат людзей. Мар'яна заняла вольны столік і чакала, пакуль Павел прынясе кавы. Зь месца, дзе яна сядзела, ёй было відаць яго каля буфэту. Павел заўсёды вылучаўся ў натоўпе: ён вышэйшы за многіх, добра збудаваны. Сьветлыя валасы на галаве, густыя й хвалістыя. Адно заўчасныя глыбокія барозны на ілбу й навакола вуснаў сьведчаць, што й на ягоную долю прыпала нялёгкае жыцьцё. Колькі год пасьля вайны Павел заставаўся на бацькаўшчыне, у падзямельлі, разам з тымі, хто верыў у неабходнасьць працягваць змаганьне на беларускай зямлі. Нажаль, перамога была не на іхным баку. Апусьцілася жалезная куртына, спадзяваньні на дапамогу вольнага сьвету зьніклі. І Павел пайшоў на Захад.

Мар'яна ганарыцца мужам, кахае яго й шчасьлівая, што яны ізноў разам. Але 16 гадоў — вялікі адрэзак часу. "Пра ўсё тое, што ён перажыў, я ніколі не даведаюся", — ня раз думала яна й тут-жа імкнулася супакоіць сябе: — Гэта непатрэбная жаночая зайздрасьць... Я не павінна непакоіць сябе недарэчнымі думкамі, назаляць яму з роспытамі, падозраньнямі..."

Калі Павел вярнуўся, Мар'яна спаткала яго жывой усьмешкай:

— Ведаеш, я параўноўвала цябе ў натоўпе зь іншымі.

— І...?

— Прыйшла да высnаву, што ты найпрыгажэйшы.

—Дзякую.

— А твае валасы ўсё яшчэ колеру жыта, у якім адбілася сонца.

— Прызнайся, дзе ты вычытала такое паэтычнае параўнаньне? — расьсьмяяўся Павел.

— У вадным ангельскім рамане.

Паўлу было прыемна, што Мар'яна павесялела й жартуе. Сам ён пачынаў спадзявацца, што неяк усё абыдзецца.

— А цяпер адкажы мне, чаму ты не папярэдзіла мяне раней, што хочаш ехаць на вясельле?

— Проста, сёньня зрана я й сама нічога ня ведала пра вясельле.

— Каб нас там моцна жадалі бачыць, то запросіны прыслалі-б не ў апошнюю хвіліну.

— У нас няма ніякіх запросінаў, — весела абвясьціла Мар'яна.

— Няма?

—Памятаеш, я табе казала пра Рагнеду Вайтовіч, што прыехала з Клііўлэнду ў славянскі аддзел нашае бібліятэкі, каб папрацаваць і зрабіць мікрафільмы з патрэбных ёй матар'ялаў? Сёньня мы разам хадзілі сьнедаць у рэстаран. Яна мне й сказала, што а шостай увечары ляціць дадому, бо запрошаная на вясельле сваіх сяброў. Петрыка й Надзею яна зь дзяцінства ведае.

— Выходзіць, мы без запросінаў людзям на галаву звалімся.

— Кінь пра гэта думаць, — сказала Мар'яна. — Гэта ня так істотна. Галоўнае — у Юрашкевічаў вялікая радасьць, а яны мае добрыя знаёмыя. Я пэўная, ім будзе прыемна пабачыць мяне, пазнаёміцца з табою.

— Але-ж ёсьць яшчэ й Руцкія. Ці жадаюць яны нашае прысутнасьці на вясельлі?

— О, Божа мой, які ты часамі датклівы бываеш! Я зусім не сумняваюся, што й для Руцкіх, як і для Юрашкевічаў, наш прыезд будзе прыемнай неспадзеўкай, — запэўніла Мар'яна.

Павел ня мог падзяліць пэўнасьці жонкі. Наадварот, ён не сумняваўся, што Ларыса гляне на яго із зьдзіўленьнем і дакорам. Аднойчы ён паабяцаў Ларысе ня шукаць больш зь ёю сустрэчаў.

Жонка спыталася:

— Аб чым ты задумаўся?

— Дзе мы затрымаемся — у Юрашкевічаў ці ў матэлі?

— Я аддаю перавагу матэлю. Крыху адпачнем ад дарогі, пераапранемся.

— Згода.

— А яшчэ мне трэба будзе зазірнуць у Beauty Salon, прыхарашыцца. Хачу выглядаць на вясельлі якнайлепей, каб ты ні на каго не заглядаўся, — жартавала Мар'яна.

— Ты для мяне заўсёды найлепшая, — шчыра азваўся на ейны жарт Павел.

— Добра, гэта надзвычайна добра, бо самае важнае ў сужэнстве — каханьне й давер... давер.

Апошняе слова Мар'яна паўтарыла прыціхлым голасам, і яно вострым болем разанула па сэрцу Паўла. Здагадваецца Мар'яна, што ён крыецца перад ёю? Але-ж таямніца ня толькі ягоная. Таямніца й Ларысіна.

Неўзабаве яны ізноў ехалі. Прытуліўшыся галавою да сьпінкі сядзеньня, Мар'яна заснула. Павел углядаўся ў цемень. Усюды, куды сягала на дарозе вока, рушыліся чырвоныя й белыя агні самаходаў. Думкі ягоныя ізноў вярнуліся да Ларысы. Пры спатканьні зь ім у Амэрыцы Ларыса не сказала яму, што мае Петрыка. Баялася? Чаго? Думала, што ён пачне прэтэндаваць на сына? "Дарэмна, — ня раз запэўняў сябе Павел. — Я ня сам, я з Мар'янаю, мы шчасьлівыя..." Але ў глыбіні свайго сэрца Павел ведаў, што гэта ня так. Калі ён чуў ад Адзінца пра Петрыка, пра ягоныя здольнасьці й посьпехі, ён вельмі цешыўся. Петрык — ягоная, схаваная ад усіх радасьць у сэрцы... Як ён спаткаецца з Ларысаю заўтра? Што скажуць яны адзін аднаму? Ён скажа: "Добры дзень, спадарыня Руцкая. Знаёмцеся, мая жонка. У вашай сям'і — вялікае сьвята. Вітаю вас!" А яна адкажа: "Дзякую. Знаёмцеся, мой муж..." Павел не пасьмее спытацца ў яе: "Чаму яшчэ дома ты схавала ад мяне, што чакаеш дзіця? Чаму не сказала мне пра яго, калі мы з табою пабачыліся ўжо тут? Пашто хаваешся ад мяне? Я-ж ведаю, што Петрык — мой сын".

***

Дзесь адразу пасьля паўдня ехалі Мар'яна з Паўлам па Scranton Road, дзе (ведалі яны) мясьцілася нядаўна збудаваная кліўлэндзкімі беларусамі царква. Першая ўгледзела царкоўны будынак Мар'яна:

— Я бачу царкву.

— А я дзьве, — сказаў Павел і запаволіў ход самаходу. — Каторая-ж наша?

— Першая ад нас, бо фасад ейны аздоблены беларускім арнамэнтам.

Павел запыніўся на момант перад уездам на царкоўны двор. На вялікім заасфальтаваным пляцы шчыльна стаялі адзін пры адным самаходы. Павел ня бачыў там вольнага месца. Таксама быў ужо заняты й увесь квартал уздоўж шырокае вуліцы з абодвых бакоў.

— Як шмат панаехала нашых людзей! Глядзі, пліты на самаходах ня толькі з розных штатаў Амэрыкі, але й з Канады, — захапілася Мар'яна.

Ля самае царквы вялікі натоўп людзей. У сонечным бляску жнівеньскага дня шмат зыркіх колераў: сьвяточнае ўбраньне на людзях, дываны кветак на клюмбах, жывая агарожа з высокіх зялёных кустоў вакол царкоўнага двара, а над усім гэтым — высака ў небе на купале залаты Афрасіньеўскі крыж. Тут, у акіяне Новага Сьвету, беларускі кут.

— Усё добра, але дзе-ж нам паставіць самаход? — разважаў Павел.

У гэтую хвіліну да іх падыйшла Рагнеда. Зь ёю хлапец. Абое яны на грудзёх мелі бутаньеркі зь белых і чырвоных ружаў. Яны павіталіся.

— Я расказала пра вас, спадарыня, Юрашкевічам, — сказала Рагнеда, ветліва ўсьміхаючыся. — Яны даручылі мне з Кастусём (назвала яна хлапца, што падыйшоў разам зь ёю) спаткаць вас. Прасілі перадаць, што будуць шчасьлівыя бачыць вас і вашага мужа на вясельлі, а пасьля вясельля — гасьцямі у сябе.

— Дзякуем, — у вадзін голас адказалі Рэўты.

— А цяпер скажэце нам, калі ласка, дзе паставіць самаход? — запытаўся Павел.

— Мне й загадана знайсьці месца для вашага самаходу, — азваўся Кастусь.

— Вы мне толькі скажэце, дзе тое месца глядзець?

— На суседнім дворы, — паказаў Кастусь рукою ў бок пратэстанцкае царквы.

— А ці дазваляюць яны чужым паркавацца ў сябе?

— Пэўна. Мы зь імі ў добрым суседзтве. Часамі бывае, што й яны ставяць свае самаходы на нашым пляцы. Дазвольце, я заганю ваш самаход туды, — прапанаваў Кастусь.

— Не, дзякую. Забярэце толькі маю жонку: яна паміраe хутчэй маладых пабачыць.

— Шкада, вы крыху запазьніліся. Маладыя ўжо ў царкве, — сказала Рагнеда, — а гасьцей наехала так шмат, што ў царкву цяпер



ужо не прабіцца.

Праз момант Мар'яна ўжо была ля царквы.

— Я заўсёды шчасьлівая апынуцца сярод сваіх, — казала яна Рагнедзе.

Яны стаялі перад шырокімі мураванымі сходамі, якія перарываліся прасторнай пляцоўкай і ўзьнімаліся высака да пляцоўкі каля ўваходу ў прытвор. Сярэдзіна сходаў была высланая белай ільняной сьцежкай, а паабапал, каля парэнчаў, месцы занялі дзеці й моладзь. Яны чакалі на выхад маладых, каб вітаць іх і абсыпаць рыжам "на шчасьце". Гэта найбольш ажыўленая тут, найбольш вясёлая грамада. З царквы даносіцца стройны сьпеў хору.

— Спадарыня Рэўт, — прыцішана гукае Мар'яну з прыступкаў сінявокая Юлька, дачка Адзінца. — А мы ня ведалі, што вы на вясельлі будзеце.

— Я й сама яшчэ ўчора зрана ня ведала, — адказвае ёй Мар'яна й ловіць на сабе ўважлівы пагляд старэйшай кабеты. На худым, зжаўцелым твары вочы бяз радасьці й цяпла, вусны бяскроўныя, пакамечаныя, як і твар, безьлічча зморшчкаў.

— Дык вы спадарыня Рэўт? Ці ня Паўла Рэўта жонка?

— Ягоная, — ветліва адказвае Мар'яна.

— Няўжо й ваш чалавек сёньня тут?

— Пэўна тут, зараз прыдзе. Самаход на суседнім двары ставіць.

Ад слова "няўжо", ад выцьвілых вачэй старой кабеты Мар'яне чамусьці робіцца няёмка. Але яна працягвае быць ветлівай да яе, пытаецца:

— Скажэце, калі ласка, а хто-ж будзеце вы?

— Альжбэта Ігнацік, — адказала старая. — Я з вашым чалавекам у Даўнарах у часе вайны ў школе працавала. У той самы час, калі вы зь дзіцем на Сібіры пакутвалі.

Твар Мар'яны сумнее.

— Наша дачушка ў тайзе памерла.

Рагнеда з дакорам глядзіць на спадарыню Ігнацік.

— Спадарыня Рэўт ведала Надзейку зусім малой, як толькі нарадзілася, — спрабуе яна перавесьці размову на весялейшую тэму.

Але спадарыня Ігнацік не зьвяртае ўвагі на дакорлівы пагляд Рагнеды:

— Вось яно як сталася, — дзівіцца яна да Мар'яны. — Вы на чужыне дзіця хавалі, а ваш чалавек і не здагадваўся... — Апошнія словы яна дагаварвае ўжо не да Мар'яны, а да Паўла: — Вы мала зьмяніліся, спадар Рэўт.

— А вы, памойму, яшчэ меней, — запэўняе Павел і паціскае працягнутую да яго касьцістую высахлую руку.

— Колькі год мы з вамі ня бачыліся? — пытаецца спадарыня Ігнацік.

— Шмат.

— Шмат, шмат. Пачакайце, я дакладна падлічу.

— Адразу відаць настаўніцу матэматыкі, — сьмяецца Павел да Мар'яны. — Спадарыня ўва ўсім любіць дакладнасьць.

Павел жартуе, але Мар'яна ведае свайго мужа й па твару ягонаму бачыць, што ён ня вельмі ўсьцешаны спатканьнем із старою калегаю.

— Я памятую, — працягвае ўдакладняць спадарыня Ігнацік, — сустрэліся мы з вамі тут, у нашай царкве, калі яна яшчэ на 14-ай вуліцы мясьцілася...

— 13 год таму, — заканчвае за яе Павел і кажа да жонкі: — Тады я яшчэ ня ведаў, дзе ты.

Мар'яна зьдзівілася. У апошнім сказе мужа пачулася ёй жаданьне апраўдацца. У чым? Зь кім ён шукаў сустрэчы ў Клііўлэндзе? Пэўна не із спадарыняй Ігнацік... З Ларысаю?

— Маладыя выходзяць! — клікнула ў бок Мар'яны Рагнеда, якая ўжо заняла месца на сходах сярод моладзі.

З царквы выйшлі й ля прытвору сталі маладыя й іхныя дружкі. Белая карункавая сукенка на Надзейцы, каронка з кароткай празрыстай фатой на галаве, букет белых ружаў у руцэ.

— Надзейка, нібы князёўна сёньня, — кажа Мар'яна.

— Маладзы таксама прыгажун... Угледзьцеся добра, — адзываецца спадарыня Ігнацік.

Павел маўчыць. І Мар'яна, глянуўшы на яго разумее, што ў гэтую хвіліну ён ня думае ні аб ёй, ні аб спадарыні Ігнацік. Твар ягоны ўсхвалёваны, сьвеціцца шчасьцем. Ён ня зводзіць вачэй з маладых... ці з Петрыка? "Угледзьцеся", — радзіла спадарыня Ігнацік. Падобны малады да Паўла? Вельмі. Тая-ж стройная постаць, густыя хвалістыя валасы колеру сьпелага жыта, вусны й нават усьмешка, спакойная, крыху паблажлівая... Паўлаў сын?..

Маладыя праходзяць блізка Мар'яны. Разам з усімі, яна вітае іх, цалуе Надзейку, паціскае Петрыкаву руку, жадае ім шчасьця. Сама яна параненая, вельмі нешчасьлівая, але гонар не дазваляе ёй паказаць Паўлу ці спадарыні Ігнацік свой боль. Яна працягвае ўсьміхацца.

Маладыя садзяцца ў аўта, упрыгожанае гірляндамі белых і чырвоных ружаў. Ім не даюць адразу выехаць із двара. Дарогу перагарадзілі іншым аўтам, патрабуюць выкупу за маладую.

— Навошта яшчэ гэты тэатр? — кажа спадарыня Ігнацік.

Няпрыхільнасьць, амаль варожасьць, узьнімаецца ў Мар'яны да старой дакучлівай кабеты. І голасам больш вострым яна адказвае:

— Традыцыя, спадарыня, яна й у чужым сьвеце трымае нас разам...

Тая ня крыўдзіцца, толькі дзівіцца:

— А дзе-ж гэта падзеўся ваш чалавек?

Мар'яна аглядаецца. Паўла побач няма. Яна ня мае змогі заставацца болей із спадарыняй Ігнацік, заставацца на людзях. Ідзе, ледзь стрымліваючы сьлёзы, далей ад усіх, уздоўж царквы, уздоўж іншага царкоўнага дому, у самы канец двара, дзе стаяць разложыстыя дубы й драўляныя лаўкі. Здалёк да Мар'яны даляцеў голас Паўла. "Мо ён кліча мяне?" — падумала яна й на момант запынілася... Не, ён рагатаў... Ён ужо быў сярод тых, хто дамагаўся ад свата выкупу. Пэўна-ж! Ён цешыцца... сын... Ягоны й Ларысін сын... А яна, Мар'яна, адна. "За якую віну я пакараная?.. Каб нас не разлучылі, гэта быў-бы наш з Паўлам сын..."

Мар'яна села на лаўку пад дубамі. За высокай зялёнай агарожай абыякава шумела вуліца вялікага гораду. Побач Мар'яны нікога ня было. Можна было плакаць і енчыць, ніхто не пачуе.

Ні зацішны кут, ні сьлёзы ня прынесьлі адразу Мар'яне палёгкі. Быў момант, калі яна была гатовая пакінуць царкоўны двор, выйсьці на рухлівую, шумную вуліцу, — туды, дзе яе ніхто ня ведае, дзе ніхто ня зьверне ўвагі на ейныя сьлёзы, дзе ніхто не зацікавіцца ейным болем... Апыніцца ізноў самой? Ад гэтае думкі роспач мацнее, сьціснула сэрца... Не!

Ціха перашэптваліся над ёю верхавіны дубоў. Праз галіны прабівалася сонца, яснымі плямамі клалася на траву. Ад царквы несьліся водгукі галасоў, сьмеху. Там — свае людзі, свая грамада. Амаль кожны зь іх быў падбіты коламі бязьлітаснай трагэдыі часу... І не заламаўся, ня згубіў годнага чалавечага месца ў жыцьці... І Мар'яна адчула, што й ейнае месца сярод сваіх, што яна застанецца з Паўлам. Толькі ня ведала, ці йсьці на вясельны банкет.

---

*Мікола Цэлеш*

# Акупанты

Мацей у гэты дзень мусіў устаць рана: трэба было ехаць да млыну за дваццаць кілёмэтраў ад дому й вярнуцца назад дацямна, бо пазьней рух забаронены вайсковымі ўладамі. Выехаў яшчэ пры зорцы-вэнэры на ўсходзе. Да млына даехаў шчасьліва: ніхто яго не затрымаў і адказваць, куды ён едзе й што вязе, нікому ня"трэ было. Але змалоўшы й едучы назад, на краю таго мястэчка, дзе быў млын, адразу-ж натрапіў на нямецкі патруль.

— Halt!

Мацей зразумеў: трэба спыніцца.

Да возу набліжаўся, ў вялікіх фільцаках, немец. Пад пахай трымаў кароценькі аўтамат.

— Was haben sei? — спытаў, паказваючы на мяхі.

Мацей і гэта зразумеў: што вязеш? Але адказаць па нямецку ня мог. Толькі паказаў на свой рот і з ухмылкай прамовіў:

— Гам!.. Гам!..

Немец нахіліўся над возам і памацаў мяхі.

— Mehl?

Мацей гэтага слова ня ведаў і не адказваў нічога. Жаўнеру гэта паказалася падазроным: ён меў загад затрымліваць усіх з вазамі, бо сталі частымі выпадкамі падладаньня мінаў. Азірнуўся, каб паклікаць каго, хто мог-бы дапамагчы ў перамовах, але на вуліцы нікога ня было.

— Zurück! — загадаў, паказваючы, што трэба ехаць назад. Тут Мацей інстынктам адчуў, што пачынаецца клопат. Стараўся пераканаць, як мог, немца, што на возе толькі мука й што ехаць яму далёка, а рух дазволены толькі дацямна; і што хата там засталася адна, жывёла недагледжана; і калі-ж ён вернецца, ў такім выпадку, дадому? Немец яго не разумеў, а ён немца. Урэшце, вырваўшы з рук Мацея лейцы, немец, досыць злосна, нешта выкрыкнуў і, падскочыўшы, усеўся на мяхох з мукой.

На заставе, куды яны прыехалі, Мацея прымусілі зьняць з возу й аднесьці ў памешканьне мяхі. Пакуль ён гэта рабіў — і ад клопату, што здарылася гэтакая прыкрасьць — ён аж упацеў. Зьдзеў кажух і, паклаўшы яго на воз, стаў каля мяхоў, каб пільнаваць муку. Белабрысы фельдфэбаль з зялезнай каскай на галаве, загадаў жаўнерам праверыць мяхі. Два ізь іх, каб ня брудзіцца мукой, пачалі багнетамі пароць у мяхі. Мацей зь вялікім абурэньнем глядзеў на гэта, але сказаць нічога ня мог.

Праз папаротыя мяхі мука пачала сыпацца на падлогу. Фельдфэбаль флегматычна зірнуў на гэта й пайшоў прэч, а за ім і тыя з багнетамі. Застаўся адзін толькі жаўнер, ужо стараваты, з пасівелымі вуснамі, што стаяў увесь час у баку й, пакурваючы файку, моўчкі пазіраў, што робіцца наўкола. Быў ён з абветраным сялянскім тварам із грубымі рукамі; на адным з пальцаў віднеўся срэбны шлюбны пярсьцёнак. Цяпер ён падыйшоў да Мацея й пачаў тлумачыць, што рэвізыя скончана й прасыпаную муку трэба сабраць у мяхі.

—Зразумеў? — спытаў, раптам, па беларуску.

Мацей аж войкнуў ад радасьці: знайшоўся чалавек, зь якім можна пагутарыць! Падзякаваў немца за параду й спытаў, дзе ён навучыўся размаўляць "па нашаму".

— Тут! адказаў немец.

— Так хутка?

— О, не! Я доўга жыў у Ашмяне й Маладзечне ў тую першую вайну...

Мацей паскардзіўся: хутка стане цёмна, а яму ехаць дваццаць кілёмэтраў, і зноў дзе-небудзь затрымаюць. У адказ на гэта стары жаўнер прасьпяваў:

*"...Ногка цемны — я баюся,*
***Прывяды** мне Маруса..."* — і голасна зарагатаў.

Мацей таксама ўсьміхнуўся, але падумаў: "Добра яму рагатаць, калі ён на мейсцы."

— А ты — ехаць, ехаць! Ня бойся! — зазначыў немец, і пачаў дапамагаць Мацею пакласьці мяхі на воз, каб паскорыць ад'ехаць.

— Нядобра вайна! — уставіў Мацей.

— Ja, schlecht!..

Мацей з сымпатыяй зірнуў на яго й узьлез на воз. "От, забралі й старога, у другі раз, пагналі на чужы край! — падумаў. — А там, можа, таксама няма каму жывёлу дагледзіць..."

— Ну, ехаць, ехаць! Баба твой чакае — хоча печ бліны...

Мацей гаротна зморшчыўся.

— Няма у мяне бабы! — адказаў прачула. — Бонбай пазабівала й дзяцей і бабу, як ішоў хронт...

Жаўнер падаў яму руку й моцна паціснуў яе.

— Ведаю, — адказаў. — Шмат такіх!

***

Клопаты з затрымкай атабралі ў Мацея шмат часу, але на гэтым прыкрасьці яшчэ ня скончыліся. Пры выезьдзе зь мястэчка яго зноў спынілі жаўнеры й, ня пытаючыся, куды ён едзе, паклалі на воз свае торбы з кацялкамі, запаснымі ботамі, газавымі маскамі й скруткамі коўдраў. Мацей жахнуўся: няўжо куды везьці!? Гэта-ж і так мала часу! Калі-ж ён будзе дома?

Жаўнеры падганялі.

— Schnell, schnell, Mensch!

На шчасьце немцы ехалі ў тым самым кірунку. "Пэўна дзе-небудзь лясныя хлопцы напракудзілі? — падумаў. — Добра яшчэ, што ў адну дарогу! Ато, як ім вытлумачыць, што далёка да дому, а рух дазволены толькі дацямна? Гора — без языка!" Жаўнеры намагаліся вытлумачыць яму, каб ехаў шпарэй. Мацей і сам быў зацікаўлены ў гэтым, але для каня цягнуць воз — пяць асобаў, ды торбы іхныя, ды сам, ды мяхі, было зацяжка.

Урэшце, ён пачуў ад жаўнераў "Фасылеўка". Ага, значыць якраз у маю Васільеўку, дадому. Ну, дык яшчэ дзякаваць Богу! Можа, як-кольвек, дабяруся..." Жаўнерык, самы малады — амаль дзіцё — атабраў у яго лейцы й пугу, усеўся побач і пачаў панукаць каня:

— І-га! І-гі! — па швабску.

Але конік не разумеў немца: як жаўнерык ні намагаўся, рух заставаўся такім-жа павольным, як і раней. Кінуў пугу й лейцы й вылаяўся па-свойму. Тады й іншыя немцы пачалі жартаваць з Мацея й зь ягонага каня, які толькі пакручваў, пасьля кожнага замаху ўдарыць яго, сьплеценым шэрымі "ваўчкамі" хвастом...

...Праехалі вёску Сьвірыдаўку — ужо недалёка ад Васільеўкі. Тут іх дагналі яшчэ хурманкі з жаўнерамі. Сярод іх быў і той стары. Убачыўшы Мацея, ён зноў засьпяваў: "Ночка цемна, я баюся" — і зарагатаў. Некаторыя з жаўнераў, дастаўшы із сваіх ранцаў еміну, пачалі закусваць. І Мацей успомніў, што ён сёньня зусім нічога ня еў — і яму дужа захацелася дастаць хоць кавалак хлеба, але торба была недзе ў сене, пад жаўнерскімі ранцамі. "Бульбачкі-б цяпер печанай з капустай! — падумаў, — сопкай гэтакай, цёпленькай, як бывала, пры нябожчыцы. Зямелька ёй тамака пухам! Бог ім некалі аддзякуе за гэтыя забойствы — і тым і другім — абое рабое!.." Потым пачало ўспамінацца жыцьцё апошніх год. "Тыя, хоць і з аднаго кодла, а зусім ня дбалі пра людзей: абяцалі рай, а далі пекла!... пазамарылі людзей гэнымі "калганамі... ды яшчэ вайну наклікалі... Вялікі саюз савецкіх народаў! У гэтых вялікіх усё на мане трымаецца!..." І Мацей упяршыню адчуў да іх сапраўдную злосьць. "Хітруны! Усякім спосабам хочуць ашукаць! Мы-ж асобнае гаспадарства, а дыхнуць вольна не даюць! Няўжо мы не маглі-б нейк пагадзіцца із сваімі суседзямі, каб ухіліцца ад войнаў?! От-жа сядзяць там сабе ціха гэныя швайцары ды свэны!? А тут заўсёды таўкуцца! Былі-б самі-сабой — усе-такі гэта дапамагло-б, а так "старэйшы брат" робе, што хоча... А цяперака вось яшчэ гэтыя!.. Каб даў перажыць, як-кольвек, гэта ліха!"

І Мацею горача захацелася сказаць: "У імя



*) Copyright by Mikola Celesz


© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

Айца й Сына, і Духа Сьвятога” і пераксьціцца, але каб не дражніць немцаў, ён толькі зьдзеў шапку й махнуў рукою перад галавой.

Праехалі міма паразьбіваных і папаленых панцыраў — на некаторых яшчэ відаць былі савецкія знакі. “От абдзіралі людзей на гэтае зялезьзе й усё пайшло намарна... Ды яшчэ няведама, чым гэта ўсё скончыцца!? Можа павымрам усе з галадухі або зь якой пошасьці...”

***

Тут ужо набліжалася гэтая самая “Фасілеўка”. Жаўнеры, раптам, не ўязджаючы ў яе, разабралі свае торбы й пакінулі хурманкі. Мацей лёгка ўздыхнуў “Ну, хвала Богу! Тое добра, што добрым канчаецца — усё-такі дабраўся да роднага кута!” Драўляныя хаты з саламянымі дахамі шнурам паўсталі перад ім уздоўж вуліцы. У некаторых маячылі яшчэ цьмяныя агеньчыкі. На шчасьце, у вёску ня трапіла ні адна бомба; саламяныя дахі ўспыхнулі-б, як порах. Пасярод вёскі маркотна шумеў пагосцкі бярэзьнік. Паўзь яго шарэла маленькая старажытная каплічка, куды прывозілі памерлых перад іхным пахаваньнем. Зірнуўшы на яе, Мацей успомніў нябожчыцу й дзетак, пакрамсаных на кавалкі бомбай; ляжалі ўсе ў агульнай труне...

Думка кальнула ў сэрца. Зьдзеў шапку, набажна пераксьціўся. “Тутака прыдзецца й мне прылегчы!..” — падумаў.

Пагнаў па вуліцы каня шпарчэй. Падмерзлая зямля бубнела пад коламі. Хаты, нібы затаіліся — а ні гуку. І раптам, калі ён быў ужо амаль каля дому, пачалася траскатня кулямёту. Інстынктыўна здрыгануўся ўсім целам. Але страляніна зараз-жа сьціхла.

Уехаў у двор. Усё выглядала, як мае быць. Адпрог каня, паставіў яго ў стайню, падкінуў канюшыны. “Як крыху астыне, не забыцца-б напаіць!” — падумаў. Выцягнуў вядро вады із студні, напаіў карову. Падкінуў пару буракоў сьвінчу ў карыта. І тады толькі скіраваўся да хаты. Замок на дзьвярох вісеў на клямцы, прабой быў вырваны. Пасьпешна ўбег у хату, але тут выглядала ўсё ў парадку. Дастаў зь печы чыгунок з капустай і пачаў з апэтытам сёрбаць, закусваючы хлебам. І ў гэты мамэнт з-за печка пачуўся дробненькі сьмяшок, нібы пабразгваньне спружыны будзіка. Крыху занепакоіўся, але хутка апанаваў сябе. Падняў лыжку ўгару, быццам перад ім сядзеў нехта, каму трэба трэснуць ёю па ілбу, і спакойна прамовіў:

— А гэта яшчэ хто там?

Сьмяшок памацнеў, ператварыўся ў нейкі суцэльны мэханічны клёкат, быццам у таго, хто на печы, саскочыла, як у будзіку, накручаная спружына й ён ужо ня ў стане цяпер спыніцца, пакуль яна цалкам не раскруціцца. Мацей зразумеў гэты сьмяшок так, як і сьлед: чалавек пабайваецца, каб яго ня ўзялі за каршэнь і задобрваецца. Не падымаючы галавы зазначыў:

— Дык гэта ты мне тут замкі паламаў?

— Пришлось — извините...

Мацей незадаволена:

— Ламаць замкі!?. І ўрывацца ў хату? Хто ты такі й куды нясуць цябе твае ногі?

Сьмяшок адразу-ж перарваўся. І той, хто сьмяяўся, відаць было, усеўся на печы.

— Ты угадал! — прамовіў. — Хожу, брожу, а куда несут меня мои ноги и сам не знаю...

І стаў апавядаць, як каля вёскі напалі на яго тры вялікія сабакі, усе рабыя. Абараняцца ня было чым і ўцякаць, таксама, некуды і ён кінуўся ў рэчку. Вада сьцюдзёная, ён зьмерз і пабег у хату, якая была бліжэй, каб пагрэцца. А тут гэты замок! Ну, і зразумела, трэба было вырваць прабойчык!? У хаце нікога ня было. Ён залез на печку й нечакана заснуў. І сьнілася яму, нібы зьявілася цудоўная красуня...

Мацей абрэзаў яго:

— Ты мне байкі не апавядай: ніякіх рабых сабак у вёсцы няма — і наагул сабак амаль няма, іх пастралялі немцы! — І потым сурова:

— Пакаж мне свае паперы! Я адказваю за цябе!..

— Паперы? Паперы? —зьбяатэжыўся той. — А на что они тебе?

— Прымаць людзей бяз жадных папераў цяпер забаронена: прыдуць немцы й цябе й мяне на шыбеніцу пацягнуць...

— А ты за немцаў?

— Я й не за тых і не за іншых!.. Я гаспадар, разумееш? Свой глузд маю! Але я мушу ведаць, хто ты гэтакі. Ты, пэўне, адтуль, з-за хронту?

Мацей ўзяў апарожненую міску й накіраваўся да парогу, дзе былі палічкі для судзьдзёў.

— Ты угадал — я оттуда, с Тамбовской... Но ты никуда не ходи! Понимаешь? Паперы? Хорошо, я тебе покажу мои па-перы... — Засунуў руку ў кішэнь шынеля, які быў пад ім.

— Всякие паперы бывают! — дадаў. — Вот, к примеру, такого сорта паперы успокоят тебя?!

Мацей узьняў галаву й убачыў скіраваны на яго наган.

Чалавек зноў закаціўся сваім хвальшывым сьмяшком.

— Дык гэта ты гэтакі абаронца!? — заўважыў спакойна Мацей. — Схавай сваю дурную цацку! — загадаў. — У сваёй хаце я заўсёды знайду спрыт скруціць табе рукі...

— А ты хочешь еще знать, кто я такой? Хо-



рошо! Я прислан хлопцами по развёрстке для партизанки: чтобы на послезавтра доставили пятьдесят кило печеного хлеба, пять кило жиров и двадцать пять кило баранины или говядины. Понял?

Мацей разгублена стаяў сярод хаты. “Няпрошаны госьць — горш за татарына!” — думаў. “Прыдуць немцы — павесяць, і вёску спаляць! Але й гэтыя пастраляюць і спаляць! Як цяпер выправадзіць яго?” Успомніў, што няпоены конь і скіраваўся да дзьвярэй.

— Гаспадар! Гаспадар! Постой, я тебе что-то скажу: ты никуда не ходи! Имей в виду: живым тебя спалим!..

— Я нікуды ня іду: конь, от, высах тамака, цэлы дзень няпоены ...

— Не помрет твой конь!

Пакуль Мацей стаяў каля дзьвярэй, бадзяка зьлез зь печы. У зубах была цыгарка. Папрасіў запалку. Мацей паднёс каганец і ў гэты мамэнт убачыў, што рукі ў бадзякі дрыжаць.

— Зімна?! — усьміхнуўся Мацей.

— Как?

— Я пытаю: зьмерз на печы?

— Промерз, когда попал в реку...

— А дзе гэта табе собіла пераз рэчку лазіць?

— Вот, собило, собило... — ухіліўся той ад адказу. І потым: — Знаешь что, господар, если ты попробуешь меня выдать, будет тебе плохо...

— Ды я нікуды, толькі-б каня, кажу, напаіць...

Мацей сеў на лаўку й пачаў апавядаць, чаго нацярпеўся за дзень. Думаў, можа чалавек расчуліцца, супакоіцца й тады можна будзе выскачыць на хвіліну да канюшні.

— А ці ты што еў? — запытаў потым.

— Рано — ел, а потом не приходилось. Но это ничего, мы в лесу привыкли жить по волчьи...

— А праўда, жывеце, як ваўкі...

Было, ма’быць, ужо каля дванаццатай ночы, калі бадзяка сядзеў над патэльняй зь яечняй за сталом.

— А где твоя баба? — запытаў, раптам.

— Няма ў мяне бабы — нікога няма...

— Как, так?

— А ўжо два гады, як усіх лішыўся — бонба ўдарыла, як хронт ішоў... А я, на няшчасьце, дома ня быў і ўцалеў...

Чалавек памаўчаў, даядаючы яечню.

— Хорошо ты меня угостил, вот кабы ишо бабу доставил...

— Вось пра што маскаль думае!? — узбунтаваўся Мацей. Скуру сваю трэба ратаваць, а не пра бабу думаць у гэты час!..

І ў той-жа мамэнт з вуліцы пачуўся нейкі шум, крык і крокі людзей. Мацей, уперад за ўсё, прыцісНуў пальцам агеньчык каганца. Потым кінуўся да вакна. Заглянуў у яго й хутка адскочыў.

— Немцы ў касках! — прашаптаў трывожна.

Штурхануў бадзяку ад стала й скамандаваў:

— Уцякай! Зараз-жа ўцякай!

Бадзяка схапіў з лаўкі шынель і выскачыў за дзьверы. Пачулася некалькі стрэлаў. Мацей пераксьціўся. За дзьвярыма ўжо тупалі сваімі цяжкімі ботамі немцы. Мацей пасьпяшыў адчыніць і снапкі агеньчыкаў з ручных ліхтарыкаў асьвяцілі хату. Мацей стаяў, як няжывы...

Поверх зеленаватых нямецкіх шынеляў віселі жаўтаватыя шнуры й бляхі палявых жандараў. Загадалі запаліць сьвятло. Адзін зь іх, старэйшы па чыну, пачаў аглядаць хату. Убачыўшы на стале патэльню, кавалак хлеба і нож з відэльцам, выкрыкнуў:

— Partizant!?

Мацей пакруціў галавой.

Пачалася рэвізыя. Заглянулі пад лаўкі, пад печ, але зараз-жа покатам зьляцеў адтуль.

— Mine! — выкрыкнуў.

Мацея абкружылі, наставіўшы на яго аўтаматы. “Удружыў няпрошаны госьць! Цяпер толькі адно:схапіць гэтую міну й сабе пад ногі.” Але было позна ўжо: зь яе вынялі запальнік. Старэйшы па чыну пачаў нешта пісаць. Потым яны аб нечым спрачаліся, пазіраючы на Мацея. Пасьля ўсе ў пяцёх падпісаліся пад паперай. Адзін зь іх зьняў з крука ў сьцяне лейцы — тыя самыя, зь якімі Мацей езьдзіў сёньня ў млын. Зрабіўшы на адным з канцоў засмаргу, выйшаў з хаты. Цяпер Мацея мог выратаваць толькі цуд, але гэтакіх цудаў у нашу эпоху не здараецца...

...Вывелі Мацея з хаты. Першы немец паставіў у варотах калодку, на якой Мацей кляпаў косы й скіпаў дровы; стаў на яе й прывязаў лейцы да перакладзіны паміж шуламі. Мацей, як адубянелы, стаяў і глядзеў на ўсё гэта. У ягоных вачох была роспачная бездапаможнасьць. Ён узьняў іх у неба й тройчы пераксьціўся. Але неба маўчала...

...Яго штурхнулі й загадалі стаць на калодку. І як толькі ён гэта зрабіў, накінулі засмаргу яму на шыю й выбілі калодку з пад ягоных ног. І ў галаве Мацея зазьвінелі званы й яму здалося, што ён некуды ляціць, ляціць...

***

...На сьвеце шмат няпраўды, зла, здрады... Людзі добрыя, шчырыя, сумленныя гінуць: ад куль, на шыбеніцах, у вязьніцах... Людзі

зласьлівыя, хітрыя, здрадлівыя дастаюць ардэны й мэдалі, узвышаюцца й множаць зло. І няма згоды й ладу ў доме, у сям'і, паміж сябрамі й народамі... І імчыцца пераз трупы на белым кані Чорная Сьмерць з аголенай шабляй....

1953-1972 Нью Ёрк

---

*Я. ЮХНАВЕЦ*

# ДЗЁНЬНІК З ІХНІХ ДЗЁНЬНІКАЎ

(паэтычныя запісы)

Частка 2

Памяці *Я. Купалы.*

Я цаліў сябе.
І кожны можа ўцаліцца сам
вобразам прыгожым, што гэтак б'е
найлепшым заяршоным словам
У кожнай думцы й ў кожным стогне.

І я ня ціх.
Прынамсі й зусім "убогія" напевы
не заглухалі між чужацкіх клічаў.
І ня ціхлі тыя, якім было і трэба
ціхнуць ля парогу,
просячы штодзённай скібы хлеба.
І лоб пад цяжкім грукаценьнем дум,
грукаценьнем ціхім і нябачным
бабчыўся маршчынамі.
Тады глум, і плойма вадаў мудрых
цякла. Цячэ ізноў у словах
да людзей-праяваў Дзён вялікіх...

2

Яно вось тых, хто думае стаяць,
стаяць нязгаслым на хіткім пароме,
між берагоў, дзе непакорныя
разыходзяцца наплывы й адплывы,
я думаю: іх будзе кожны век
трымаць, нібы насеньне...
А раб, што моліцца, як з ім?
Ён кожны дзень стамляецца
усё аднэй мальбою.
Няўжо із слоў яго,
зямлі сьвяцейшы гімн,
ня вырасьце замёт,
што Праўдай называем?..

3

Назіркам заўсёды прыходзіць перамога!
Некалі сыном хаваць трупы бацькоў,
а ім сыновых. Цяжка!
І вобразы ўсьцяжныя жывых магілаў
лепяць, як з лепшай гліны,
сьвятыню,
аб якой лялеялі й Яго малілі.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Бо-ж на ўсё — звычайныя канцы.
Дзіцё нядаўнае стане рупным бацькам,
і здарыцца із Каінам,
што сам ён і зрабіў,
і раб мінулы забудзецца кім быў,
грозячы пясьцяй свайму пакорніку.

4

Расплываюцца званіцы зорна-формныя.
Дзяўчына песьні ўторыць,
што анёл сьпяваў
у вушы ейныя ўсёчуючыя.
Ён вусны ейныя расчыніў цяпер
хваліць зямлю,
што як рыцар непаборны.

5

Я ізноў... Ды гэта немагчыма
стаяць прад самымі варотамі Тваімі,
і разважаць: але-ж чаму
маіх намераў спынены разгон?
Яно было-б... Ніхто з нас ня глуміўся
у той дзень, калі я нарадзіўся,
Ты прайшоўся па маёй зямлі
кажучы ўсім: — Сюды вялі
сьцезі іхныя...
Але цяпер я прад Табой
я на Твае ступіў загоны.
На іх сьцень мая — спакой,
ці човен у затоне?

Усё добра калі-б там,
там на зямлі, яна-ж пад намі,
я рад ня быў маім гаям,
і не спрачаўся з салаўямі,
я-б хадзіў бяз смутку тут
Тваімі, Валадар, сьлядамі.

Але раз сталася, аб чым
я лятуцеў, што гэта прыдзе,
дык хачу: няхай Твой тын
паставяць там, унізе.

А воблік іх крывавай кроплі,
і пацалунак — ляпа льва...



Ды я ня вой! Нябёсаў поплаў —
жыцьця згарэўшага імгла.

6

І незнарок паэты лятуценьні
заўжды расплёскаюць, як плынь,
калі шораг сьвяцейшага Ушэсьця
ужо над ім.
І слоў нятомнасьць із яго сьвятчэньня
ажыўляць змахам стромкім крылаў,
і адчуюць, што над імі роіць
мудрасьць чыстая й адкрытая
з яго радкоў панурых...
І радасьць цешыцца нічым неабарваная...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Але паміж
крывёй аблітых слоў
радкі уветлыя хвалююць:
— Сыны! Звычайны з дрэва крыж
скажа Вам усё,
што надысь
незраблёна!

1951-58 г.

*Міхась Кавыль*

## ПЕРШЫ СЬНЕГ

Хмары, авечкі котныя,
У небе вымя разьвеселі.
І сьняжынкі самотныя
Закружыліся весела.

Вецер, гуляка раздураны,
Між сьняжынак вяселіцца:
То разгоніцца бураю,
То закружыць мяцеліцай.

Грае, сьвішча пад стрэхамі,
Каб дзятва ня журылася.
Дзесь з казою, арэхамі
Каляда прытаілася.

23 сьнежаня 1973 г.

## СЬЛЁЗЫ ДРЭЎ

Пісьменьніку Юрку Віцьбічу.

Каля пошты ў машыне сядзелі мы. Было раньне.
"Сьлёзы дрэў;" — Вы знайшлі параўнаньне
Таму прыгожаму шораню,
Срабрыстаму, трошкі шэраму.

18 кастрычніка 1973 г.

***

*Міхась Кавыль*

## БЕЛАРУСЬ

*Ад аўтара.* Гэты мой верш (у іншай рэдакцыі) паклалі на музыку два кампазытары: Дзімітры Верасаў і Юльян Рымко. Але ўвесь верш у папярэдняй рэдакцыі (акрамя першага куплету) на песьню не надаецца, а таму я пераапрацаваў гэты верш і прашу карыстацца ніжэй пададзеным тэкстам.

Беларусь ты мая, Беларусь,
Няугасная зорка Вэнэра.
Я агнём тваім вечным гару,
У тваё уваскрошаньне веру.

За трыдзевяць народных зямель
Чую пушчаў, садоў тваіх гоман.
Разуквечаны ў чырвань і бель.
Бачу, з бурай спрачаецца Нёман.

Крыж Прадславы і Вітаўта меч
У грудзёх тваіх зьзяюць і звоняць.
У чужацкім крывавым ярме
Набірае разгону "Пагоня".

Беларусь ты мая, Беларусь,
Няугасная зорка Вэнэра.
Я агнём тваім вечным гару,
У тваё уваскрошаньне веру.

## ХАНДРА

Хандра — вандра,
А крыўда — выдра.
Мудрыў мудрак —
Бадрыцца збрыдла...

Харобры драб
Грудастай гідры.
Хандру з раба
Вандра ня выдра.

23 сакавіка 1973 г.

---

(Працяг з бач. 8-ай).

-вязень, былы Магілёўскі й Віцебскі архіяпіскап, мажлівы кандыдат на патрыярха беларуска-ўкраінскай праваслаўнай царквы, павольна пасоўваўся ў кірунку манастырскай царквы на кожную Божую Службу.

Аднаго дня ў 1823 г. вяроўка была зьнятая. У той дзень (устанавіць яго нам не ўдалося) Варлаама паклікаў да Сябе Бог.

*К. Юхневіг*

# Ідучы да ракі

Яны ня часта думалі пра наступны дзень працы, але вельмі турбаваліся пра наўмеры і дзеі нядзельным днём. Ды асаблівага ніколі не здаралася тымі днямі адпачынку, бадай сам дзень адпачынку адпачываў.

Пакуль ішлі да ракі, яны (прад гэтым днём таксама) гутарылі пра рыбалоўства, пра паляваньне. Сьцежка да ракі прасьціла па ўзьбярэжжу рэчкі-прытокі з пясчаным дном, хоць наўзбочу прасьцінаўся тарфянік. Асака, у аточаных хмызьнякох лазы, гострая і высокая, астуджаная кропелькамі расы, часам абвіслая на суччу кустоў, мігцела бляскатам зары ці праменьняў сонца. Пад гэткімі кустамі было шмат ціхаты. У невялікіх лукатках-вірох рэчкі плавалі статкам плоткі. Адзін толькі позірк на іхную ўпорастую мільгатню хвастоў, на ўпорастую стойнасьць незварухнёных галовак супраць шпаркага цёку вады, у кажнага рыбальшчыка будзіў рыбацкую парыўнасьць. У тых, што жылі бліжэй да ракі была сваяахотлівая насалода спадзеву і ўмеласьці. З прыезлых рыбальшчыкаў яны насьміхаліся — ганілі блізу круглы год. Здавалася, што гэтыя далёкія ня ўмелі знаходзіць месцаў злавіць рыбіну ў сваіх родных мясьцінах. А яны былі самыя цярплівыя людзі калі толькі не на працы дык за вудаўём з даўгой валасьнёй начэпленай прыманкай. Яны-ж па свойму называлі закуткі ўзьбярэжжаў ракі. Ім прыходзілася ісьці да аблюбаваных прыстанішчаў гадзіну або больш. Дрыжэлі ад сьцюжы і неспадзеўных летніх дажджоў-навальніцаў; знаходзілі мясьціны дзе лавілася, або пацікалася рыба; цярпліва зносілі павучаньні старажылаў з вёсак на водальных узгорках ад ракі, і хлусілі ім, калі тыя пачыналі пасьля парадаў распытвацца пра іншыя дні жыцьця сям'і ці працы. Радзьва рыбальшчыкі з мястэчка ці гораду заставаліся начаваць каля ракі. Расстаўлялі палатняныя сьхінішчы, а іншыя, насекшы вецьця лазоўніку і маладога алешніку, абкладалі старыя будкі й запальвалі вогнішчы. Здаралася, ім шчасьціла лоўляй, але заўсёды было і наадварот: рыба бадай лавіла іх. Яны прынукана аставаліся ў блізіне прыроды пад чыстым паветрам, у воддалі абавязкаў прад грамадзтвам і дзяржавай. Гэткія рыбальшчыкі ўсіх узростаў чуліся маладымі. Ім ня было патрэбы прыдумваць жыцьцё — яны былі валадарамі часьлінкаў жыцьця. Яны ўспаміналі на ўзьбярэжжах ракі сваіх родных дзяцей, сваякоў, каханых, але ніколі цяжкасьці працы. Шмат успамінаў аставалася толькі зь імі й дзеля іх. Адвечна завіхное ёсьць жыцьцё! І ў захопе маладосьцяй жыцьця, у заздрасьці да яго, мы старымся, парахнеем.

— Я люблю ноч, — пачаў гутарку сябра Кастуся: — я атарапеў ад сталічнага шуму. А калі быў у пушчы разам з табой, мне чамусьці жадалася хутчэй канца вайны, і апынуцца ў гэтым шуме, у мітусьні, і навет у неразважным захаваньні...

— ...а я казаў: асьцепяніся, падумай, бо, здаецца, ты яшчэ ня меў прызвычаю ахінуцца жыцьцём сталіцы, а я прад вайной жыў там. Дык цяпер не барджджу туды.

— Мо ад таго, што мне прыходзілася ўвесь час быць на першых сутычках з Немцамі, поўных стральбы й крыкаў параненых, ніколі нявыспаным... Памятаеш як Вацюха, камандзер лыжнае брыгады, камандаваў праз гапцоў: — Забраць мястэчка! — Сьмерць здраднікам!.. — Вось тады зажадалася мне сталічнага шуму, адпачыць у гэтым шуме, быць у цяпле людзкой кватэры... Я ніколі, пакуль жыву, не забудуся пра вайну...

— ...няўжо вайна з Немцамі, бы пайсткі твайго будучага жыцьця?

— Ня ведаю, як сказаць. Калі я абуджваюся ад сну, мне адразу чамусьці б'е да слыху і да сэрца вайсковая шумятня, але яна палохае цяпер вобразам працы. Я — працавіты чалавек, і вось праца палохае мяне — крадзецца да адчуваньняў палоскамі жорсткасьці на вайне...

— ...я разумею цябе. Ты быццам зноў мабілізаваны ваяваць.

— Не! Ты не разумеш мяне... Дазволь успомніць табе, калі змагаліся за тое мястэчка, я, уварваўшыся туды першым, напаткаў хлапчука год мо каля трох. Ён, бадай, грэўся каля пажарышча. Я падхапіў яго на ўлоньне. Мне тады было толькі дваццаць год. Я пачаў плакаць, гладзіць ягонае паўголае цела; ён прытуліўся да мяне, маленькай ладоняй плешча каля вуха, сьмяецца, а я плачу, ўсім маім целам.

— Чаго, дзядзя плачаш? — пытаецца ён, і я тады прыпаў да зямлі й цалаваў яе, хінуў дзіцё рабіць гэта самае... Дурань я! Няпраўда?

— ..таму што ты нэрвовы быў. Усялякая сучаснасьць патрабуе нэрваў. Я ведаю што такое нэрвы. І нэрвы былі патрэбныя ў мінуласьці й неабходныя ў сучаснасьці.



— ...о-о-о! Ты хочаш сказаць, што яўнасьць заўсёды ў дастатку ад ранейшага, так ці не?

— Не-е! Я кажу, што ты нэрвовы і нэрвова разумееш сучаснасьць.

—...не! Гэта ў цябе ўсё нэрвова ад твайго ранейшага. Ад 1941 году да 1944 ты змагаўся, кідаў сябе ў небясьпеку, таму табе ўсялякая несправядлівасьць у пасьля вайсковы час здаецца найбольшай несправядлівасьцяй. Ты хочаш усё рабіць на пралом галавы... а цяпер няма вайны. Ты мусіш паважаць пашану правадыром. Краіна ў стане міру цяпер.

— Дазволь! Бадай не па сэнсу адказваю. Пра мінулых правадыроў ня будзем гаварыць, але сучасныя усялякімі правакацыямі, дзяржаўнымі мудрасьцямі, прывучаюць народ... ды вось народ гаворыць пра гэта, як пра здарэньне, або як анэкдот, бяз дробкі патрэбы адчуваньня захапленьня імі, бо патрыятызм прыходзіць сам калі Айчына ў небясьпецы. Народ верыць тады сваім гэнэралам, а дзяржаўныя правадыры надалей — адно памяць, бы пра нейкіх артыстаў... Наагул, увесь сьвет у раздвоі — шмат людзей захоўваюцца, як піраты...

— ...вам трэба зноў прачытаць творы Эрэнбурга. Ён навучыць разумець нашую сучаснасьць

— Гэта — быццам кінуць электрычную лямпку, каб яна дзесьці сьвяцілася бяз доступу электратоку... Я — журналісты, і вам сорам казаць, каб я ня чытаў Ільлю Эрэнбурга. Ён — чалавек-пісьменьнік, што ня мае прытомнасьці сказаць: — Я гавару разумна, можа праўду, але верыць мне ня трэба, бо я хлушу...

— ...вы ўсё адмаўляеце.

— Адмаўленьне — найбольшая справеднасьць. Адмаўляць, значыць: я хачу ведаць, або пераажыць усё, чым жыву, і яно ёсьць ня гэтак, як патрэбна... — Ня кожная існасьць можа аставацца ў часе асновай сваёй існасьці. Вы даруйце мне, што я пачынаю гаварыць ня гэтакай імітацыяй, як вам падабаецца. Я жадаю крыху сьцягнуць нашую папярэднюю гутарку ў магчымую неабходнасьць: — Што па вашаму ёсьць ненармальным на гтым сьвеце, а што ёсьць нармальным?

— Я ўторавую вядомае: я — журналіст, таму ненармальная зьява для мяне, калі я твару для будучыні, бо найлепш тварыць для цяперішчыны, цяперішчына ўсё'дна астаецца мінуўшчынай, а з мінуўшчыны прыходзіць будучыня...

— ...тады вельмі сурвязна прачытайце ўсяго Максіма Горкага. У пісьмах ён успамінае Янку Купалу.

— Янку Купалу ўспамінае, бы хлапца-зладзея ў Расеі, і павучае яго, як быць накладачом дзеля нейчай свабоды, а не дзеля свае нацыі...

— ...Янка Купала быў тварэнец міру.

— Купала — змагар за свабоду і жыцьцё роднае Айчыны, за лёс свае нацыі... А мір? Мір, мой брахначка, ёсьць уцеха - загадка валадарцаў над пераможнымі. Па маему, найвыдатнейшыя тварэнцы міру на зямлі — гэта мы. Называюць нас у пісаньнях працоўнымі... Мы нагароду міру не выдаём, і не атрымоўваем, бо нашы цяглiцы ў міру ад цяжкае працы. Мы — самыя багатыя ад беднасьці. Што маем, можам ахаваць мірам-потам дружнае працы...

— ...валей, ня будзем гаварыць пра "запацелае". Гэтае слова заўсёды любіў казаць Трыха. Памятаеш яго? Загінуў бядача, і то калі, пасьля вайны, п'яным пад дарожны трамбавік зваліўся — спрасавала ўсяго.

— Слаўны чалавек быў, але я ня любіў яго.

— Ня любіў і я, але ўсё хай будзе зь ім.

— Я пагарджаў яго за хлусьню.

— Пра гэта ня ведаю.

— Мір ягонаму целу! А Немцаў ён перабіў нямала — па пальцах ня зьлічыш.

***

За прагалінай хмызьняку знаходзіўся рум. Пад час зімы сяляне навазілі туды праслы хвояў, елак і іншае дравяніны. Там, дзе ляжалі абскробленыя хвоі й елкі, вадрыла пахам жывіцы. У саматканай кашулі, каля сьцежкі, на самай вышэйшай вярсьце з бярозавых чуркоў, сядзеў вартавы.

— Добрай раніцы, Хвядось! — прывітаўся Кастусёў сябра. — Вартуеш?

Вартавы не прамовіў слова ў адказ, але кіўнуў прыветна галавой. Пачаў глядзець не на рыбальшчыкаў, а на шырыню руму. Кастусь спакмеціў у вартавога прыкорчаную пясьць, і на ёй не ставала трох пальцаў. Гэтай скалечанай рукой ён падгроб паляўнічую стрэльбу-аднабойку, памалу ўзьняўся, азірнуўся на рыбальшчыкаў позіркам, быццам гэтым, ён хацеў вырваць з свае душы нешта балючае, пакутнае разам зь ім на ўсё жыцьцё, і кінуць ім усьлед аб'явістым, як рэч. Пайшоў па бярозавай вярсьце ў бок шыркоў руму. Ён быў нізкарослы, з капой сівых валасоў. Прызвычайна ступаў з аднаго кругляка на другі. Сонца ўзьнялося нявысока. У адсьвеце праменьняў ягоная палатняная кашуля бялелася найчысьцейшай бялізнай бярозавых круглякоў і абскобленых вершакоў хвояў і елак.

— Сяргей, ён ходзіць па вёрстах дравяніны, бы па свайму двару. Люблю гэтакіх людзей!

Сяргей усьміхнуўся, блізу вокметна, упільнавана — толькі дзеля сяброўства ён можа зносіць гэтакую думку пра вартавога руму. Суха

кашлянуў. Азірнуўся на вартавога. Загаварыў голасам клапатлівым.

— Ён жыве ў зямлянках ужо блізу дваццаць год. Адну збудаваў там, — Сяргей паказаў на ўзьбярэжныя вярхоў'і каля ракі, зарослыя пушчай. — Натварыў дзяцей там, а другую — дзеля сябе выкапаў тут... Барацьба за жыцьцё, сапраўдная барацьба! У гэтай, што на руме, жыве сам, і зарабляе колькі дзесяткаў рублёў на пражытак сям'і. А не стае грошы, ведаеш як жыве? Пушча і рака накормяць і апрануць. У гэтых мясьцінах усё памагае чалавеку.

— У зямлянках вохка — я ня люблю ўспамінаць пра іх.

— Вохка? — перапытаўся Сяргей, і засьмяяўся ўсімі глыбкамі грудзей. — А нам што? Хай жыве!.. А між іншым, ягоная сям'я — мае старыя знаёмыя.

— Якая ўрэзьлівасьць у нашай мове: старыя знаё-мы-я!

— Бо знаёмыя! Навошта пераскакваць тое, што не пераскочыш? Непаважаньне ёсьць ненавісьць. Здаецца ён, — Сяргей паказаў поўным узмахам рукі на вартавога руму, — ня злуецца на мяне. А злавацца ёсьць за што. Я... можа ты чуў тады ад партызанаў, растрэліў ягоную дачку? Ні сам, папраўдзе, дык па загаду...

— Напэўна яна была маладая, бо ён не выглядае старым?

— Ёй было тады семнаццаць гадоў, узрост, калі людзі тое-сёе могуць думаць і самастойна рабіць. Ня бойся — умела-ж брацьмяне пад руку і жаночым позіркам, бадай стрыгла, азірала мяне... але яна адмовілася падкласьці міну пад мост.

— А чаму сам не падклаў?

— Для мяне было небясьпечна. Я ўжо быў змагар, а яна нічога, звычайная сялянка, з мізэрнымі заслугамі — занесла некалькі разоў нашу прапаганду Немцам.

— Дык вось яна сялянка і ведала як класьці ягады ў кашолку і прапаганду, але ня міну.

— Магчыма... Не! Валей ня будзем успамінаць пра вайну — там былі загады.

— Дзякую! Давай — ня будзем... Але ўспаміны адвечныя загады супроць несправядлівасьці...

Іхныя знаёмыя ішлі далёка наўперадзе. Яны ўжо дайшлі да ракі. У воддальку, над прасьцягом рачных старыцаў круціліся намальным лётам каршакі-рыбальшчыкі. Іхны колер бязузмашных крылаў быў чарнейшы за ўсё ў краявідзе, асьвечаны бражовым сьвятлом летняе раніцы. Знаёмыя гурміліся каля рэчкі, па ўзьбярэжжу, што ўвесь час ішлі, а якая спаткаўшыся, шпарка, зьлівалася з плыняй ракі. Там, у зьліве, плавала шмат дробнай рыбы. Знаёмыя зацягвалі намёт налавіць жыўцоў.

— Ты гэтым летам рэдка прыязджаеш да мяне.

—А як? Часта дажджы былі, — адказаў Кастусь, і азірнуўся на рум. — А ты калі прыедзеш да мяне?

— Буду прыязджаць... А ты што — усё вучышся завочна?

— І не барджу канчаць. Маю прычыну атрымаць лішнія дні адпачынку... а потым сам ведаеш: хачу сустракаць яе. Кахаю! Калі ад'язджала на эстрадныя канцэрты, хвалілася шчыра: — Я магу кахаць толькі мужчын з тваім характарам. — Сьмяялася, хадзіла перад мной у купальным касьцюме... Кожную шмату-адзежыну атрэсвала бадай ад грэху й пылу, дый памалу складвала падарожныя валізы. Не бяз посьпеху выступае яна на эстрадзе: сьпявае, танцуе.

— А я раджу табе: не жаніся зь ёй.

— Пагутарым потым пра яе... А цяпер я перайду рэчку і пайду да свайго месца.

— Зноў без мяне?

— Люблю рыбу лавіць адзіночна, — адказаў Кастусь, і закасаў хутка нагавіцы, пайшоў да рэчкі. — Застануся начаваць на лузе. Пагаворым пра яе перад ад'ездам.

Ягоны намер быў неспадзеўны для Сяргея.

— Добрага лова!

— Добрага і табе, — адказаў Кастусь, і пайшоў лавіць рыбу да раней вядомага месца на рацэ. Яму сталася вясёла ад чыстага паветра і ад гутаркі сябры. Гэта была непадробленая праўда іх абаіх. Адчыненая глыбіня людзкое душы, якая яшчэ не апастылела ім. Зь імі аставалася суравасьць — неахайныя адведкі саміх сябе — успамінамі. І гэта ня была споведзь, каб ускроснуць ці збавіцца ад неспадзеўнага ў жыцьці. Імі адчувалася і разумелася, што рыштаваньні з палосак нэрваў маглі ня вытрымаць, калі хто наступіць на іх, як на чарвяка, і хто-небудзь не палянуецца апусьціцца, нат у продань, каб раструшыць цябе.

А калі закінуў вуду ў спакойны, чорны, вір, Кастусь пачаў думаць зноў пра жанчыну, што, як трысьцё на ўзьбярэжжы каля яго, шарахнела шоўкам сукенкі, уваходзячы да ягонага пакою на Нямізе. Яна адразу сьсідвала чаравікі каля ўваходу; і гутарка ейная была поўная жаночых спадзеваў пешчаў ды жаданьняў. Усё іншае, што гаварылася перад гэтым, ідучы да ракі, зьнікла з думак. Гэта была толькі гутарка, бы знаходжаньне добрага часу для адпачынку.



### ЗЕМЛЯКУ

**Ад Рэдакцыі:** З вялікай прыемнасьцю друкуем верш, атрыманы намі з-за зялезнай заслоны, адрасаваны да землякоў, што жывуць у розных краінах Вольнага Сьвету. Гэты верш вельмі моцна прамаўляе аб нацыянальна-вызвольных настроях беларусоў, якія жывуць цяпер за зялезнай заслонай.

Мы не падаём ні імя ці прозьвішча аўтара, ні ягонага адрасу, каб не зашкодзіць яму на месцы ягонае працы, бо ён абяцае дасылаць нам больш сваіх твораў.

Не адзін ты далёка ад родных палёў
І сьцяжынак-дарог сэрцу мілых.
Табе сьніцца начамі бель нашых садоў,
Вербалозаў над рэчкай пахілых.

А як думкай сягнеш да крыштальных азёр,
То пачуеш шэпт хваляў таёмны:
Зашуміць, загудзе песьняй-енкам сыр-бор,
Сэрца сум агарне невымоўны.

І хоць цяжка жылося ў краіне сваей —
Для нас ворагі сэрца ня мелі —
Усё-ж упарта мы йшлі да тых слаўных ідэй,
Хоць ў астрогах, на ссылках гібелі.

Пуцяводнаю зоркай была Беларусь,
Яна сіл да змаганьня давала.
Абскубала яе прагавітая Русь,
Сыноў лепшых у сьвет разагнала.

Хай у сэрцах ня гаснуць надзеі агні:
Адпльіве цёмнай хмарай прымус.
Для патомных яшчэ прыдуць лепшыя дні
І на сьцягах напішуць: "Жыве Беларусь"!

9 верасьня 1973 г.

### ВІНШУЕМ!

*Сардэчна віншуем ведамую беларускую паэтэсу, грамадзкую працаўніцу, гарачую беларускую патрыётку —*

***НАТАЛЬЛЮ АРСЕНЬНЕВУ,***

*якой сёньня споўнілася 70 гадоў ад дня нараджаньня, і ад шчырага сэрца жадаем ёй яшчэ многіх гадоў жыцьця, усякае памыснасьці і далейшае плённае працы на ніве беларускай літаратуры.*

*Рэдакцыя і Выдавецтва*
*гасапісу "Беларуская Думка".*

*20 верасьня 1973 г.*

### ВІНШУЕМ!

*Ад шчырага сэрца віншуем Рэдкалегію й супрацоўнікаў газэты "Беларус" з выхадам у сьвет яе 200-га нумару.*

*З прыемнасьцю адзначаем, што ў апошні час газэта імкнецца, каб з вузка-партыйнай ці групавой, якой яна была ў пачатку, ператварыцца ў сапраўды дэмакратычную "газэту беларусаў у вольным сьвеце" і жадаем ёй далейшых посьпехаў у гэтым кірунку.*

*Рэдкалегія і Выдавецтва*
*гасапісу "Беларуская Думка".*

*Сьнежань 1973 г.*

# Пра хор „Каліна“

Ня маю ніякага жаданьня ўступаць у палеміку з паважаным пэнсіянэрам — Народным Артыстам Беларусі сп. Вяч. Селях Качанскім — па сутнасьці ягонага артыкулла "Беларуская народная песьня. Хто і як яе на чужыне рэпрэзэнтуе. На маю думку, добры адказ на гэты артыкул дадзены ў артыкуле сп. Ю. М. "Няхай жыве 'Каліна'" і ў зацемцы пад ім "Ад Рэдакцыі" ("Беларус" №200 за сьнежань 1973 г.).

Мне хочацца толькі сказаць некалькі слоў адносна "прароцтва" сп. Вяч. Селях-Качанскага ў вышэй успомненым ягоным артыкуле: "Ды рукаплясканьне за некаторы час зьявіцца ў часапісе 'Беларуская Думка', вельмі хвалебнае пра пяяньне 'Каліны' ды пра ейную праграму — рэцэнзія з гэткімі навет выказваньнямі 'як нешта быццам 'клясычнае'".

Пав. сп. Селях-Качанскі! На вялікі жаль, у складзе рэдкалегіі "Б. Д." няма ні кампазітараў, ні артыстаў, ні знаўцаў музыкі. Таму часапіс ацэньвае кожны выступ артыстаў, хору ці музыкаў паводле таго, як гэты выступ успрыймаецца і ацэньваецца публікай. Сьмела магу сказаць, што, калі ў "Б. Д." зьяўляецца нешта "хвалебнае" пра той ці іншы выступ, — гэта адпавядае ўражаньню, якое ён зрабіў на публіку. Праўда, сярод публікі могуць быць асобы, густу якіх дадзеная імпрэза не імпануе, Але, як кажа народная мудрасьць, "Яшчэ той не радзіўся, хто-б усім прыгадзіўся".

Выходзячы з гэтага, "Бел. Думка" *хваліла і будзе хваліць* усё, што дае задавальненьне *большасьці* беларускай эміграцыі, што служыць папулярызацыі беларускай ідэі ў воль-

ным сьвеце і паказвае творчую сілу духа нашага народу.

І яшчэ: Наша ацэнка хору "Каліна" супадае з ацэнкаю яго Старшынёю Кангрэсавага Камітэту інж. І. Касяка, выказанаю ў "Адкрытым лісьце да Беларускага Жаночага Хору "Каліна" і да ягонага кіраўніка, камп. Ксавэрыя Барысаўца, у Саўт Рывэры, Нью Джэрзі", які зьмяшчаецца ніжэй.

*А. Даніловіг*



## АДКРЫТЫ ЛІСТ

да Беларускага Жаночага Хору "Каліна" і да ягонага арганізатара і кіраўніка камп. Ксавэрыя Барысаўца у Саўт Рывэры, Нью Джэрсі.

*Глыбокапаважаныя Грамадзяне:*

*Дзесяць гадоў таму назад Вамі быў арганізаваны Беларускі Жаногы Хор "Каліна", з мэтай, у першую гаргу, прыняць удзел у "Беларускім Дню", які прадбагыўся ў мастацкай праграме нацыянальнасьцяў ЗШПАмэрыкі, рыхтаванай для Міжнароднай Выстаўкі на 1964 год у горадзе Нью-Ёрку. Здаюгы сабе справу з нацыянальна-беларускай патрэбы, Вы прынялі на сябе цяжкі абавязак. Ня гледзягы на кароткі гас, які заставаўся для падрыхтоўкі, Вы прысьвяцілі шмат ахвярнай працы і стараньняў для падрыхтоўкі, Вы прысьвяцілі шмат ахвярнай працы і стараньняў для забесьпягэньня найлепшых вынікаў. Пры ўдзеле Вашага хору, мяшанага беларускага хору пад кіраўніцтвам камп. Д. Верасава, салёвых і дуэтных сьпеваў пад кіраўніцтвам праф. Э. Зубковіг ды танцаў пад кіраўніцтвам сп. А. Орса-Романо і сп. В. Дунца, беларусы розных грамадзкіх напрамкаў разам дастойна рэпрэзэнтавалі сваю нацыянальную культуру на міжнароднай арэне выстаўкі ў 1964 годзе.*

*Ваш гардэрб беларускіх народных вопратак для некаторых выступленьняў, узбагаганы для іншых выступленьняў сукнямі, узоры якіх узятыя з княжых гасоў беларускай гісторыі. Гэтыя манумэнтальныя строі, творга прастылізаваныя з дэкарацыямі беларускіх народных*



*арнамэнтаў, даюць у суме імпазантнае ўражаньне. Само сабой просіцца адцеміць, што ўкраінская грамадзкасьць, адзнагаюгы старанна рыхтаваным канцэртам 100-гадовы юбілей свайго ведамага кампазытара Лысенко ў Карнэгі Голл у Нью-Ёрку некалькі гадоў таму назад, падрыхтавала адмысловы мяшаны хор у складзе больш за 200 асоб. Я меў прыемнасьць быць на гэтым канцэрце. Сьпявагкі гэтага хору былі апранутыя ў сукні падобнага Вашаму крою — з княжых гасоў, з дыскрэтнай арнамэнтацыяй украінскага народнага характару. Дамэтнае карыстаньне са сваіх нацыянальных мастацкіх скарбаў сівое мінуўшгыны зьяўляецца нармальным паступаваньнем усіх культурных народаў.*

*Ваш хор "Каліна" ня быў і ня ёсьць спэцыфігна этнаграфігным народным хорам. Яго дыяпазон быў шырэйшы па свайму характару і мэтанакіраванасьці, што моцна вынікае з яго праграмаў і выступленьняў. Ваш хор ад пагатку мае характар беларускага нацыянальнага хору. Народныя песьні розных жанраў у Вас былі выконваныя побаг беларускіх опэрных арыяў ды нацыянальных і патрыятыгных песьняў, як і твораў сугасных беларускіх паэтаў і кампазытараў.*

*Вы выступалі з канцэртамі для грамадзкасьці ў розных гарадох ЗШПАмэрыкі, на беларускіх дзяржаўных юбілеях 25-га Сакавіка, на міжнацыянальных канцэртах у Цэнтральным Парку ды ў Інстытуце Модаў у горадзе Нью-Ёрку, ладжаных Антыбальшавіцкім Блёкам Народаў, да якога належаць і беларусы. Ці Ваш хор выступаў у большым складзе, ці з солёвымі нумарамі, дуэтамі, трыо, ці квартэтамі, ён заўсёды ўспрыймаўся прысутнымі беларусамі і небеларусамі з вялікім захапленьнем. Вы добра памятаеце як гаста Вас выклікалі гугнымі воплескамі на "біс".*

*Прадстаўнікі ўкраінцаў запытвалі мяне аб Вас на імпрэзах: "Ці будуць сягоньня выступаць беларускія салавейкі, мы іх так любім слухаць". Прадстаўнік мадзяраў, які праводзіў праграму міжнацыянальных канцэртаў, заўсёды дамагаўся Вашага ўдзелу і даваў выступ "Каліны" першым, каб распагаць мастацкі вегар мілагугна, моцным і характэрным выкананьнем Вашага хору. Беларусы Канады некалькі разоў запрашалі Вас на выступленьне ў Торонто. Некалькі гадоў таму назад, калі Вы не змаглі прыбыць на прадбаганае выступленьне, то беларусы Торонто мелі вялікі жаль да Вас.*

*Частка песьняў Вашага хору запісаная на патэфонныя плiткі, якія з прыемнасьцяй слухаюць беларусы і небеларусы ў шматлікіх краінах вольнага сьвету.*

*Належыць сьцьвердзіць, што Ваш хор, на працягу 10-ці мінулых гадоў у маггымым абсягу выконваў важную працу рэпрэзэнтацыі культуры Беларускага Народу разам з ягонымі сугаснымі нацыянальнымі і дзяржаўна-вызвольнымі імкненьнямі. Інакш і быць не магло. Усе Вы зьяўляецеся складовай гасткай беларускай палітыгнай эміграцыі. Вы самі, або Вашыя блізкія сваякі, працавалі і змагаліся супроць расейскага бальшавізму за вызваленьне і незалежнасьць Беларусі. Вашае нацыянальнае сумленьне кіравала Вас на цяжкую дадатковую працу ў хоры пасьля школьнай або заработнай працы на пражыцьцё. Вы працавалі ахвярна для Беларускай Нацыянальнай Справы. Будзем упэўненымі, што Вы і надалей будзеце пасьпяхова перамагаць як нутраныя, так і вонкавыя перашкоды, дасканалягы "Каліну" і выступаюгы з беларускай песьняй для дабра Беларускай Нацыянальнай Справы.*

*З глыбокай пашанай да Вас,*

*інж. І. Касяк*

*Старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі.*

## ЗАЛАТЫ ЮБІЛЕЙ

**"Новай зямлі" пяцьдзесят гадоў.** У 1973 годзе мінула пяцьдзесят гадоў ад часу заканчэньня і першага выданьня выдатнага твора беларускае літаратуры — паэмы **Якуба Коласа** "Новая зямля".

З біяграфіі **Якуба Коласа** мы ведаем, што працаваць над гэтай паэмай ён пачаў у канцы 1910 года і пісаў яе з вялікімі перапынкамі, а закончыў толькі 5 студзеня 1923 года. Яшчэ да выхаду ў сьвет паэмы поўнасьцю, чытачы былі знаёмы з некаторымі яе разьдзеламі, якія друкаваліся ў пэрыядычным друку. А слухачы пэдагагічных курсаў у Слуцку, дзе ў ліпені 1923 года **Якуб Колас** выкладаў мэтодыку роднае мовы, мелі шчасьце пазнаёміцца з паэмай поўнасьцю, бо аўтар прачытаў яе ўсю на літэратурных вечарох, якія ладзіліся для ўдзельнікаў курсаў.

Упяршыню паэма "Новая зямля" поўнасьцю выйшла ў сьвет у 1923 годзе. З таго часу яна многа разоў перавыдавалася асобнаю кнігай і ў зборах твораў паэта. Трэба, аднак, зазначыць, што ў пэрыяд разгрому ў БССР так званае нацдэмаўшчыны (1930-1937 гады) паэма цярпела шматлікія нападкі з боку афіцыйнае тагочаснае крытыкі, у выніку чаго **Якуб Колас** вымушаны быў напісаць адмысловую прадмову да выданьня паэмы 1934 года.



*Уладзімер Глыбінны*

# Паэта з Божай ласкі

*Успаміны і роздум пра Язэпа Пушчу (1902-1964)*

## *1. КАЛІ ЎПЯРШЫНЮ Я ПАЧУЎ ТОЕ ІМЯ*

Маё знаёмства з беларускай літаратурай пачалося ў старэйшых клясах Менскай 15-й сямігадовай школы. Выкладчык беларускае мовы і літаратуры, Кузьма Дзям'янавіч Стрыгун адразу пры першым спатканьні зацікавіў вучняў. Малады і прыгожы, гадунец беларускае школы, пасьля курсант Менскіх курсаў беларусазнаўства, ён прыгожа гаварыў па-беларуску і здолеў адразу выклікаць у нас цікавасьць як да свае асобы, гэтак і да выкладанае ім дысцыпліны. І першае, што ён зрабіў, гэта была парада кожнаму з нас неадкладна набыць тры кнігі: "Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры" М. Янчука, "Выпісы з беларускай літаратуры" М. Гарэцкага, У. Дзяржынскага і Каравая, "Гісторыя беларускай літаратуры" М.Гарэцкага, чацьвертае выданьне якой кагадзе выйшла ў 1926 г. Акрамя клясных заняткаў, на якіх мы, паводле новага лябараторнага мэтаду, самі пераважна і чыталі матар'ялы згаданых кніжак, пад кіраўніцтвам Кузьмы Дзям'янавіча адбываліся яшчэ вячэрнія сходы вучняў. Там чыталіся ўголас буйнейшыя творы беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў, як "Новая Зямля" і "Сымон Музыка" Якуба Коласа, паэмы і драмы Янкі Купалы, "Сокі Цаліны" Цішкі Гартнага і іншыя.

Паміж нашым беларусам і выкладчыцай расейскае мовы і літаратуры, Ксеняй Ігнатаўнай, як-бы адбывалася спаборніцтва за ўплыў на маладыя душы. Тая старалася прывіць любоў да вялікае расейскае літаратуры, па-мастацку і цікава чытала нам пэрлы Пушкінскай і Лермантаўскай паэзіі, чаравала нашае ўяўленьне гогалеўскай рамантыкай, па вялікай Анталёгіі Львоў-Рагачэўскага знаёміла нас з найноўшымі зьявамі пасьлярэвалюцыйнай літаратуры. Мы любілі Ксеню Ігнатаўну за яе шчырасьць і захапленьне мастацкім словам. Знаёмства з лепшымі ўзорамі суседняе літаратуры спрыяла шмат разьвіцьцю нашых густаў, разуменьню законаў слова і ўздымала культурны ўзровень нашага думаньня. Адылі Кузьма Дзям'янавіч меў лепшую глебу для свайго ўзьдзеяньня. Наслухаўшыся гарачых словаў прыхільніка беларускае літаратуры, мы паступова праймаліся разуменьнем важнасьці прыгожага слова. Прыйшоўшы дахаты, мы хутчэй расчынялі беларускую хрэстаматыю і пачыналі ўголас для бацькоў чытаць вершы Купалы, Коласа, Бядулі, Багдановіча, Каганца і іншых. Пасьля пераходзілі і да вершаў маладзейшых сучасьнікаў. Мы ўжо чулі, што недалёкія ад нас суседзі, шаўцова сям'я Александровіча, маюць сына-пісьменьніка. Таму цікавасьць да вершаў Андрэя Александровіча асабліва падагравалася гэтым фактам суседзтва. А недалёка ад тых вершаў у "Выпісах" былі і вершы невядомага нам Язэпа Пушчы. Мы і іх часам перачытвалі. Не скажу, каб тады, яшчэ на школьнай парце, яны рабілі на нас уражаньне. Пэўна-ж, тады яшчэ далёка было нам да зразуменьня складанае вобразнасьці, пабудаванай цалкам на вясковай, мала нам знаёмай, лексыцы. Гарадзкому хлопцу, што ня жыў ні дня ў вёсцы, цяжка было адразу дайсьці да сэнсу вобраза "раніцы, што рыкае..."

З восені 1927 году я ўжо быў студэнтам Менскага Пэдагагічнага Тэхнікуму імя Ўсевалада Ігнатоўскага. Тут неўзабаве я пачуў аб студэнтах-пісьменьніках М. Лужаніну, Сяргею Дарожным, В. Казлоўскім, Пятру Глебка. Праз год да гэтае кагорты далучыліся новыя студэнты-паэты і пісьменьнікі: Лукаш Калюга, Сяргей Астрэйка, Гайка, Гінтаўт, Сяргей Русаковіч, М. Лешчанка, У. Гуцька і іншыя. Сярод настаўнікаў былі там і ведамыя ў беларускім руху або навуковай актыўнасьцяй гэткія асобы, як Язэп Лёсік, Міхась Грамыка, А. Бялькевіч, Юлі Дрэйзін, Круталевіч і іншыя. Маім настаўнікам беларускае мовы быў шчыры беларус Антон Лёсік, Язэпаў брат. Атмасфэра была спрыяльнай для літаратурных зацікаўленьняў. Літаратурны гурток з удзелам ведамых ужо з друку паэтаў і пісьменьнікаў выдаваў нават свой ратататарны часапіс "Крыніца". На ягоныя сходы прыходзілі знаныя ўжо літаратары і часам ператваралі іх у шырокую літаратурную дыскусыю. Памятаецца вечар, калі ўзвышэнец Антон Адамовіч горача спрачаўся з прыхільнікамі "Маладняка", пазьней БЕЛАП'а, Я. Лімаҥоўскім і А. Звонакам. Гэта вельмі і вельмі ўзбуджала нас і сьціроўвала нашыя інтарэсы да роднае літаратуры.

А выкладчык заходня-эўрапейскае літаратуры Сокал таксама выяўляў асабістую зацікаўленасьць беларускай літаратурай. Часта, адхіляючыся ад свае беспасярэдняе тэмы, замест Шэкспіра ці Шыльлера, распачынаў незнарокам гаворку пра сучасную беларускую літаратуру. Сярод паэтаў ён асабліва вылучаў, як мастака слова, нядаўнага маладнякоўца, а цяпер ужо ўзвышэнца, Язэпа Пушчу. Сокала захапляла паэтава вобразнасьць, ён смакаваў імажынісцкія радкі з раньняга пушчавага зборніка "Раніца рыкае" і знаходзіў у іх асаблівы выяў вялікіх магчымасьцяў узбагачэньня беларускае паэзіі новымі, няведамымі раней сродкамі паэтычнага выражэньня. Менавіта Язэпу Пушчу ён дэкляраваў вялікую ролю ў будучым росквіце беларускай літаратуры.



## *2. НАБЫВАЮ ПУШЧАВЫ ЗБОРНІКІ*

Слова добрага ўплывовага настаўніка не засталося бяз вынікаў. Наступным летам на кніжным кірмашы на Цэнтральным сквэры ў Менску я ўжо ведаў, што мне купляць. Я ішоў з намерам набыць Пушчавы і Дубоўкавы творы. Мне і не давялося доўга іх шукаць. Раскладзеныя на сталох, пад адчыненым небам у зыркі сонечны дзень, кніжыцы тыя, дарма, што невялікія і не заўсёды з каляровай вокладкай, адразу-ж прыцягнулі маю ўвагу. Карыстаючы з нагоды ўцаненьня кніжок на тым кірмашу, я вяртаўся дахаты бадай-што з поўным камплектам выданьняў "Маладняка", у тым ліку з Пушчавымі зборнікамі "Раніца рыкае" і "Vita", ды колькімі выданьнямі Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва твораў Уладзімера Дубоўкі, Уладзімера Жылкі ды іншых паэтаў і пісьменьнікаў.

Тым-жа вечарам я ўжо запоем чытаў тыя кніжыцы. А праз усё тое лета, як толькі сонейка зайграе ікрыстымі праменьнямі і засьвеціць сваімі вясёлымі касьнікамі ў маё вакно, я пачынаў зноў і зноў перачытваць і ўголас паўтараць гучнасьпеўныя радкі вершаў маладых паэтаў. І мне, гарадзкому хлопцу, прышліся да спадобы вершы, пабудаваныя цалкам на перайманьні вобразнасьці народнае творчасьці. Дарма, што яны адбівалі сабою лексыку і мэтафарычнасьць беларускае вёскі, адлюстроўвалі камплекс самабытнага сялянскага сьветаўспрыйманьня, зусім інакшага ад майго жыцьцёвага дазнаньня жыхара гораду, аднак я быў захоплены і ўражаны пярэстымі моўнымі краскамі і навізною ўсяго таго паэтычнага сьвету, які гэтак багата раптам расчыняўся маім зьдзіўленым вачам. Да гэтага часу ў маім вушшу не замаўкае майстэрскае насьледаваньне народнай вобразнасьці, выяўленае ў цудоўным абразку "Дзіва" з зборніка пад тым -жа назовам маладнякоўца Нічыпара Чарнушэвіча:

*"Ой, дзіва, дзіва, —*
*Ў лузе ногка блудзіла.*
*Ў лузе ногка-аднавогка сьлёзанькі пусьціла.*

*Ой, дзіва!..*

*А ласы вецер*
*Тыя сьлёзы павесіў*
*У дзяўгыны на вакенцы ад мілога весткай.*

*Ой, дзіва, дзіва, —*
*Ў вуснах песьня заціхла,*
*Дзеўка рукі заламала ля вакна ў хаціне.*

*Ой, дзіва!..* 1)

Вялікае і незабыўнае ўражаньне рабіў магутны лірычны голас Уладзімера Дубоўкі зборнікамі "Credo" і "Трысьцё". Ягоны паэтычны дыямэнт "О, Беларусь, мая шыпшына" ня выходзіў з галавы праз усе гады, трымаўся і пазьней у гады выгнаньня і эміграцыі, дакаціўся нават да амэрыканскіх берагоў і сяньня гэтак і просіцца на вусны. Мужны і пяшчотны разам, ваяўнічы і заклікальны, узьняты на ўзвышшы сусьветнай культуры і адшліфаваны апошняю, адначасна глыбока самабытны, нацыянальна сьведамы і выразісты, Дубоўкаў голас адразу здабыў маё вызнаньне. У часіны ўзнёслага натхненьня і ўздыму пачуцьцяў, я ўва ўвесь голас чытаў сабе і іншым:

*"Далёкае мы любім надта,*
*Чужыншчыне паклоны ўдол.*
*А хто успомніць нашы хаты*
*Занізьзю ціхіх кволых слоў?*

*Паэты гімны ўсім складаюць,*
*А Беларусам — пушча, гай.*
*Мая краіна дарагая,*
*Ты прабагала — выбагай.*

*Такі наш лёс, такая доля,*
*Галовы хілім нізка... Ой,*
*Даволі рабства ўжо, даволі,*
*Таварыш любы, браце мой!*

*Хай будзе ў кажнага з нас сілы*
*Ісьці, змагацца — сьмерць адна...*
*...Ці пад ярмом, як у магіле,*
*Ці у магіле без ярма...*

*Мы загартуем нашы душы*
*І ў час, калі апошні бой, —*
*Як Лунінецкі Янка Глушка*
*Заслонім Беларусь сабой.*

*А ворагу с пагардай скажам,*
*Як ён — нязнаны наш гэрой —*


© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

*Спагады мы ня хогам вашай,*
*Жыць без цябе, ці сьмерць з табой.*

*І літасьць такжа мы ня хогам*
*Прыняць з паганых вашых рук.*
*Страляйце, беце: мае вогы*
*Над краем багаць ўжо зару.* 2)

Падабаўся мне таксама і зборнік вершаў "З палёў Заходняй Беларусі" Ўладзімера Жылкі, які запаў у маёй памяці яшчэ вершамі, што друкаваліся ў літаратурным дадатку да газэты "Беларуская вёска" — "ЧЫРВОНЫ СЕЙБІТ". Жылкавы вершы запаміналіся дасканаласьцяй формы, мілагучнасьцяй, глыбокім адтварэньнем чалавечых пачуцьцяў, вылучаліся агульнай культурай вершаваньня, як і культурай мовы. Яны гаварылі пра вялікія магчымасьці беларускага вершаскладаньня і магчымасьці новых заваёваў пасьля клясычных узораў беларускага вершу Максіма Багдановіча. Падабалася яшчэ і лірыка Аркадзя Моркаўкі, Паўлюка Труса і дзе-каторых іншых паэтаў. Аднак зусім натуральна, што перш-наперш маю ўвагу забралі зборнікі Пушчавае паэзіі. Я лістаю "Раніца рыкае" і міжвольна затрымваю вока на нязвычайных вобразах роднае прыроды, нязвычных для мяне параўнаньнях, тропавай манеры паказаў зьяў прыроды. У той час я ўжо быў крыху знаёмы з расейскім імажынізмам у творчасьці Сяргея Ясеніна і ягоных спадарожнікаў. Таму мяне ўзрадавала, калі я пабачыў у асобе Язэпа Пушчы беларускага паэту-імажыністага, які ўжо ў першых, найбольш раньніх вершах пісаў:

*Сонейка з-за хмар выграбае жар.*
*На курган грабе, вабіць да сябе...* 3)

Улюбёны Пушчаў вобраз раніцы яшчэ ў 1922 і 1923 гадох набывае значэньне адноўленага сьвітаньня ў беларускім нацыянальным жыцьці, зьвязваўся з вобразам сонца, "яснай зоранькі", "сьветлай квадры" новых дзён, радзімы. Яна выяўляла юнацкае захапленьне пэрспэктывамі нацыянальнага адраджэньня. Паэта "кланяецца раніцы ў пояс", яе пільнуе птушыны шчэбет, "дзень раніцай іржэ". Раніца асацыіруецца з выхадам на працу ратая, у вачох якога паэта бачыць "уцеху сонца", зь якім "жыць на сьвеце... лацьвей".

*"Бярозка усьміхаецца,*
*Цалуюгы прамень.*
*Умыўшы шгокі раніцы,*
*На сіні выган*
*Выганяе*
*Сонца пасьвіць дзень.*

*Плаксівую тугу*
*Памялом*
*Замяло,*
*І сонца па шляху*
*Пабегла у сяло."* 4)

І ўжо ў 1924 годзе Пушча сам добра вызначыў сваю паэтычную родаслоўную, вызначаючы сябе карэнным песьняром вёскі:

*Туляўся ў выбоінах грэблі*
*Заплаканы променя вырыс.*
*Апрануты латаным зрэб'ем,*
*У хаце сялянскай я вырас.*

*Падслухаў там родныя песьні,*
*Як пелі дажынкамі жнеі.*
*Сахою я гонейкі песьціў,*
*Кільзаюгы сонца у шлеі.*

*Туман, ацярушаны пытлем,*
*Цадзіў белаватую боязь.*
*Падпаскам, ганяюгы быдла,*
*Я раніцы кланяўся ўпояс.*

*Кудлата-зялёныя хвалі*
*Чупрынаю кудзер кудзеліў,*
*І ветры мяне калыхалі*
*У ядрана-жытняй пасьцелі.*

*Зразаў я лазінкі на прывязь, —*
*А зоры мне сыпалі срэбра.*
*У хаце сялянскай я вырас,*
*Апрануты латаным зрэб'ем.* 5)

Кажны вобраз тут вырастаў з беспасярэдняга сялянскага сьветагляду і ягонага побыту, працы, дачыненьняў да прыроды. Таму ў Пушчы "туліцца жнівень пад пуняй з ношкай аўсянай саломы". "Ветры — пужлівыя коні, рвуцца ў мурожныя далі." "Вёска рыпамі весьніц цешыць сялянскае сэрца." Пушчавыя азначэньні-эпітэты, параўнаньні, тропы ўсе скрозь з сялянскага сьвету і адлюстроўваюць адменныя рысы лагоднае беларускае прыроды з яе асаблівай прыгожасьцяй і чарамі, што прыносіць яна чалавеку працы і беспасярэдняга дотыку да яе. Здаровы сьвет дачыненьняў да ейных дзіваў і абумоўліваў музыку і настроі Пушчавае лірыкі:

*"Беланогі, расгухраны месяц*
*Лявоніць у лісьці кляновым.*
*Мне гупрыны ня хогацца зьвесіць*
*Ў гэты вегар аўсяна-зялёны.*

*Я пайду сінявою мурожнай*
*Да наглежнікаў, хлопцаў буяных,*
*Хай прыгорне мяне вербалозьзе,*
*Бо я хмелем сягоньняшнім п'яны.*



*Ой вы, поплавы ў шэрай сярмязе,*
*Веснавейце ў даліне-лагтыне!*
*Мяне променем сонца абвяжа,*
*Пакланюся я нізка айгыне.*

*Закалосяцца песьні ля весьніц,*
*Засьпяваюць таполі і клёны.*
*Мне гупрыны ня хогацца зьвесіць*
*Ў гэты вегар аўсяна-зялёны."* 6)

І тут трэба зьвярнуць увагу на тое, што Пушчаў імажынізм носіць адменна-нацыянальны характар, ягоны вобраз больш арганічны і натуральны ў параўнаньні з вобразамі дзеля вобразаў у расейскіх імажыністых тыпа А.Марыенгофа, В.Шэршэневіча, А.Кусікава або Р. Ївнева. Калі для апошніх натоўп вобразаў у вершы быў сам па сабе мэтаю творчасьці, а слова часта ставілася, паводле В.Шэршэневіча, "ўверх нагамі", дык Сяргей Ясенін ужо вымагаў арганічнага вобразу. Ён аддаваў перавагу беспасярэдняму пачуцьцю, дарма, што і ў яго часам колькаснае награмаджаньне вобразаў засланяла сэнс і зьмест вершу. Аднак Ясенін крытыкаваў сваіх спадарожнікаў па школе імажыністых і пазьней зусім пакінуў яе. Вобраз у ягоным уяўленьні быў адно сродкам асэнсаваньня рэчаіснасьці. Гэтаму служыла і ягоная схільнасьць да народнай вобразна-пабытовай сымболікі. Таму і застаўся ён лепшым паэтам расейскай вёскі. А Язэп Пушча ў гэтых адносінах меў яшчэ большае права на лірычнае адтварэньне самых істотных бакоў беларускае вёскі. Сяргей Ясенін быў аж надта паддаўся шкодным уплывам часоў НЭП'а і нават стварыў і выдаў такі дакумант раскладу чалавека ўва ўмовах багемы, як зборнік вершаў "Москва кабацкая", але гэтага ня сталася з Язэпам Пушчаю. Шкодны ўплыў багемы бадай-што не крануў чыстае лірыкі нашага паэта. Ён да канца заставаўся сынам беларускае вёскі, верным і пасьлядоўным выяўнікам ейнае красы.

*Чаму так сэрца любіць*
*Вясны зялёны шум?*
*Для Беларусі любай*
*Я радасьць дзён нашу.* 7)

Праўда, на вершах другога зборніка Язэпа Пушчы "Vita" адбіўся да пэўнай ступені модны ў 1923 - 1925 г.г. "маладнякізм" нават у ягонай найгоршай адмене г. зв. "бурапены". Можна сустрэць у тым зборніку і штучны надуманы вобраз, накшталт "чоканьня кілішкаў буйных слоў" розныя варыянты вобразу "чоканьня чаркамі" і ягоных адменаў, штучную адцягненасьць і наўмысную ўскладненасьць тропаў, як і наагул паўтарэньне ўжо ўжываных раней вобразных параўнаньняў і мэтафараў. Аднак і гэтыя хібы былі хутчэй данінай той экспэрымэнтальнасьці і пошукам новых кірункаў у паэзіі, пра якія паэта пісаў у прадмове да зборніка "Vita". Ён і сам разглядаў зборнік "Vita" як "водгук" на пошукі СЫНТЭЗУ, СТРОЙНАЙ СУЧАСНАСЬЦІ РАМАНТЫЗМУ ЖЫЦЬЦЯ З ЯГО РЭАЛІЗМАМ, якія разам паэта і называў словам "віта" — жыцьцё — ВІТАЛІЗМ. І хаця-ж паэта меркаваў, што тыя пошукі тады не давялі адразу да стварэньня адмысловай паэтычнай школы, аднак тыя думкі зьявіліся штуршком да далейшага самавызначэньня беларускае літаратурнае школы, што пазьней сталася вядомай і плённай, як "узвышэнства".

### 3. Я ЧЫТАЮ "ДНІ ВЯСНЫ"

Расчыняю Пушчаў зборнік паэзіі "ДНІ ВЯСНЫ" і чытаю:

*Зялёны шум лясны*
*Зьмятае сум з кустоў.*
*Праходжу дні вясны*
*Пад воплескі лістоў.*

*Мінаю рубяжы,*
*Цалую даляў медзь...*
*І хогацца ўсё жыць,*
*На бляск зары глядзець.*

*Мой дзень дайно пасьпеў, —*
*Ён сыпле зерні слоў.*
*Душой сагрэты сьпеў*
*Прынёс я вам з лясоў.*

*Мне сёньня сьняцца сны,*
*Што я другі, ня той...*
*Праходжу дні вясны*
*Пад воплескі лістоў.* 8)

Ужо гэтыя першы, як-бы ўступны, верш нагэтульки запаланіў маю душу, што я запамятаў дагэтуль. Тут Язэп Пушча здолеў дасканала спалучыць тыповую для паэта вобразнасьць з клясычнай чаканнасьцяй, пярэстасьць нацыянальнага калярыту, народную лексіку і блізіню да фальклёру з дасканалай, па-мастацку закончанай, гучнасьпеўнай формай вершу. Ён тут сапраўды гучыць медзьдзю духавога аркестру, у якім кажны інструмант ідэяльна дапасаваны да агульнага сугалосься. Тут ужо слова з радка ня выкінеш. Яно арганічна спалялася з усім музычна-мэлёдыйным зьместам і становіць трывалы і неад'емны элемэнт кажнага радка. Алітэрацыі і асанансы тут нагэтулькі пераплятаюць і нітуюць

радкі, а багацьце музычных зычных — м, н, з, ш, л — і галоснага гуку “о” надае поўнагалосься, нагэтулькі прасякае самую істоту вершу, што кажны аматар пошукаў формы тут знойдзе для свайго густу належную эстэтычную спажыву і задаволіць вымогі фармальнай дасканаласьці.

Зборнік “Дні вясны” і зьявіўся сьведчаньнем далейшага творчага росту паэты, сьведчаньнем дасканаленьня ягонага майстроўства. Застаючыся тым-жа паэтам беларускае вёскі, творачы на падставе тае-ж паэтычнае вобразнасьці, якой былі адзначаныя і “Раніца рыкае” і “Vita”, Язэп Пушча тут узыходзіў на яшчэ вышэйшыя дзялянкі культуры, авалодваў здабыткамі больш асэнсаванага вершаскладаньня і ня цураўся агульначалавечых матываў і настрояў. Маладосьць, пара росквіту пачуцьцяў каханьня і рамантычнага сьветаўспрыйманьня новай рэчаіснасьці падказвалі маладому паэту радкі харства. “Дні вясны” напоўненыя мэлёдыямі музыкі дзён вялікіх спадзяваньняў і веры ў будучыню роднага краю, ідэялізацыяй мастака, мастацтва, паэзіі. Самі разьдзелы “Струны сонца”, “Кветкі красы”, “Залатое пахмельле” станавілі этапы пошукаў “вобразаў бясьсьмертнае Мадонны”, часам нават з дакладным назовам узору, тварыць паводле якога паэта заклікаў сваіх сяброў (“стварыў што мастак Рафаэль”) А шмат якія вершы ўжо сваім назовам падкрэсьлівалі музычную танальнасьць: “Струны”, “Песьня юнацтву”, “Мэлёдыя”, “Аркестры”. Многія зь іх калі не ў назове, дык сугучнасьцяй зычных і гульнёю ў гукаперайманьне несьлі ў сабе моцны набой, які ўзмацняў паэтычную сілу верша:

*Звонка-імпэтныя хвалі*
*сонца вясны ўлюлялі.*

*Ў іхнім адценьні лілёвым*
*сокі асіны зялёнай.*

*Часта зара паласкала*
*косы свае ў іх са скалаў.* 9)

Чым мяне адразу зачараваў Язэп Пушча ў вершах зборніка “Дні вясны”, дык гэта шчырасьцяй і беспасярэднасьцяй пачуцьцяў, уменьнем гаварыць з чытачом сам-на-сам ад сэрца і прамаўляць да сэрца. Лірычная ўзбуджанасьць паэты нібыта токам прасякае кажны радок і будзіць у чытача адказныя хваляваньні. Складаная гама перажываньняў ад юнацкага захапленьня фарбамі жыцьця да трагічнага расчараваньня неажыцьцёўленымі трызьненьнямі, уся складаная супярэчлівасьць пачуцьцяў у моцных кантрастных паралелізмах знаходзяць выяўленьне ў радкох вершу. Сама прырода набывае тут канкрэтныя чалавечыя рысы, суадносіцца да чалавека, як-бы ачалавечваецца. Нездарма паэт гэтак часта зьвяртаецца да дрэваў, палёў, лясоў, надзяляе іх здольнасьцяй разумець чалавечыя радасьці і гора, а яны выяўляюць разуменьне ягоных расчараваньняў і надзеяў. Звароты-паўторы, запытальна-клічныя інтанацыі тут служаць больш выразнаму выяўленьню лірычнае ўсхваляванасьці.

*Ой ты, клёне, клёне мой зялёналісты...* 10)

*Ня шумі, бяроза, з клёнамі над пуняй,*
*ня хістайся веткамі наўслонь...* 11)

*О, вечар, мой вечар зялёны,*
*у слове хвалююцца хвалі...* 12)

*Любыя, мілыя ліпы —*
*радасьць квяцістых нізін...* 13)

*Ой ты, краса палёў далёкіх,*
*зялёнасьць согнае травы...* 14)

Уласьцівы народнай паэзіі псыхалягічны паралелізм у Язэпа Пушчы набывае асаблівае дасканаласьці і добра служыць далейшаму развою лірычнае плыні ягонае музы. Пэйзажная лірыка Пушчы побач з прачулымі і асабіста ўспрынятымі і праз ягоную душу прапушчанымі краявідамі адбівае разам з тым самыя затоеныя напластаваньні асабістых настрояў. Яны часта бываюць нагэтулькі пранітаваныя адно другім, што ні пад якім скальпэлям нават самага спрытнага паэтычнага аналізу іх не разлучыць і ня вылучыць асобнага інгрэдыенту, як прыкладам, у вершы:

*Любыя, мілыя ліпы —*
*Радасьць квяцістых нізін.*
*Кволіцца ласкавы ліпень,*
*Шумы калосяць азім.*
*Дні загарэлага лета, —*
*Сочыцца сонца з суніц.*
*Далі апырсканы цьветам,*
*Далі сьхіліліся ніц.*
*Цісну лістоў я далоні,*
*Золата сыплюць аўсы.*
*Ласкі даліны зялёнай,*
*Ласкі таемнай красы.* 15)

Калі ў першым зборніку “Раніца рыкае” яшчэ давала сябе ведаць імкненьне пачынаючага паэта зьдзівіць чытача нечаканым вычварным вобразам, раптоўным выкрунтасам,



без якіх не абышоўся і другі зборнік “Vita”, дык тут Пушча ўжо асягнуў арганічнага пранікненьня ў вобразатворчы матар’ял. Вобраз тут не самамэта, а сродак найбольш адэкватна і разам з тым істотна ператварыць слоўны запас у новы, створаны мастаком сьвет. Ператворанае ў ідэальнае мастаковай уяваю становіцца фактам мастацкае, найбольш уразьлівае і ўплывовае на чытача, адтворнае рэчаіснасьці.

Вельмі часта Язэп Пушча ў кнізе “Дні вясны”, як і ў іншых вершах, ужывае г. зв. кальцавую кампазыцыю, у аснове якой ляжыць паўтор тых-жа словаў і радкоў з мэтаю стварэньня закончанага вянка настрояў. Пачатковыя радкі, што выражаюць галоўную тэму ці думку вершу або ягоны лейтматыў, у канцы паўтараюцца і тым самым гучаць як падагульняючы акорд або выснаў. Гэтак будуюцца ня толькі пэйзажныя вершы, поўныя інтымнай лірычнай інтанацыі і пяшчотнасьці, але часта і вершы высокай патэтычнай узьнёсласьці, падобна вершу “О, Беларусь!”. Якраз гэты верш найбольш і выйграе ў сваёй маналягічна-эмацыянальнай узьдзейнасьці на патрыятычна-нацыянальныя пачуцьці. Паэтычны маналёг паэты набывае асаблівай паэтычнай сілы, калі паэта выказвае прачулыя словы аб бацькаўшчыне, што зрываюцца з вуснаў шчырага сына, зацікаўленага ў культурна-нацыянальным уздыме радзімы. Праз горыч усьведамленьня незайздроснага мінулага паэта як-бы выказвае свае самыя запаветныя мары аб прышлым узвышэньні. Ад нэгатыўнага праз ягонае адмаўленьне да станоўчай праграмы адраджэньня і будаўніцтва сьветлага прыйсьця, вялікага чыну нацыянальнага дойлідства. Паўтор першай страфы ў канцы адно ўзмацняе агульны патас гэтага выдатнага вершу:

*О, Беларусь!*
*Тваё мінулае ў мармурах не застыла*
*І медзьдзю-бронзай ня зьвініць.*
*Яно ня знае готыкі, антычных стыляў,*
*Ня знае колераў сузорчатых зарніц.*
*Яно пахована ў глыбокія курганы, —*
*Крывёй-бальзамам гоіць сны.*
*Твой гэні, у мінулым паруганы,*
*Да славы ўзьнімуць вольныя сыны.*
*Ты сілы траціла свае дазваньня;*
*Цябе аплакаў на кургане клён.*
*Штогод тваё спраўлялі ўкрыжаваньне.*
*Штогод гісторыі праклён.*
*Таму й мінулае ў мармурах не застыла*
*І медьдзю-бронзай ня зьвініць.*
*Яно ня знае готыкі, антычных стыляў,*
*Ня знае колераў сузорчатых зарніц.* 16)

У вершы “О, Беларусь!” паэта, аднак, зьмяніў першае слова першае страфы “Тваё” на тлумачэньне “Таму” ў пачатку паўторнага чатырохрадкоўя і гэтым надаў больш яснасьці што да вынікаў паэтычна названых у вершы прычынаў. Дарма, што тым чытачам, якім былі знаёмыя досьледы выдатнага беларускага мастацтвазнаўцы Міколы Шчакаціхіна, які ў сваёй кнізе “Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва” (Том I, Менск, 1928) пераканаўча давёў існаваньне на Беларусі асаблівага стылю беларускай готыкі і барока, Пушчавы высновы былі сумніўнымі. Але і абазнанаму ў гэтым чытачу імпанаваў Пушчаў прыём адштурхоўваньня да паэтычнага сьцьверджаньня ідэялу. Закончаная вытачанасьць кажнага радка і кампазыцыі яшчэ ўзмацняецца і тыповым для Пушчы супадзеньнем сказу і радка. Тут, як і ў бальшыні Пушчавых вершаў, кажны радок становіць сабою асобны сказ, або прынамсі даданы сказ, частку складанага сказу. Таму Пушчаў верш сапраўды гучыць медзьдзю, як ён сам азначыў асаблівасьці свайго вершаваньня. Калі ў той-жа самы час другі выдатны беларускі паэта, Уладзімер Дубоўка, у пошуках фармальнай навізны, па-наватарску ламаў радок, а часам нават і слова, пераносячы частку складоў у наступны радок (прыкладам, у паэме “Там, дзе кіпарысы” і асабліва ў паэме “Браніслава”), дык для Пушчы характэрна хутчэй якраз бадай што клясычная форма вершу, строга датрыманая паводле правіла супадзеньня радка і сказу. І кажны наступны радок у паэты выяўляе ўжо іншую адмену настрою ці называе іншыя зьявы, што разам становяць цэласьць паэтычнага вобразу. Напрыклад:

*Прабіла зарніца дванаццаць гадзін, —*
*Адгуў толькі гэта паэта адзін.*
*Прабіла яна яму сэрца наскрозь, —*
*Успомніў Айчыну, ў якой ён узрос.*
*Успомніў цярпеньні народу свайго, —*
*Душу апаліў жыватворчы агонь.*
*Лісты залатыя ён з клёну трасе*
*І песьні складае адвечнай красе.* 17)

Апошні радок быў разам з тым і заяўкай ці маніфэстацыяй паэтавых намераў тварыць чыстае мастацтва ў супроцьвагу вымогам утылітарнага, службовага падначаленьня яго чарговым лёзунгам палітычнага ці эканамічнага зьместу. У шмат якіх вершах ужо гэтага раньняга зборніку “Дні вясны” Пушча выводзіў мастака, што стаяў вышэй будзённых патрэбаў, узіраўся ў больш ідэальную, чымся сучаснасьць, рэчаіснасьць, не абмінаў церні і благі лёс краіны і смутак народу, клікаў на тыя ўз-

 



вышшы сапраўднага мастацтва, да якога неўзабаве пачалі клікаць выдатнейшыя супольнікі Я. Пушчы па літаратурна-мастацкаму згуртаваньню "Узвышша". У ажыцьцяўленьне высокіх ідэалаў мастацтва і як-бы працягам запаветаў песьняра красы Максіма Багдановіча, Язэп Пушча найбольшы разьдзел у разгляднай кнізе называе "Кветкі красы". Тут аб'ектам паэтызацыі становяцца пераважна вобразы ўспамінаў аб маладосьці, "сьветлых дзён характва", поўных "пралескавага сьмеху дзявочага", "радасьці палёў", "закліканьня" ветру, як у народнай творчасьці, сьпяваньня песень "веснавому вясельлю". І тут-жа пры гэтым, нібыта не гармануючы з агульным веснавым уздымам, — настрой смутку, свомы зьменлівым пачуцьцям маладога паэты. Зьвяртаючыся да вясны, паэта кажа:

*Я пашлю дарагі ёй паклон,*
*І спаткаць выйду ў поле удагу.*
*Закалоціцца лісьцямі клён, —*
*Я пад ім песьняй горкай заплачу.*

("Сьветлых дзён характва".) 18)

Намі ўжо вышэй была азначаная, як адна з найбольш характэрных асаблівасьцяў паэзіі Язэпа Пушчы, кантраставасьць настрояў. Спалучэньне сьветлых настрояў з настроямі расчараваньня і пэсымізму рабіла Пушчу паэтам трагедыйным і тым павышала ягонае значэньне для нас, моладзі, якая ніколі ня была задаволенай існуючым, якая шукала выйсьця ў мастацтве і знаходзіла сугучныя сваёй душы матывы болю і пакуты, трагічнага раздваеньня ў паэтаў тыпа Сяргея Ясеніна або беларускага Язэпа Пушчы. У "Днях вясны" Пушча ўжо выяўляўся, як паэта трагедыйнага расшчапленьня чалавечае душы, што магла спалучыць у сабе разам і вялікага аптыміста і чорныя думкі ў хвіліны заняпаду і балючага зьняверанья:

*Ня сьніў, ня думаў, не гадаў,*
*Што так са мною стане...*
*Сьлязамі горка плача даль*
*І клён з кароваю ля стайні.*

*Які у гэтым кволы боль, —*
*Гатоў абняць, схапіць рукамі...* 19)

Або:

*Дружбакоў-таварышаў ня маю,*
*Я сёньня ўсім чужы.*
*А здавалася-б, у сьветлым маі*
*Зь імі весяліцца, жыць.*
*Ну што-ж, няхай і гэтак...*
*Каму дакоры слаць?* 20)

Гэтае ўсьведамленьне свайго адзіноцтва часткова можна тлумачыць новымі ўмовамі гарадзкога жыцьця ў адрыве ад роднае вясковае стыхіі, пачуцьцём паступовае траты сувязяў і беспасярэдняга дотыку да прыроды. Адтаго шмат у тых вершах — успаміны аб колішніх блуканьнях на ўзлоньні родных палёў, слуханьню посьвісту ветраў, роздум пра лёс вёскі у век наступу і разросту гарадоў. Паэта сябе абвяшчае, падобна Сяргею Ясеніну, апошнім званаром красы беларускіх палёў, выступае ў ролі абаронцы й заступніка перасьледаваных сучасным індустрыяльным поступам зьвяроў. У іхнім вобразе можна разумець не адно лясных тубыльцаў, але і вёску і яе насельнікаў наагул, пра якую пазьней і Янка Купала выказаўся ў вершы "Сыходзіць вёска з яснай явы". Пушча пісаў:

*Браты вы мае, дарагія браты,*
*Ўзьнімаю кілішак за ваша здароўе!*
*Хоць песьні маёй і зьлятаюць лісты,*
*Хоць колеры яркнуць іскрыстаю кроўю.*
*Мы студзім гасамі ў бядзе на ваду,*
*І радасьці зорнай ў бязьмежнасьці просім.*
*Пайду я, пад посьвісты ветру пайду...*
*Абвее мяне хай кляновая просінь.*
*Паклонам у пояс сьхілюся зары,*
*І водблескам кос залатых абвіюся.*
*Спаткаюць мяне у дарозе зьвяры, —*
*Апошнія госьці дуброў Беларусі.*
*Рабіна з.калінай наземяць гальлё,*
*І кроў праліюць сваіх ягад увосень.*
*Абступяць зьвяры мяне дзікай гаьнёй,*
*І ў сінь, белазорую сінь загалосяць.*
*О, зьвяры, дзіка-гулыя брацьця зьвяры,*
*Дні наступныя род ваш падлігаць!*
*Хоць бяры сьлёзы вашы ў прыгоршчы зьбяры,*
*І ўмывай імі твар свой — аблігга.*
*Як шумелі, шумець гэтак будуць брады.*
*І плысьці хвалі будуць павольна і роўна.*
*Браты вы мае, дарагія браты,*
*Ўзьнімаю кілішак за ваша здароўе!* 21)

Ня прыходзіцца і казаць, што на фоне тагачаснай савецкай літаратуры і казённага аптымізму, калі скрозь у вершах выяўляўся ружовашчокі аптымізм і ад літаратуры вымагалася найбольш абмежаванага сёньняшняй палітыкай партыі, фактычна мяшчанскага, самаздавальненьня, Пушчава паэзія гучала дысанансам. Але якраз яна і была прызначаная задаволіць патрэбу самавызначэньня чалавека новай эпохі, зьявілася ўдзячнай формай самавыяўленьня ўнутранага сьвету маладога беларуса, што ўжо культурна ўзьняўся досыць высока і здолен быў разумець усю складанасьць унутраных нюансаў і ўспрыймаць, як сваю собскую, пярэстую палітру паэтавай душы. Пушчава ўвага да мінорных адценьняў сваей настраёвасьці падвышала вагу ягонай паэзіі ў нашым духовым жыцьці і рабіла яе яшчэ больш інтымнай і важнай для нас. Яна змушала нас адштурхоўвацца ад Александровічавага сацыяльнага заказу і сьціроўваць зрок у бок сапраўднай, беспасярэдня-пачуцьцёвай, шчырай, а разам з тым фармальна больш дасканалай, творанай у самабытнай і чыстай, сапраўды арыгінальнай, адрознай ад жаргоннай (зьмешанай), мове. Кажнаму слову аўтара "Дні вясны" можна было даверыцца, як сапраўды роднаму, з глыбокіх народных крыніцаў, жыватворнаму слову. Пушчаў сум і боль нас не адштурхоўваў, а, наадварот, прывязваў да яго і рабіў ягоныя творы часткаю нашых біяграфіяў. Мы стыхійна і інстынктыўна адчувалі за пушчавымі вобразамі назапашаны вякамі несправядлівасьцяў ў дачыненьнях да нашага краю і народу боль за лёс краіны. І хаця-ж у "Днях вясны" гэты матыў забранага краю не набыў яшчэ пазьнейшай вастрыні і сілы ягонага наступнага зборніка "Песьні на руінах", мы ўжо і тут вычытвалі і спачувальна перажывалі адчуты паэтаю глыбокі смутак, што ўсё часьцей пачаў агортваць песьняра:

*Я аддаў дню вясноваму дань,*
*Я сьхіліўся паклонам вясьне.*
*Сёньня восені горная здань*
*Золь-слатой асыпае мяне.*
*Нешта зябка на сэрцы чагось*
*Ўсю дазваньня калоціць душу.*
*Няўжо восень мой жудасны госьць?*
*Няўжо восень я ў песьні нашу?*
*Мне становіцца страшна за лёс, —*
*З сінь-вагэй маіх смутак імжыць.*
*Ой, чаму не праліў я ўсіх сьлёз*
*На зары, пагынаў калі жыць?*
*Эх, ты песьня, ты песьня красы,*
*Ой, нашто давяла да бяды?*
*Ты ўвесь боль мой у гуках рассып,*
*Утапі яго ў лыжцы вады.*
*Але не, не ўтапіць мне душы,*
*Захлынуся лепш з песьняю сам.*
*Вольны вецер мне гімн прашуміць,*
*А зьвяр'ё з мяне кроў будзе ссаць.*
*Клёны з ліпамі сьхіляцца ніц*
*І асьвеціцца зорамі дзень.*
*Мой апошні акорд празьвініць, —*
*Даль прыцісьне яго да грудзей.*



*Нешта зябка на сэрцы чагось,*
*Ўсю дазваньня калоціць душу.*
*Няўжо восень мой жудасны госьць?*
*Няўжо восень я ў песьні нашу?* 22)

У іншым месцы паэта гаворыць пра "раны душы", якіх "ня знае палын". Часам абстрактная скарга набывае больш канкрэтны зьмест. Няхай сабе і двухсэнсна, але чытачова ўвага завастраецца на канстатацыі страты рэлігійных ідэялаў ува ўмовах савецкай рэчаіснасьці:

*Узьвейся, вецер, ўзьвейся па-над стогам, —*
*Мы жывём бяз імені сьвятога.*
*Бяз крыжоў Хрыстовых моўкнуць далі, —*
*Досыць дух і сэрца расьпіналі.* 23)

А ў іншым вершы:

*Песьні пасьвістывай, сівер,*
*Ў золка-празрыстую сінь!*
*Зоры паўзорылі сьвірань,*
*Зьняты Хрыстос са сьвятынь.*
*Розум мой з думкаю горнай,*
*Вязьне натруджаны крок.*
*Босым праходзіў угора,*
*Пальцы папляміў у кроў.*
*Лягу касьцьмі на руінах,*
*Ў сэрцы струхлявіцца злосьць.*
*О, дарагая краіна,*
*Сына уцеш ты да сьлёз!* 24)

Што-ж гэта за вобраз "руінаў", "раны сэрца краіны", "сіверу" пры якім "у думках часам: холад, цень, — душа атулена імглой"? Што за "аса, якая жаліла вусны", а "з зарніц сьцюжай веяла", перад якімі паэта заклікаў "ня сьхіляць чала і ня падаць ніц"? І чаму-ж паэту прыходзілася "пальцы папляміць у кроў"? Часткава гэтыя сымбалі набываюць сэнсу ў сьвятле вершу "З цыклю "ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ", у зборніку "Дні вясны".

*Шмат было іх чужых-чужаніцаў,*
*І кажны нам косьці крывіў.*
*З нашымі сёстрамі праглі жаніцца,*
*Выпіць каб болей крыві.*
*Дык таму і.трасуцца асіны —*
*Сіроты, як-бы без сям'і.*
*Знаем, хто вусны да сіня насініў*
*І раны цалуе зямлі.* 25)

У вершы "Панская навала" яшчэ больш праясьняецца вінавайца бед народных на Беларусі. У адрас адвечных акупантаў выліваюцца словы вялікага і сьвятога гневу. У часы разгрому Беларускай Работніцка-Сялянс-

 

кай Грамады ў Заходняй Беларусі пад польскай акупацыяй паэта ўзьняў голас, які прагучэў абвінавачаньнем не адно акупантам па той бок Рыскае мяжы, што па жывому целу разразала забраную краіну. Гэта было паэтычнае слова ўзьнятага пратэсту супраць усіх панявольнікаў па абодвы бакі ганебнае мяжы:

*Зажурыліся вёскі, пахілыя сёлы,*
*Затушылі газьніцы ў сьвятліцах.*
*Няма там сягоньня, няма там вясёлых, —*
*Ў вагох гора жалем імгліцца.*
*Не бярозы ў дуброве сьхіліліся долу*
*І зямлю ашгаперылі гольлем, —*
*Гэта маткі і жонкі галосяць над доляй,*
*Надрываюцца сэрцы іх болем.*
*Сёньня кроў налівае зара у кілішкі,*
*Радасьць душы апляло павуціньне...*
*Павялі беларусаў паны на Лукішкі,*
*Павялі па цярнёвай пуціне.*
*Іх сьлядоў не засыпаць сівымі пяскамі, —*
*Застануцца яны на сталецьці, —*
*Шгэ успомняць, як цела ірвалі кускамі,*
*І помста крывёю пральлецца!*
*О, мая ты Краіна ў адвечнай няволі,*
*Навалу ты церпіш гужую!*
*Дзіка-панскія банды ў зьвярыным свавольлі*
*Цябе расьпінаюць, крыжуюць.*
*Абмыю я песьняй крывавыя раны!..*
*Ой, ты гора, народнае гора!..*
*А ўсё-ж веру, што сонечна-сьветлае раньне*
*Шгэ Краіну атуліць, прыгорне.* 26)

І нарэшце ў вершы "Рабіндранату Тагору", напісаным з нагоды чаканага прыезду ў Менск выдатнага бэнгальскага пісьменьніка ўвосені 1926 г., Язэп Пушча канчальна выясьняе адрасат сваіх скаргаў і ў кароткім, але поўным экспрэсіі й мастацкай выразістасьці, кідае гнеўнае абвінавачаньне ўсім панявольнікам Беларусі, мінулым і сучасным. Паводле аналёгіі з паняволенай Бэнгаліяй, Беларусь тут сьведама выводзіцца ахвярай чужынскіх падбояў, а змагару за волю Бэнгаліі працягваецца братэрская рука салідарнага, але такога-ж нявольнага беларускага народу, імем якога гаварыў песьнятворац, аўтар вершу:

*Хацелі народ мой гужынцы зьняславіць*
*І сэрца скрывавіць на раны.*
*Бэнгаліі гордасьць, Бэнгаліі слава!*
*О, гэні народаў забраных!*
*У песьні табе я стыхіяй малюся,*
*І кленгу на дзікім кургане.*
*Кветкі крыві парасьлі ў Беларусі,*
*Паэта мой любы, каханы!*
*Зара-заранiца цьвіце ў паднябесьсі,*
*Залоціць красою разлогі.*
*Далёкі па вёрстах, а блізкі па песьнях,*
*Я кветкамі ўсыплю дарогі!*
*Прайдзіся па іх ты, прайдзіся, гаканы!*
*Сьляды застануцца сьвятымі.*
*Цябе абніму я, як бацьку, рукамі, —*
*Пагуцьці ў сталецьцях ня стынуць.* 27)

З маладым і талентавітым паэтам з вёскі Каласоўшчына на Случчыне, Сяргеем Астрэйкам, я хадзіў па калідорам Менскага Белпэдтэхнікуму і голасна чытаў гэтыя натхнёныя вялікай ідэяй вызваленьня паняволеных народаў радкі. "Кветкі крыві парасьлі ў Беларусі, паэта мой любы, каханы", — дуэтам на ўвесь голас выказваліся мы. І нібыта ў змове з намі нам тураваў гулкім водгульлем даўгі калідор каменнага будынку — "Кветкі крыві парасьлі ў Беларусі!" Зьбянтэжана шарахаліся ад гэтых словаў зьнялюбелыя нам актывістыя-камсамольцы. Але затое аганькамі цікавасьці запальваліся твары маладых хлапцоў, сьведамых свае апрычонасьці. Тады-ж Сяргей Астрэйка праняўся ідэяй стварыць вялікі паэтычны твор аб паняволенай Беларусі, Маскоўскай калёніі, пад выглядам паказу каляніяльнага рэжыму ў Брытанскай Бэнгаліі. Паэма і называлася "БЭНГАЛІЯ", пэўна-ж, не бяз упльіву таго Пушчавага вершу "Рабіндранату Тагору", якім мы гэтак захапляліся і якім гэтак пужалі тых янычараў.

### *4. ПАКУТЫ І РАДАСЬЦІ КАХАНЬНЯ*

Даўгімі асеньнімі вечарамі 1928 году я зноў і зноў перачытваў "Дні вясны", гэтым разам асабліва ўважліва ставячыся да радкоў разьдзела "Залатое пахмельле", у які былі ўлучаныя Пушчавы вершы пра каханьне. Ужо першы верш таго разьдзелу "Ня шумеце, ветры" прывабіў мяне сваёю цікавай пабудовай цалкам на разгорнутым адмоўным паралелізьме, узятым з народнай творчасьці. Кажнае чатырохрадкоўе дадавала нейкую новую рысу горкага распачлівага стану душы пакінутай дзяўчыны, і кажны раз строфа пачыналася адмоўным параўнаньнем стану душы з пэўнаю зьявай прыроды. Майстроўства выяўленьня чалавечых настрояў тут узмацнялася разгорнутым ужываньнем вельмі распаўсюджанага ў народнай лірыцы прыёму псыхалягічнага паралелізму праз сьцьверджаньне таго, што адбываецца гэта не ў навакольным сьвеце называных зьяваў, а ў параненым сэрцы няшчаснай зьняверанай дзяўчыны-пакутніцы, што зазнала здраду і страціла веру і надзеі на шчасьце:



*Ня быльнёг у даліне пасох,*
*І ня вецер сумуе ў лясох:*
*То дзяўгына дубровай ідзе,*
*Што радасны ўтраціла дзень.*
*Ня лісты зажурыліся ў сінь,*
*І ня смутак асеньніх асін:*
*То прадоньне вагэй агнявых,*
*Што хлапец малады угнявіў.*
*Ня туман ды расу пагубляў,*
*І ня срэбра зіяе між плям:*
*То сьлязіны цьвітуць на пяску, —*
*Што яна пагубляла ўвясну.*
*Не каліна ад соку гарыць,*
*І ня зорка ўзышла з-за гары:*
*Гэта вуснаў жывы агняцьвет, —*
*Ў іх запале праменіцца сьвет.*
*Не трава зашумела ў лугох,*
*І ня лён у лаггыне палёг:*
*Гэта косы павісьлі на стан,*
*Горкай роспагы гас як настаў.*
*Ня быльнёг у даліне пасох,*
*І ня вецер сумуе ў лясох:*
*То дзяўгына дубровай ідзе,*
*Што радасны ўтраціла дзень.* 28)

Было ў гэтых перапевах, дарма што на вышэйшым узроўні, шмат ад імітацыі і насьледаваньня ўзорам народнай паэзіі. Паўтарэньне вобразаў і формаў фальклёру роднае вёскі не заўсёды яшчэ рабіла Пушчу арыгінальным і самастойным паэтаю. І ў разьдзеле "Залатое пахмельле" яшчэ адчувалася прыгнобленьне паэтавай душы матывамі адыйшоўшай маладосьці, страчанай без пары першапачатнай сьвежасьці, сілы пачуцьця першага каханьня, пра якія часта гаворыцца ў народнай паэзіі і якія становяцца часта тэмаю сумных перажываньняў маладых, што дачасна гавораць аб адгарэлай маладосьці. У паэзіі, прыкладам, Валерыя Маракова, 29) гэта адбілася вельмі частымі гаворкамі пра тое, што "маладосьць адгарэла" і гэта тады, калі самому носьбіту тых настрояў было ўсяго 18 гадоў. Гэта такі ўзрост, калі выпадковае захапленьне можа выдацца за сапраўднае шчасьце, а нямінучае растаньне або зьмена аб'екта выпадковага каханьня можа выдацца за здраду і канец надзеяў на каханьне, якім жыве кажнае маладое сэрца. І тады гатовыя формы народнае паэзіі смутку каханьня могуць задавольваць патрэбы самавыяўленьня і служыць вытокаю для пакутных пачуцьцяў.

Малады паэт Язэп Пушча падобна праходзіў таксама ўсе падобныя этапы маладосьці, пэрыяды сустрэч і растаньняў яшчэ на ўзлоньні прыроды роднае вёскі і пазьней, пры дапамозе ўжо знаных па фальклёру свае-ж вёскі формаў лірычнага самавыяўленьня, даваў голас сваім смутным настроям, рамантыцы маладых спатканьняў, ростаняў, расчараваньняў, паўторных сустрэч, нараканьняў на здраду і страту незваротнага мілага сэрца вобразу першае дзяўчыны, уяўныя пакуты.

Язэп Пушча аддаў даніну гэткай рамантыцы, і праз ягоныя вершы разьдзелу "Залатое пахмельле" і некаторыя раньняе пары праходзіць чарада такіх вясковых дзяўчат, якія то дораць лірычнаму гэрою асалоду бязьмежнае ласкі, галубячыся пад шатамі шыракалістых дуброваў, то сумуюць горка пакінутай сіратой ды адно ўздыхаюць аб нібыта навек страчаным. А малюнкі вясковага каханьня тут недалёкія ад фальклёрнае паэтызацыі чараў раньняга блуду:

*Варкавалі вусны,*
*Варкавалі ў млявым полі.*
*Часта мы блудзілі,*
*Часта мы ўсю ног ня спалі.*
*Я галубіў шгыра,*
*Я галубіў кары вогы.*
*Не забыць ніколі,*
*Не забыць сьлязін дзявогых.*
*Мне здаецца, багу,*
*Мне здаецца, яны ў шуме.*
*Іх штодзень у думках,*
*Іх штодзень ў душы нашу я.*
*Пакахаў увесну,*
*Пакахаў пад шопат вецьця.*
*Раскахаю ўвосень,*
*Раскахаю у надсьвецьце.*
*Стану вольным птахам,*
*Стану вольным сваім духам.*
*Што было, ня будзе,*
*Што было, названь патухне.* 30)

Гэтак сам паэта сьцьвярджаў нясур'ёзнасьць апісаных у вершах пачуцьцяў. Растаньне ўвосень пасьля летняга росквіту каханьня атоесамліваецца з здабыцьцём свабоды, а тым самым і само каханьне становіцца роўным адно чарговым прыгодам ужо гарадзкога Дон-Жуана, што на вёсцы шукае адно часовае ўцехі, а пасьля прыгодаў пакідае адно тых "сірат-пакутніц", што блукаюць па дубровах вершаў. Ды нават і гэты вобраз мае ў сабе больш ад літаратурна - фальклёрнага, насьледаваньня чымся ад канкрэтнага жыцьця. Аб гэтым сьведчыць хоць бы сабе і тое, што калі паэта выходзіць з больш канкрэтнага жыцьцёвага вобразу рэальнай дзяўчыны і пачынае сьпяваць аб пачуцьцях каханьня, што па-сапраўднаму агарнула сэрца лірычнага гэроя, вершы набываюць больш Пушчавага стылю і калярыта, пачына-

юць гучаць больш самабытна і па-мастацку больш пераканальнымі. Варта згадаць вершы пад назовам "Я стаю пахіліўшы чало", што таксама ўвайшлі ў "Дні вясны". Тут прабуджанае да дзяўчыны пачуцьцё каханьня загаварыла ўжо больш сваімі словамі і нават вобраз дзяўчыны ўпяршыню набывае канкрэтнае імя Стасі, да якое паэта і зьвяртаецца з прачулымі словамі любасьці і пяшчоты:

*А што далей... у.ветра спытайся.*
*Пакахаў, як ніхто, пакахаў.*
*Ой, ты Стася, смуглявая Стася,*
*Ўзгадаваў цябе Слуггыны гай!* 31)

Само ўзьнікненьне шчырага пачуцьця ў сэрцах тут тлумачыцца паэтаю патрэбаю падзяліць самотнасьць, у якой узрасталі абодвы каханкі:

*Вось кахаю цябе мо за тое,*
*Што і сам я ў самоце узрос.* 32)

А само пачуцьцё ўжо знаходзіць больш пяшчотных слоў з натуры духовага ўздыму і куды меньш увагі аддаецца натуралістычнаму адтварэньню пачуцьцёвага жару, на якім канцэнтравалася ўвага ранейшых вершаў. Каханьне абуджае тут і здольнасьць эстэтычнага ўспрыйманьня прыроды, як акампанементу таго, што адбываецца ў душы чалавека:

*Мне расслухаць хацелася ў шуме,*
*Аб гым ліст да ліста шапаціць.* 33)

Малады чытач падзяляў з паэтаю такія настроі першага каханьня і перад такім апафэозам гэтага пачуцьця "стаяў пахіліўшы чало". Схіленьне перад высокім і чыстым пачуцьцём выяўлялася ў паўторным і неаднаразовым вымаўляньні чытачом уступных радкоў разгляданага цыклю вершаў:

*Каханьне, залатое каханьне,*
*Я стаю пахіліўшы гало!* 34)

Прынамсі я быў адным з гэтакіх чытачоў, калі знаходзіў у гэтых вершах жывую і гэтак патрэбную маладому чалавеку еміну для здавальненьня раньніх духовых пошукаў і слоўнага афармленьня таго першага смутку прабуджанага каханьнем сэрца, што заўсёды поўнілася новымі пачуцьцямі і шукала выйсьця калі ні ў рэальным рэчышчы дачыненьняў з дзяўчынай-абраньніцай сэрца, дык прынамся ў гэткім прыгожым дапаўненьні да рэальнага жыцьця, ейнай украсе і аздобе — паэзіі сьветлых пачуцьцяў і мараў, лірыцы заўсёды шуканага сьвету ўзьнёслае рамантыкі і красы маладосьці.

*(Працяг будзе).*

**БІБЛІЯГРАФІЧНЫЯ ЗАЦЕМКІ**


1.) Н. Чарнушэвіч — **Дзіва.** Вершы. Бел. Дзярж. Выдавецтва. Менск, 1927 г., бал. 67.
2. Уладзімер Дубоўка — *Credo.* Зборнік вершаў. Бел. Дзярж. В-ва. Менск, 1926. Цытую па другому выданьню супалкі "Ускалось" на чужыне, 1949 г., б. 20.
3.) Язэп Пушча — **Раніца рыкае.** Выданьне "Маладняка". Менск, 1925 г. Цытую па кнізе: Язэп Пушча. **Вершы і паэмы.** Дзярж. выд-ва БССР, Менск, 1960 г., б. 15.
4) **Вершы і паэмы...,** б. 18.
5) Там-жа, б. 20.
6) Там-жа б. 22.
7) Там-жа, б. 25.
8) Язэп Пушча — **Дні вясны.** Поэзіі. Бел. Дзярж. В-ва. Менск, 1927 г., б. 3.
9) Там-жа, б. 22
10) Там-жа, б. 8.
11) Там-жа, б. 9.
12) Там-жа, б. 13.
13) Там-жа, б. 31.
14) Там-жа, б. 32.
15) Там-жа, б. 31.
16) Там-жа, б. 15.
17) Там-жа, б. 16.
18) Там-жа, б. 24.
19) Там-жа, б. 37.
20) Там-жа, б. 41.
21) Там-жа, б. 39-40.
22) Там-жа, б. 47-48.
23) Там-жа, б. 57.
24) Там-жа, б. 58.
25) Там-жа, б. 61.
26) Там-жа, б. 62-63.
27) Там-жа, б. 65.
28) Там-жа, б. 69-70.
29) Глядзіце: Валеры Маракоў: "Пялёсткі" (1926), "На залатым пакосе" (1927), "Вяршыні жаданьняў" (1930).
30) Язэп Пушча — **Дні вясны.** Поэзіі. Бел. Дзярж. В-ва, Менск, 1927 г., б. 74-75.
31) Там-жа, б. 78-79.
32) Там-жа, б. 79
33) Там-жа, б. 78.
34) Там-жа, б. 77.


  



# Мастацкая выстаўка



На здымку: ⇨
Агульны выгляд будынка Беларускага Грамадзкага Цэнтра ў Саўт Рывэр'ы, (Н. Дж.), дзе адбывалася выстаўка.

На здымках ніжэй: ⇩
Фрагмэнты выстаўкі.





Культурна-Мастацкае Згуртаваньне пры Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт Рывэр'ы, Н. Дж., ладзіла ў залі Цэнтру ад 17-а сакавіка да 16-а красавіка 1974 г. мастацкую выстаўку. У ёй прымалі ўдзел наступныя мастакі з Саўт Рывэр'у і ваколіцаў (па воле альфабэту): Аргасінскі Е. (Нью Ёрк), Барысавец Кс. (Саўт Рывэр), Боўбель С. (Нью Брансьвік), Галіна Р. (Самэрсэт), Каліноўская-Даніловіч Л. (цяпер нябожчыца), Людміла К. М. (Джэмсбург), Махнюк Алег (Джэмсбург),, Надзя К. (Самэрсэт), Нядзьвецкі П. (Іст Брансьвік), Рагалевіч І. (Нью Брансьвік) і Тумаш Кс. (Нью Ёрк).

З вялікай цікавасьцю аглядалі наведвальнікі й работы дзяцей. Акрамя гэтага, на выстаўцы былі паказаны: скульптура жанчыны (з дрэва) і мадэлі хатніх і гаспадарчых прыладаў беларускага селяніна, зробленыя з дрэва А. Махнюком, а таксама і тканіны і вышыўка беларускіх жанчын-умельцаў.

Шкада, што час і месца не дазваляюць нам зрабіць больш падрабязны агляд выстаўкі. Але мы спадзяёмся, што ў наступным нумары зможам зьмясьціць водгукі на выстаўку і наведвальнікаў, і, можа, крытычныя заўвагі аб ёй.

# Сьвяткаваньне 56-ых угодкаў 25-га Сакавіка

Сёлетнія — 56-ыя — угодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі Актам 25-га Сакавіка 1918 г., як і ў папярэднія гады, беларусы ў Вольным Сьвеце, дзе ёсьць з'арганізаваня групы беларускае эміграцыі, усюды: у ЗША, Канадзе, Ангельшчыне, Аўстраліі й інш., адзначылі вельмі ўрачыста.

Для ўшанаваньня гэтае знамянальнае падзеі ў гісторыі Беларусі, сьвяткавальныя акадэміі, на якіх беларуская палітычная эміграцыя задэманстравала сваю адданасьць нацыянальнай ідэі, выказанай Актам 25 Сакавіка, і непахісную волю працаваць і змагацца за ейнае ўжыцьцяўленьне, найшырэйшы размах прынялі ў ЗША.

### У КАНГРЭСЕ ЗША

Шэраг сэнатараў і кангрэсмэнаў выступілі ў Кангрэсе ЗША з заявамі пра ўгодкі незалежнасьці Беларусі й змаганьне беларускага народу за нацыянальную свабоду й дэмакратыю. Іхнія прозьвішчы і прамовы мы не падаём, бо яны зьмешчаны ў „Запісах Кангрэсу" („Кангрэшэнал Рэкорд").

### ПРАКЛЯМАЦЫІ ГУБЭРНАТАРАЎ І МЭРАЎ.

З нагоды 56-х угодкаў Акту 25 Сакавіка 1918 г., губэрнатары штатаў Нью Ёрк, Нью Джэрзі, Канэктыкат, Агаё, Мічыган, Іліной, Каліфорнія і Мэйн, выдаючы адмысловыя праклямацыі, абвясьцілі дзень 25 сакавіка 1974 г. Днём Незалежнасьці Беларусі.

Акрамя гэтага, мэры некаторых гарадоў ЗША, у якіх жывуць значныя групы беларусаў, зрабілі тое-ж самае ў сваіх гарадох. На ратушах гэтых гарадоў 25 сакавіка, побач з амэрыканскім сьцягам, папявалі і беларускі — бел-чырвона-белы.

### У САЎТ РЫВЭРЫ, Н. Дж.

Да сьвяткаваньня 56-х угодкаў Акту 25 Сакавіка, беларуская калёнія Саўт Рывэру і ваколіцаў падрыхтавалася загадзе. У адпаведным часе, адмысловая дэлегацыя наведала губэрнатара штату Н. Дж. Брэндана Т. Бэрна. У прысутнасьці дэлегацыі, губэрнатар падпісаў і перадаў ёй праклямацыю, якою дзень 25 сакавіка 1974 г. абвясьціў Днём Незалежнасьці Беларусі ў штаце.

Само сьвяткаваньне адбылося ў нядзелю 24 сакавіка. Пачалося яно набажэнствам у царкве сьв. Еўфрасіньні Полацкае а 10-ай гадз. раніцы.

Урачыстая акадэмія адбылася папаўдні ў залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру. Кіраваў ею сп. інж. М. Бахар.

Пасьля адсьпяваньня сп-няй Л. Махнюк Амэрыканскага Нацыянальнага Гімну і ўступнага слова сп. М. Бахара, рэфэраты на тэму дня прачыталі: паангельску — (вельмі добра апрацаваны і прачытаны) — сп. А. Орса, студэнт Ратгэрскага унівэрсытэту, а пабеларуску — сп. А. Даніловіч.



Узьняцьцё беларускага сьцягу перад ратушай у Саўт Рывэры 25 сакавіка 1974 г.

Прысутныя (зьлева направа): Н. Хмура, М. Сенька, Н. Яцэвіч, Г. Манцывода, маёр В. Кулік, В. Мяжэвіч, М. Манцывода, І. Наумчык, Я. Цыган і В. Цярпіцкі.

Потым былі прачытаны праклямацыі: губэрнатара шт. Нью Джэрзі сп. Брэндана Т. Бэрна і мэра гор. Саўт Рывэр сп. Куліка, а таксама прадстаўлены прысутныя госьці — прадстаўнікі і іншых нацыянальнасьцяў. З прысутных гасьцей, з прывітальнымі прамовамі выступалі: асэмблімэн Дж. Отлоўскі, асэмблімэн Джэймс Боругаймэр, др. Іван Дочэфф — старшыня Балгарскага Нацыянальнага Фронту і старшыня Амэрык. Прыхільнікаў АБН, Гайду Нэмэц — старшыня Унгарскай Фэдэрацыі і інш. Былі прачытаны і прывітальныя тэлеграмы ад ар-





Беларуская дэлегацыя ў Губэрнатара штату Нью Джэрзі Брэндана Т. Бэрна (у першым радзе ў цэнтры), прысутнічае пры падпісаньні Губэрнатарам Праклямацыі дня 25 сакавіка 1974 г. Днём Незалежнасьці Беларусі. Паабапал Губэрнатара сядзяць а. протапр. М. Лапіцкі і матушка В. Лапіцкая. Стаяць за імі (зь лева на права): Ю. Арцішэнка, Н. Вайцэхоўскі, І. Занкавіч, Г. Арцішэнка, Н. Яцэвіч, В. Мяжэвіч і асэмблімэн Фраўд.

ганізацыяў і паасобных дзеячаў.

Мастацкая частка складалася з дэклямацыяў, танцаў і выступленьня хору "Каліна".

Вершы дэклямавалі вучаніцы парахвіяльнай школкі: Галіна Бахар, Ліля Касьцюк, Ната Хмура, Галіна Манцывода, Каця Гайшун і Лена Гайшун. А сп-ня Жэня Цярпіцкая зьдзівіла прысутных: яна прачытала напамяць увесь першы разьдзел паэмы Якуба Коласа "Новая Зямля" — "Лясьнікова пасада".

Вучні-ж парахв. школкі Г. Бахар, Л. Касьцюк, Н. Хмура, Г. Манцывода, К. Гайшун, Альжб. Наумчык і Ж. Занкавіч пратанцавалі ў 4 пары "Бульбу" і "Крыжачок", а Дэбі Наумчык, Л. Арцішэнка, Нона і Лена Занкавічы — "Полька Янку" (у 2 пары). Падрыхтавала танцы і кіравала імі сп-ня Віла Ляўчук.

Жаночы хор "Каліна", пад кіраўніцтвам камп. Кс. Барысаўца, як і заўсёды, зачараваў прысутных сваім выступленьнем. Ён праспяваў 6 песьняў: "25 Сакавік" (муз. Кс. Барысаўца, сл. Я. Золака), "Лясная песьня" (муз. В. Алоўнікава, сл. А. Русака, саліравала Л. Махнюк), "Васількі" (муз. Кс. Барысаўца, сл. Н.

*(Працяг на баг. 55)*



STATE OF NEW JERSEY
EXECUTIVE DEPARTMENT

*Proclamation*

WHEREAS, Americans of Byelorussian descent, as well as Byelorussians in countries throughout the free world annually observe the anniversary of Byelorussian National Republic; and

WHEREAS, patriotic Byelorussians fought bravely against overwhelming forces in defense of the freedom of their homeland; and

WHEREAS, despite domination by conquering forces of communism, resistance of the Byelorussian people has never ceased; and

WHEREAS, this resistance, love of freedom and democracy and struggle for self-determination has served as inspiration to freedom loving people everywhere for decades, and

WHEREAS, the Byelorussian peoples, subjected to national persecution, social oppresion and economic exploitation, continue to seek independence and liberation from Soviet domination; and

WHEREAS, Byelorussians this year will mark the 56th Anniverary of the declaration of its National Assembly of a free and independent republic;

NOW, THEREFORE, I, BRENDAN BYRNE, Governor of the State of New Jersey, do hereby proclaim

MARCH 25, 1974

as

BYELORUSSIAN INDEPENDENCE DAY IN NEW JERSEY

and recommend appropriate observance of this occasion.

GIVEN, under my hand and the Great Seal of the State of New Jersey, this twentieth day of March in the year of Our Lord one thousand nine hundred and seventy-four and in the Independence of the United States, the one hundred and ninety-eighth.

Brendan Byrne
GOVERNOR

BY THE GOVERNOR:
J. Edward Crabiel
SECRETARY OF STATE

**Праклямацыя, выданая губэрнатарам штату Нью Джэрзі.**





# ХРОНІКА

**Ад Рэдакцыі.** У разьдзеле **"Хроніка"** нам хочацца як найпаўней паказаць жыцьцё і дзейнасьць беларускай эміграцыі ў Вольным Сьвеце. Таму мы просім усе беларускія арганізацыі й паасобных беларусаў дасылаць нам весткі аб жыцьці і дзейнасьці як арганізацыяў, так і паасобных беларусаў.

### ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАЦЫЯЎ

**Нью Ёрк, 15 ліпеня 1973 г.** Тыдзень паняволеных нацыяў быў адзначаны ў катэдры сьв. Патрыка Божай службай з удзелам кардынала Кука. Пасьля гэтага адбылася дэманстрацыя па 5-ым авэню і ў Цэнтральным парку. Ад беларусаў у ўрачыстасьцях удзельнічалі: Беларускі Кангрэсавы Камітэт, БАЗА, вэтэраны і арганізацыі моладзі.

**Чыкага, 21 ліпеня.** Арганізацыі паняволеных народаў вельмі ўрачыста адзначылі Тыдзень Паняволеных Нацыяў. Падчас дэманстрацыяў прыемна выдзялялася беларуская калёна, у якой прымалі ўдзел: Беларуская Нацыянальная Рада, Беларуска-Амэрыканская Моладзь, Каардынацыйны Камітэт і Згуртаваньне Беларусаў Штату Іліной.

**53-ія УГОДКІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ** былі вельмі ўрачыста адзначаны ўва ўсіх беларускіх асяродках у вольным сьвеце.

**25 лістапада. Саўт Рывэр, Нью Джэрзі.** Стараньнямі арганізацыі Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў была адслужана паніхіда па загінуўшых гэроях у царкве сьв. Еўфрасіньні Полацкай. Паніхіду адслужыў а. протопр. **Н. Лапіцкі** ў саслужэньні а. архімандр. **Язэпа** і протодз. **Алега**- Маліцьвенна сьпяваў царкоўны хор пад кіраўніцтвам камп. **Д. Верасава.** Урачыстая акадэмія адбылася ў залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру ў Саўт Рывэры. Прысутныя ўважна праслухалі зьмястоўны рэфэрат аб Слуцкім паўстаньні, які прачытаў сп. **А. Даніловіч**; дэклямацыі вучняў парахвіяльнае школы і добра арганізаваны канцэрт вэтэранскага хору пад кір. камп. **Ю. Рымко.**

**Нью Ёрк. 2 сьнежня 1973 г.** адбылося ўрачыстае сьвяткаваньне 53 угодкаў Слуцкага Паўстаньня, у новым Беларускім Грамадзкім Цэнтры у Рычманд Гіл, ладжанае Нью Ёрскім аддзелам Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў. Пасьля сьв. літургіі і паніхіды, была ўрачыстая акадэмія, на якой зьмястоўны даклад меў а. прот. **Коўш.**

**18 лістапада. Таронта, Канада.** Урачыстую акадэмію, прысьвечанную Слуцкім Героям, ладзіла Беларускае Нацыянальнае Аб'еднаньне. Акадэмію адчыніў і вёў сп. **Я. Пітушка.** Даклад аб Слуцкім Паўстаньні прачытаў сп. **Р. Беразоўскі.** Урачыстасьць закончылася сьціплым канцэртам хору і дэклямацыямі патрыятычных вершаў пад кір. а. **П. Вялікага.**

**22 сьнежня, Саўт Рывэр, Нью Джэрзі.** Культурна-мастацкі аддзел пры Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт Рывэры арганізаваў два вельмі цікавыя даклады: **Алеся Вожыка,** навейшага эмігранта з Беларусі — "Жыцьцё ў сучаснай Беларусі" і др. **Ст. Станкевіча,** гал. рэдактара газэты "Беларус" на тэму: "35 угодкі Крывавых Сталінскіх пагромаў на Беларусі." Прысутныя вельмі ўважна праслухалі даклады, задавалі шматлікія пытаньні, на якія атрымалі вычэрпваючыя адказы. Пасьля дакладаў экспромтам выступіў хор Беларускіх Вэтэранаў пад кір. сп. **Ю. Рымко,** які ў знак ушанаваньня памяці ахвяраў сталінскага тэрору прапяяў некалькі патрыятычных беларускіх песьняў. Вечар закончыўся супольным сяброўскім пачастункам у сапраўды мілай атмасфэры, які пераплятаўся песьнямі, а таксама прамовамі др. **Ст. Станкевіча** і старшыні Гр. Цэнтру **Б. Шчорса.**

**31 сьнежня 1973 г.** Адміністрацыя Бел. Гр. Цэнтру у Саўт Рывэры ладзіла Сустрэчу Новага 1974 году. Чысты даход з імпрэзы ў суме 1500 дал. быў размеркаваны наступна: 500 дал. — на сплату даўга па будове царквы і Гр. Цэнтру, 500 дал. — на пабудову памятніка Беларускім Героям, загінуўшым за Бацькаўшчыну, які будзе пастаўлены на прыгатаваным ужо Кургане пры Бел. Гр. Цэнтры у Саўт Рывэры і 500 дал. — на бібліятэку пры Бел. Цэнтры.

**Нью Ёрк.** Ад 15 сьнежня да 27 лютага 1974 г. у Гарадзкой Публічнай Бібліятэцы г. Нью Ёрку, славянскім аддзелам бібліятэкі была арганізавана вельмі цікавая выстаўка на тэму з гісторыі Беларусі, прысьвечаная статутам Вялікага Княства Літоўскага ў выданьнях 1529, 1566 і 1588 гадоў і друкарні дому Мамонічаў у Вільні. Выстаўку арганізаваў д-р **В. Кіпель** пры дапамозе д-ра **В. Карэсара,** д-ра **Д. Міша,** сп. **Д. Лая,** сп. **Ц. Хогана** і сп-ні **З. Кіпель.**

Зацікаўленьне выстаўкай было вялікае, аб чым сьведчыць час яе існаваньня, лік наведвальнікаў і дадатнія водгукі ў прэсе.

**13 студзеня 1974 г.** Царкоўныя Камітэты цэркваў сьв. Еўфрасіньні ў Саўт Рывэры і сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіл, Нью Ёрк, супольна ладзілі ў Бел. Гр. Цэнтры ў Саўт Рывэры спатканьне Новага 1974 году па старому стылю. Чысты даход з гэтае імпрэзы (каля 1500 дал.) прызначаны на выканчэньне пабудовы новай царквы сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіл. Урачыстасьць правёў сп. **К. Мерляк.** Прамаўлялі: настаяцель царквы ў Рычманд Гіл а. прот. **С. Коўш** і ад Саўт Рывэра — сп. **Б. Шчорс.**

**9 лютага 1974 г.** У Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт Рывэры, Беларускі Дэмакратычны Клюб (старшыня — **В. Мяжэвіч**) ладзіў забаву з вячэрай, якая прайшла ўдала. Прысутнічала шмат гасьцей, як: кангрэсмэны з

Трэнтону, мэр і радныя з Саўт Рывэра. Прыемна грала аркестра сп. **А. Альхоўскага** з удзелам пявіцы сп-ні **Альхоўскай,** з Трэнтону.

**Бліны.** 16 лютага 1974 г арганізацыя Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў, аддзел у Саўт Рывэры (старш. **М. Манцывода**) ладзіў у залі Бел. Грамадз. Цэнтру вечарыну "запускі" з блінамі і верашчакай. Грала бел. аркестра **Я. Жыдовіча.** Прыбытак (каля 300 дал.) прызначаны на пабудову помніка Беларускім Героям.

**Вашынгтон, 19 лютага.** У Белым Доме адбылася палітычная канферэнцыя і прыняцьцё ў Прэзыдэнта ЗША сп. **Ніксана,** ладжанае для прадстаўнікоў розных нацыянальнасьцяў Амэрыкі. Прысутнічала больш сотні прадстаўнікоў. Ад беларусаў прысутнічалі: д-р **Ст. Станкевіч** — Галоўны Рэдактар газэты "Беларус" і д-р **В. Кіпель** — Галоўны Рэдактар газэты "Heritage Review; — органа рэспубліканцаў нацыянальных групаў у штаце Нью Джэрзі.

Беларускім прадстаўнікам была добрая нагода гутарыць з **Прэзыдэнтам Ніксанам, ягонымі дарадчыкамі й іншымі** рэспубліканскімі лідэрамі адносна праблемаў беларускае эміграцыі ў ЗША.

Прэзыдэнт **Ніксан** зьвярнуўся да гасьцей з даўжэйшай прамовай, у якой заклікаў да супрацоўнцтва з урадам і з націскам зазначаў, што такое супрацоўніцтва ёсьць вельмі пажаданым і патрэбным у амэрыканскім палітычным жыцьці, што "Амэрыка нясла, нясе і будзе несьці ў будучыні сымбаль волі і справядлівасьці ўсім народам сьвету".

**23 лютага 1974 г.** Аб'еднаны Камітэт Бел.-Амэр. Моладзі (старш. **А.Лысюк)** ладзіў у Бел. Гр. Цэнтры ў Саўт Рывэры вячэру-запускі з танцамі. Прыбытак (у суме каля 500 дал.) прызначаны на патрэбы беларускіх маладзежных арганізацыяў у Саўт Рывэры і ў Нью Брансвіку.

На вечарыне былі ўручаны ўзнагароды па розыгрышу валейбольнага турніру, у якім прымалі ўдзел 4 беларускія валейбольныя дружыны з Нью Ёрку, Огаё і Нью Джэрзі. Першае мейсца сярод іх заняла Саўт Рывэрская валейбольная каманда пад кір. кап. **Ю. Арцюшэнкі.**

Ад дня 8 да 11 кастрычніка 1974 г. у Вашынгтоне адбылася 7-я Канфэрэнцыя Сусьветнай Анта-Камуністычнай Лігі. Прадбачацца каля 600 дэлегатаў з шматлікіх краінаў усяго сьвету. Ад Беларускага Вызвольнага фронту на гэту Канфэрэнцыю прызначаныя дэлегатамі: інж. **І. Касяк,** др. **В. Кіпель,** др. **А. Плескачэўскі** і сп. **Я. Шымчык.** Праект рэзалюцыі па беларускай справе высланы Арганізацыйнай Камісіі.

**ЛЮЦЭРН — ШВАЙЦАРЫЯ.** 1-3 сакавіка 1974 г. адбылася Эўрапейская Канфэрэнцыя Правоў Чалавека і Самавызначэньня ў якой прыняло ўдзел каля 200 дэлегатаў із Заходняй Эўропы і прадстаўнікоў паневоленых Масквою народаў — беларусы, украінцы, Грузіны, балты, румыны, баўгары, мадзяры, чэхі, палякі, расейцы і іншыя.

Вельмі цікавым было выстаўленьне расейца **Д. Паніна,** навейшага эмігранта, які сумесна з ведамым пісьменьнікам **А. Салжаніцыным** быў палітвязьнем у савецкіх канцэнтрацыйных лагерох. Ён вельмі востра выступаў супроць савецкай сыстэмы, расейскага шавінізму і імпэралізму.

Ад беларусоў з вялікай і зьмястоўнай прамовай выступіў п/палк. **Д. Касмовіч.** Пасьля ён правёў шырокую, канструктыўна-асьведамляючую і інфармацыйную працу із прадстаўнікамі Заходняй Эўропы і паняволеных народаў, якія вельмі пазытыўна ставіліся да беларускай вызвольнай справы.

**ПАРЫЖ — ФРАНЦЫЯ.** 9 і 10 сакавіка 1974 г. адбылася канфэрэнцыя Экзэкутывы Эўрапейскай Рады Свабоды, актыўным і раўнапраўным сябрам якой зьяўляецца Беларусь і рэпрэзэнтуецца Беларускім Вызвольным Фронтам. Палкоўнік **Д. Касмовіч,** галоўны старшыня БВФ прынімаў актыўны ўдзел у працах гэтай канфэрэнцыі. Падчас нарадаў шырока дыскутавалася і абгаварвалася шмат актуальных пытаньняў як: Кафэрэнцыя ВАКЛ у Вашынгтоне, чарговая нарада ЭРС у сувязі з Эўрапейскай Канфэрэнцыяй Бясьпекі і Супрацоўніцтва, Мэмарандум ЭРС да заходніх міністраў і да УНО у справе правоў чалавека і нацыяў у СССР, і становішча ЭРС да сучасных перагавораў Захаду із Масквою ў Вене, Жэневе і Гельсінкі аб мірным сужыцьці і супрацоўніцтва з Масквою.

## З ВЫДАВЕЦКАЕ НІВЫ

**Ад рэдакцыі.** У мінулым нумары нашага часапісу мы зьмясьцілі водгук сп. Л. Галяка ("Жменька зацемак") на кнігу Ів. Любачкі "Byelorussia under Soviet Rule, 1917-1957".

Цяпер мы перадрукоўваем кароткія водгукі на гэтую кнігу некаторых паважных англамоўных выданьняў.

LIBRARY OF CONGRESS Dec., 1972
*CHOICE Dec. '72 History, Geography* N *Travel Europe.*

LUBACHKO, Ivan S. Belorussia under Soviet rule, 1917-1957. Kentucky 1972. 219p tab map bibl 79-160047. 10.00 ISBN 0-8131-1263-4.

As far as it could be determined, this is the first historical/political survey of Belorussia available in English. Lubachko places Belorussia within the international political context and retells the domesstic vicissitudes of the Belorussians since the 1917 Revolution. If the nationality questions of Eastern Europe are of interest, as the events within the Soviet sphere indicate that they are, *this is important book that all public and college libraries shoud have.* Although Belorussia is one of the Soviet Republics, far too little has been known about it and this book only partially remedies this void. Although on the whole the book is written with a Belorussian seperatist emphasis, one wishes that the author had gone more deeply into the separatist ideology and explored more deeply the moods and strivings of the Belorussians today. *The book has a full scholaly apparatus.* 17 graphs, and eight maps.

LIBRARY JOURNAL Sept. 1, 1972

LUBACHKO, Ivan S. *Belorussa Under Soviet Rule.* 1917-1957. 219p. maps bibliog. index. Univ. Pr. of Kentucky. 1972. $10 ISBN 0-8131-1263-4. LC 79-160047. HIST.

Belorussia has never been able to escape one overwhelming liability, which Lubachko clearly states in the opening sentence of Chapter 3: "Belorussia, because of its geographic position, has for many centuries been an area of political, national, religious and cultural struggle..." The author might only have added military struggle to complete the misfortunes of a small people sandwiched between larger and greedier neighbors. This book introduces a little known subject in the West, but it is unlikely to be read by any other than those with a professional or personal interest in the subject. The concluding sentence on "the two different factions in the CPSU" is perhaps a little premature. — *Robert H. Johnston, Department of History, McMaster University, Hamilton, Canada.*

# Новыя выданьні

У 1973 годзе на эміграцыі выйшлі наступныя беларускія кніжкі:

1. **А. Саковіч — БРАТЫ.** Аповесьць. Выдана ў беларускай друкарні ЗБ-АДК у Саўт Рывэры, Н. Дж. Цана кніжкі — 1.50 дал. з перасылкаю. Выпісваць можна з Рэдакцыі нашага часапіса.

2. **Вінцук Адважны** выдаў у Лёндане (Ангельшчына) у 2-х частках **"БАЙКІ"** і іншыя вершы (353 старонкі друку). Выпісваць — з рэдакцыі часапісу "Божым Шляхам" (Лёндан), або і праз Рэдакцыю "Б.Д." (цана нам ня ведамая).

3. У выдавецтве **"Пагоня"** (Таронта, Канада) пісьменьнікам **К. Акулай** выдана 2-ая кніга рамана **"Гараватка" — "Закрываўленае Сонца".** Выпісваць — ад выдавецтва "Пагоня" або і праз нашу Рэдакцыю (цана нам, пакуль што, невядомая).

4. Д-р **Я. Запруднік** выдаў па-ангельску два нумары бюлетэня **"Факты пра Беларусь". №8** — прысьвечаны пытаньню рэлігіі й атэізму на Беларусі, **№9** — літаратуры, мове і адукацыі; у гэтым нумары надрукаваны артыкул д-ра **С. Станкевіча "Маладыя паэты Беларусі".** Цана аднаго нумара — 50 цэнтаў. Выпісваць — **па адрасу:**

Dr. Jan Zaprudnik
Queens College, Room A III A,
Flushing, N.Y. 11367,

"Беларуская Думка" вітае аўтараў з іх выданьнямі і жадаем ім пленнай працы і далейшых посьпехаў.

У разьдзеле "З выдавецкай нівы" мы з прыемнасьцю зьмесьцім паведамленьне аб кожным новым выданьні, калі Выдавецтва ці Аўтар паведамяць нас аб гэтым і прышлюць на адрас рэдактара хоць адзін паасобнік.

## НАШ ФОНД

На выданьне двух папярэдніх нумароў (14 і 15) часапісу "Беларуская Думка" атрыманы ахвяраваньні ад наступных асобаў (у далярах):

| | |
|---|---|
| 1. Mr. Ken Worth | 20.00 |
| 2. Сп. Л. Савёнак | 18,25 |
| 3. Сп-ня М. Кіпель | 40.00 |
| 4. Сп. М. Палюховіч | 15.00 |
| 5. Др. А. Багдановіч | 5.00 |
| 6. Сп. К. Варабей | 5.00 |
| 7. Сп. Н. Латушкін | 10.00 |
| 8. Сп. С. Грамыка | 15.00 |
| 9. Сп-ня О. Арэхва | 5.00 |
| 10. Сп. Г. Арцішэнка | 10.00 |
| 11. Сп. Ф. Шыбут | 10.00 |
| 12. Сп. М. Сенька | 10.00 |
| 13. Сп. М. Міцкевіч | 10.00 |
| 14. а. Я. Пятроўскі | 10.00 |
| 15. Сп. М. Тулейка | 5.00 |
| 16. Сп. П. Кужура | 10.00 |
| 17. Сп. Э. Ясюк | 10.00 |
| 18. Сп. А. Банкет | 5.00 |
| 19. Сп. Б. Даніловіч | 5.00 |
| 20. Сп. Ул. Брылеўскі | 50.00 |
| 21. Сп. Ул. Лазарэвіч | 5.00 |
| 22. Сп. Б. Шчорс | 245.00 |
| 23. З Аўстраліі | 56.57 |
| 24. З Нямеччыны | 20.00 |
| 25. Ад продажу | 86.50 |
| **Разам** | **680.82** |

(Працяг будзе)

**Увага.** Ахвяраваньні на суму менш $5.00 уключаны ў рубрыку "Ад продажу".

**Выдавецтва.**



# АСОТ

НЕПЭРЫЯДЫЧНЫЯ
САТЫРЫКА-ГУМАРЫСТЫЧНЫЯ
ЛІСТКІ — КАЛЮЧКІ
НА ШКАДЛІВЫЯ РУЧКІ

## ГІЦАЛЬ У СТАЛІЦЫ

**(Нібы фэльетон)**

Пастараўся, бач, Уладзік,
Заслужыў на "прамінадзік"
У сталіцы...

Гіцаль.

Праўда, з кветкамі, аркестрай
Не спаткалі экстра.

Ледзь ня бухнуў на калені,
Як убачыў тыя "цені":
Кагэбэшнікаў з "Радзімы",
Зьвераватых, хоць і ў грыме.

Ў грудзях сьціснула яму:
Ўспомніў раптам Калыму —
Звон кайла, "манашкі",
Самавольства "брашкі".

Цені хісткія людзей...

І ня мог болей глядзець
Тым "радзімчыкам" у вочы.

Як прыбіты, крочыў.

Калаціўся, як асіна:
— Ня дай, Бог, спаткаць Каліну...

**

Каля помніка Купалу
Супакоіўся памалу.

Паказалася на міць:
Ня Купала — ён стаіць.

"Хто там брэша ў нейкім вершы?...
Не чацьвёрты я, а першы.

Я і ў бронзе, і ў граніце.
Мая слава — у зэніце..."

Усьміхнуўся ён уцешна.

З няпрыемнасьці Купала
Ледзь ня скочыў з п'едэстала:

Ня любіў паэт вялікі
Духу ўроджаных калекаў.

**

Як вазілі ў Маскву,
Ў Ленінград вазілі, —
Шкода мучыць галаву
Для такіх ідылій.

Пра Хатынскія званы
Не сказаць іскрыста.
Што напомнілі яны
Слуцка бургамістру?

Каб ня ведалі вякі,
Каб ня дрэнчыць масы,
Мы прыкусім языкі
Да пары да часу.

**

"Сьняцца дні мне залатыя", —
Абсьвяціў піта.
— А чаго вам гэтак сьмешна? —
Нібы гром, пры ўсім народзе
Ашарашыў гід Уладзю.

"Мне здалося... Я прыпомніў,
Як я ледзь ня лёг пад помнік.

У тых Штатах, у праклятых,
Дзе я, раб, жыву,
На маю раз галаву
Бухнуў з цэментам мяшок...
Вось, і выскачыў сьмяшок.

Не падумайце, што я,
Мо Ракфэлеру сваяк.

Бацька мой цягнуў аброк...
Я — ад роду абібок...

Кагэбэшнікі — зірк, зірк.
— Ці то дурань, ці то бзік?



Эх, ты шэльма! Ці ня тыя,
Як за колас жыта,

За лупіну з бульбы ў концы
Бацьку мог прыкончыць?

Ці мо тыя, як у Слуцку
"Getrunken" палюдзку?

Сьні, браток, ды толькі помні:
І табе паставяць помнік.

На тым помніку умельцы
Выб'юць профіль, ды ня цельца,
А натуры:
"Тройчы шкура".

*Андрэй Камароўскі.*

## ЭПІГРАМЫ НА УЛ. КЛІШЭВІЧА

I

Зьмяніўшы тройчы "вехі,
Ён — "Голас'у"[1] падбрэхіч.

*З. Ажына*

II

Пакуль твая хвіліна, —
З табой гаворка ветлая.
Ды ўсё-ж *Васіль Каліна*[2]
Замкне твой *Шлях у сьветлае*[3].

*К. Аса.*

1). "Голас" — "Голас Радзімы" — КГБэўская газэтка для беларусаў-эмігрантаў, у якой Ул. Клішэвіч друкуе свае вершы і зацемкі.

2). "Васіль Каліна" — антысавецкая паэма Ул. Клішэвіча, выдадзеная часапісам "Аб'еднаньне" ў Лёндане ў 1965 г.

3). "Шлях у сьветлае" — паэмка-агітка Ул. Клішэвіча, надрукаваная ў ягоным зборніку "Сняцца дні мне залатыя", выдадзеным газэткаю "Голас Радзімы", Менск, 1973 г.

## ВЫСКАЧКА

Ёсьць між намі тып такоўскі:
Канавал Піліп Харкоўскі.
Як пачне ён з кім размову,
Дык ня дасьць прыйсьці да слова.
Слухаць іншых ён ня хоча,
Толькі сам усё балбоча,
Як на току цецярук
Ці савецкі палітрук,
Бо такая ўжо натура,
Дый язык — як хвост авечы.

Каб вялікім стацца... гнюсам, —
Аж вылузваецца з скуры,
Ды паскудзіць беларусам:
Выдае пашквілік "Цеча".
А у гэтай бруднай "Цечы"
Мову матчыну калечыць.
"Я граматыкі ня ўчыўся,
А вось лаяць налаўчыўся", —
Так бяз глузду і развагі,
Ён "парыруе" заўвагі.
У пашквіліку заўзята
"Крые" ўсіх амаль што "матам":
Ўсе — зладзеі і фашысты,
Толькі ён (як сажа) чысты.
Лье на ўсіх памыі з цэбра.
...За чыю трыццатку срэбра?

*А. Здрок.*

## "ВОКІТОКІ"

Ёсьць такія штукі "вокітокі", радыё такое: можаш гутарыць з сябрам на невялікай адлеглсаьці, калі няма што рабіць, з жонкай, калі добра наглядзеўшыся ў чарку саромеешся глядзець ёй у злосныя вочы. Адным словам, штучка гэная карысная, але болей усяго карыстаюцца ею падросткі і паліцэйскія. Простыя сьмяротныя, асабліва старэйшыя жанчыны, любяць спаткацца і пагутарыць бяз усякіх "вокітокі". Вось хоць-бы Агата і Аўдоцьця, былыя дэпісткі, праправбылыя паляшучкі. Яны спаткаліся на авяню Белая Галава, у месьце Паўдзённая Рэчка, што недалёка ад Ню Ёрка. Пацікавіўшыся здароўем, хто на чарзе на покуць да Малішэўскага, пачалі зубаскаліць пра сваіх ёлапняў-сужэнцаў і затрымаліся на штучных зубах. Аўдоцьця пажалілася на свае новыя "брыджы": "Не ўдаліся. Запіхаю ў рот толькі тады, калі трэба на людзі паказацца." Агата пацікавілася, хто ўстаўляў. "Доктар Цыбульскі", — адказала Аўдоцьця. "Доктар Цыбульскі?" — перперапытала Агата і зрабіла вочы, як калёсы. — "Разяў рот, Аўдоцька! Хутчэй толькі!" Аўдоцьця доўга ня брыкалася і разявілася. Агата ўглядалася, ўглядалася ў рот Аўдоцьці ды як ускрыкне: "Блышчыць!.. Дальбожухна блышчыць!" Аўдоцьця ажно падскочыла ад нечаканасьці і сама з пераляку загаласіла: "Што блышчыць? Нічога ня можа блышчаць, бо мае зубы з пластыкі, а ня з золата." — Ведаю, ведаю, што ня з золата, але блышчыць, — перабіла яе Агата. — У цябе ў роце. Аўдоцька, цэлы Ватэргэйт..." Аўдоцьця схапілася рукою за сэрца, а пасьля абедзьвума за галаву і з мальбой у вачох уставілася ў вочы Агаты: "Што

гэта такое гэны Вадаргэйт?.. Рак можа?.. — I сьлёзы, як гарошыны, пасыпаліся з яе вачэй. Агата супакоіла: "Ніякі гэта ня рак, а машынаа такая, падобная на тую, што паліцаі маюць і "вокітокі" называецца. Толькі малюсенькая, прамалюсенькая, як макавае зярнятка, каб у зуб памясьцілася. Разумееш, Аўдоцька?" — Нічога я не разумею. Нічога," — замармытала Аўдоцьця. — "Зараз зразумееш. — I Агата пачала тлумачыць. — Доктар Цыбульскі выдумаў нейкую, як пісаў "Голас падваротні", што выдаецца ў Менску, цыбульную сацылізьму. А Масква ўжо даўно, як нас з табою ня было яшчэ на Палесьсі, выдумала сваю сацылізьму. Ад маскоўскай сацылізьмы мы ўцяклі ў Амэрыку, бо пры ёй ня было ні хлеба, ні цыбулі. Доктар Цыбульскі кажа, што пры яго сыцылізме хлеба таксама ня будзе, але цыбулі будзе, хоць расьпеtoday. А гэта вельмі не падабаецца Маскве, бо канкурэнцыя тут выходзіць не на яе карысьць. Вось і парашыла Масква даведацца, што думае доктар Цыбульскі прычапіць да свае сацылізмы яшчэ: моркаўку, ці рэпу? А для гэтага загадала сваім шпігуном у Амэрыцы дабыць гэты сакрэт за ўсялякую цану, нават, калі спатрэбіцца, і самога доктара украсьці, а не дык прыкакошыць...

"Хутка ты скончыш мне голаў дурыць, Агатка?" — Ня выцерпела Аўдоцьця.

"Ужо хутка, ня перабівай толькі! Хутка бльсьне." — Агатка перадыхнула і пачала закругляцца. — "Доктар Цыбульскі перапалохаўся не на жарт. З маскоўскімі шпігунамі справу мець, ня дай ты Божа нікому. Доктар Цыбульскі жаліцца ў сваім часапісе "Запечцы", што яго нехта падслухоўвае... Вядома-ж хто, — маскоўскія агенты. I, каб злавіць гэтых агентаў, шпігуноў гэтых, ён прыстроіў сабе ў зубах прымака, ці, як Ахрэм кажа, хаўронку нейкую... Адным словам, "вокітокі", а тым, хто прыходзіць да яго ўстаўляць зубы, прыстройвае перадатчык ад той хаўронкі. Вось і ў цябе бльшчыць... Усё, што мы з табой цяпер гаворым, ён чуе. Разумееш?" — "Разумею, Агатка, — адказала Аўдоцьця і перахрысьцілася. — Няхай ён сабе слухае, а мы з табой давай папросім Бога, каб Ён вярнуў доктару Цыбульскаму розум."

*Тарас Бебурнацкі*

ЭПІТАФІЯ
на надгробак „Веча"

„Пачынаючы із 1974 году часапіс 'Веча' будзіць выходзіць пад назвай 'ВЯЛІТВА—VJALITVA"

(Такая абвестка надрукавана на апошняй бачыне вокладкі „Веча", нум. 2(20) за 1973 г.)

Гніе тут збэшчанае „Веча" —
Пашквілік-паражнеча.
Але яго рэдактар,
Каб датрымаць характар, —
Сваю ня спыніць „бітву":
Ён збэсьціць і „Вялітву".

А. Здрок.

✤✤✤ ✤✤✤

КАЛАМБУРЫ

I. Стары Прахор Каліна
Чытаў пра хор „Каліна".

II. „А я ў зьвярынцы бачыў воўка!"—
Хваліўся дзецям хлопчык Воўка.
„Ня воўка бачыў ты, а ліса!"—
Пярэчыла хлапцу Аліса.
„А я там бачыла паўліна!" —
Уставіла й сваё Паўліна.

III. Валовая належыць пахвала
Таму, хто мае пах вала.

IV. Ня тры падэшвай гэтак, бо ты
Пратопчаш хутка свае боты.

V. Ня ведаў бедны наш Цімох,
Што на кары: лішай, ці мох?

VI. Каму закрыла сьмерць павекі,
Той не прачнецца ўжо па векі.

Янка Золак.





*(Працяг з баг. 47-ай)*

Арсеньневай), "Матуля мая" (муз. П. Майбарады, сл. А. Малышка ў перакладзе М. Аўрамчыка; саліравала Р. Касьцюк), "Дзед і баба" (народная, аранжыроўка Г. Цітовіча), "Люблю наш край" (аранжыроўка А. Багатырова і Кс. Барысаўца, сл. К. Буйла; саліравалі: Р. Касьцюк, Люд. Літаровіч і Л. Махнюк).

Закончылася ўрачыстасьць адсьпяваньнем Беларускага Нацыянальнага Гімну.

*Яз. Дольны.*

**УГОДКІ 25 САКАВІКА Ў НЬЮ ЁРКУ**

56-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі былі ўрачыста адзначаныя беларусамі Нью Ёрку й аколіцаў 31 сакавіка 1974 г.

Урачыстасьць пачалася Божаю Службай, якая складалася з Літургіі й Малебена за беларускі народ, адслужанай а. прат. **Сьвятаславам Каўшом**, у беларускай праваслаўнай царкве сьв. **Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіл** (Нью Ёрк). Закончылася Божая Служба адсьпяваньнем "Многая лета" і царкоўнага гімну "Магутны Божа".

Пасьля Божае Службы ўсе перайшлі ў залю Беларускага Грамадзкага Цэнтру, дзе адбылася ўрачыстая акадэмія. Акадэмія пачалася адсьпяваньнем Амэрыканскага Нацыянальнага Гімну, пасьля чаго сп. **К. Мярляк** — старшыня Беларуска-Амэрыканскага Аб'еднаньня Нью Ёрку прадставіў прысутным кангрэсмэна **Джозэфа П. Аддоббо**, які вельмі цёпла прывітаў прысутных і наагул беларусаў з іхнім днём незалежнасьці ды пажадаў хуткага вызваленьня з-пад расейска-савецкай няволі, свабоды для Беларусі й усіх паняволеных народаў.

Прывітаў прысутных і сказаў уступнае слова сп. **К. Мярляк**, які і далей кіраваў акадэміяй. Рэфэрат на тэму прачытаў а. прат. **С. Коўш**. У рэфэраце была зьвернута ўвага на сучаснае палітычнае становішча, якое ня спрыяе вызвольнай барацьбе беларусаў і ўсіх паняволеных народаў.

З прысутных гасьцей віталі беларусаў наступныя прадстаўнікі: сп. **Альбэрт Айсьлі** — ад Фэдэрацыі Амэрыканцаў Нямецкага Паходжаньня, др. **В. Гласкоў** — старшыня Казацкага Прадстаўніцтва за Рубяжом, др. **Іван Дочэф** — старшыня Балгарскае Лігі Вызваленьня і старшыня Амэрыканскіх Прыхільнікаў АБН, сп. **Томас Дудрык** — ад славацкага народу, сп. **Мыкола Чорны** — ад Украінскаге Праваслаўнае Царквы.

Сп. **Васіль Мельяновіч** вітаў прысутных ад беларусаў штату Мэрылэнд. Ён-жа прачытаў Праклямацыі губэрнатараў штатаў Нью Ёрк, Нью Джэрзі і Канэктыкат аб прызнаньні дня 25 сакавіка Беларускім Днём Незалежнасьці ў гэтых штатах.

Усьлед за гэтым, сп. **К. Мярляк** прачытаў прывітаньні ад Віцэ-Прэзыдэнта ЗША, ад сэнатара **Дж. Баклі** і сэнатара **Дж. Джэвіца**; Пералічыў іншых сэнатараў і кангрэсмэнаў ЗША, сэнатараў штату і сяброў Асамблеі шт. Нью Ёрк, а таксама іншанацыянальныя і беларускія арганізацыі, якія прыслалі свае прывітаньні.

Прысутныя на Акадэміі мелі нагоду пабачыць і захапляцца беларускімі нацыянальнымі танцамі, па-мастацку выкананымі сяброўкамі Арганізацыі Беларускае Моладзі ў Амэрыцы ды пачуць дэклямацыі сп-чны **Раісы Станкевіч**.

Афіцыйная частка Акадэміі закончылася адсьпяваньнем Беларускага Нацыянальнага Гімна "**Мы выйдзем шчыльнымі радамі**".

Трэцяй часткай Акадэміі быў банкет, пад час якога прадаўжаліся прамовы. На асаблівую ўвагу заслугоўваць выступленьні інж. **. Касяка** — старшыні БККА і сп-ні **Зіны Станкевіч**, якая сапраўды кранула сэрцы прысутных.

**Прысутны.**

*ХОР "КАЛІНА" І ТАНЦАВАЛЬНЫ АНСАМБЛЬ У КАЛЕДЖЫ ДЖЭРЗІ СІТЫ.*

21 красавіка 1974 г. беларускі жаночы хор "Каліна" пад кіраўніцтвам камп. Кс. Барысаўца і танцавальная група Згуртаваньня Беларуска-Амэрыканскай Моладзі пад кір. Г. Тумаш, вельмі ўдала рэпрэзантавалі беларускую песьню і беларускія народныя танцы на фэстывалі ўсходня-славянскае музыкі і танцаў, ладжаным Славянскім Усходня-Эўрапейскім Клюбам пры штатным каледжы Джэрзі Сіты.

Актыўны ўдзел у арганізацыі гэтага фэстывалю прыняла студэнтка — беларуска па паходжаньню — Р. Драздоўская, якая зьяўляецца віцэ-прэзыдэнтам вышэй успомненага Клюбу.

*АТРЫМАЛІ ВЫШЭЙШУЮ АСЬВЕТУ.*

У Ратгэрскім унівэсытэце ў Нью Брансвіку, Н. Дж., закончылі студыі сяброўкі ЗБ-АМ з Саўт Рывэру: сп-чна Н. Барысавец са ступеньню магістра бібліятэчнай справы, сп-чны Л. Цупрык і О. Бычкоўская са ступеньню бакалаўраў.

Рэдакцыя час. "Беларуская Думка" віншуе іх з заканчэньнем унівэрсытэту і шчыра жадае ім посьпеху ў будучыні.

### *30-ыя ЎГОДКІ II УСЕБЕЛАРУСКАГА КАНГРЭСУ І МАБІЛІЗАЦЫІ Б.К.А.*

27 чэрвеня 1974 г. спаўняецца 30 гадоў ад часу, калі ў сталічным горадзе Менску быў скліканы II Усебеларускі Кангрэс. Незважаючы на няспрыяльныя ўмовы ваеннага часу, беларускі народ здабыўся на вялікі нацыянальны чын. На Кангрэс прыбыло 1039 дэлегатаў з усіх этнаграфічных акругаў Беларусі.

На заканчэньне сваіх нарадаў, II Усебеларускі Кангрэс прыняў рэзалюцыю, у якой пацьвердзіў пастановы I Усебеларускі Кангрэс і Акт 25 Сакавіка 1918 г. аб незалежнасьці Беларусі.

II Усебеларускі Кангрэс таксама прыняў пастанову, што беларускі народ не прызнаваў, не прызнаé і ня прызнáе ў будучыні накіненых яму чужацкімі акупацыямі формаў дзяржаўнае ўлады.



**АБВЕСТКА**

23 чэрвеня 1974 г. адбудзецца сьвяткаваньне 30-х угодкаў Другога Усебеларускага Кангрэсу і БКА. У гэты дзень будзе высьвечаны помнік барацьбітам за Вольную Беларусь.

Запрашаем усё грамадзтва прыняць удзел у гэтай урачыстасьці.

Сьвяткавальны Камітэт.

**‚Беларуская Думка' выдаецца коштам ахвяраваньняў людзей добрае волі. Злажы і ты сваю ахвяру!**



Пры Беларуска-Амэрыканскім Грамадзкім Цэнтры заснованы Беларуская бібліятэка, Архіў і Музээй.

Просім суродзічаў падтрымаць гэтыя інстытуцыі, дасылаючы беларускія кнігі і друкі, матар'ялы ў Архіў і экспанаты ў Музэй, на адрас рэдакцыі "Б.Д."

Рэдакцыйная Калегія: Л. Галяк, А. Даніловіч (галоўны рэдактар), М. Кавыль, I. Касяк, пратапр. а. М. Лапіцкі, Д-р М. Шчорс.

Адрас Рэдакцыі: A. Danilovich, 34 Richter Ave., Milltown, N. J., 08850

Выдавец — Беларускае Выдавецкае Таварыства: Старшыня — Б. Шчорс, Сакратар — Міхась Сенька, Скарбнік — Міхась Палюховіч.

